*—Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
3
КРАСАВІКА
1992 г.
№ 14 (3632)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ — 50 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)






Напачатку было Слова... Можа, яно і так, але, пазнаёміўшыся з творчасцю Паўла Апанасавіча Семчанкі, прыходзіш да высновы, што, магчыма, усё ж напачатку была Літара...

Літара, як знак быцця.

Павел Семчанка—выкладчык Беларускай акадэміі мастацтваў, акрамя таго, адзіны на Беларусі тэарэтык шрыфтавога мастацтва. Высокая графічная культура выхаванцаў акадэміі не ў малой ступені—ягоная заслуга.

В. БОГУШ.

Фота У. ПАНАДЫ.

# Кола Дзён

**26 САКАВІКА** По ініцыятыве Саюза прадпрымальнікаў Беларусі ў Мінску прайшла першая сустрэча прадпрымальнікаў краін СНД. Пра нейкія канкрэтныя вынікі перамоваў гаварыць пакуль рана — меркаваць пра іх можна будзе, відаць, толькі на падставе практыкі дзелавога партнёрства. Але сустрэчы на ўзроўні неўрадавых структур сёння, бадай, больш перспектыўныя, чым афіцыйныя перамовы на вышэйшым узроўні, пра вынікі якіх часам проста нічога невядома...

**27 САКАВІКА** На кансультацыйнай нарадзе кіраўнікоў парламентаў Садружнасці ў Алма-Аце было прынята рашэнне аб стварэнні міжпарламенцкай асамблеі. Пры гэтым усе ўдзельнікі падкрэслівалі, што яна не будзе з'яўляцца наддзяржаўнай арганізацыяй. Але дзеля чаго гэты орган патрэбны, якімі будуць яговы функцыі — засталося няясным. Украінская дэлегацыя наогул падпісаць дакумент адмовілася. І такую пазіцыю можна зразумець: у парламента незалежнай дзяржавы ёсць свае неадкладныя і важныя задачы ўнутры ўласнай краіны. Спрабаваць жа вырашыць усе праблемы ўсіх дзяржаў разам, ды яшчэ з дапамогай нейкага штучнага ўтварэння — задача невырашальная...

**28 САКАВІКА** Адна з важнейшых праблем, якая паўстала сёння перад беларускай дзяржавай і якую ніхто не зможа вырашыць, апрача яе самой,— гэта праблема нацыянальнай адукацыі, беларусізацыі школы. Канферэнцыя на тэму: «Беларуская школа» адбылася ў Мінску. Аднак ні дзяржаўныя органы кіравання, ні дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі не праявілі амаль ніякай цікавасці да яе. Не да таго зараз?..

**29 САКАВІКА** У нядзелю Беларусь перайшла на летні час. Летні час — новы расклад пасажырскага руху, новыя рэйсы... У гэты дзень афіцыйна адкрыўся новы авіярэйс: Мінск — Франкфурт-на-Майне (ФРГ). Палёты на «Боінгах-737» забяспечвае сусветна вядомая кампанія «Люфтганза». Інфармацыя гэтая, аднак, можа зацікавіць толькі тых, у каго ёсць СКВ або неабмежаваная колькасць рублёў. Для многіх і палёты ў суседнія краіны СНД будуць праблемай, бо ў красавіку «Аэрафлот» яшчэ раз узняў цэны на білеты...

**30 САКАВІКА** Лічыць і асабліва дзяліць грошы, як усім вядома, — задача не з простых. Асабліва, калі гэтым займаюцца дзяржавы. Кіраўнікі нацыянальных банкаў СНД, аднак, паспрабавалі дамовіцца па фінансавых пытаннях у Заслаўі, ва ўрадавай рэзідэнцыі. Вырашылі, у прынцыпе, стварыць міжбанкаўскі каардынацыйны савет. (Як і можна было чакаць, Украіна прынятыя дакументы падпісаць адмовілася — у яе прадстаўнікоў не было для гэтага паўнамоцтваў). На прэс-канферэнцыі па выніках нарады старшыня Нацыянальнага банка Беларусі С. Багданкевіч зрабіў сенсацыйнае паведамленне: першая партыя беларускіх талераў ужо аддрукавана і дастаўлена ў рэспубліку з-за мяжы. Але, паводле яго слоў, сёлета свая валюта на Беларусі ўведзена не будзе. Было абвергнута і паведамленне аб увядзенні з мая шматразавых купонаў. Так што, відаць, па-ранейшаму застаёмся ў «рублёвай зоне» разам з сябрамі... па Садружнасці. У той жа дзень, і таксама ў Заслаўі, праходзіла сустрэча міністраў аховы здароўя і галоўных санітарных урачоў СНД. А Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі С. Шушкевіч сустракаўся з дэпутатамі мясцовых Саветаў. У ходзе сустрэчы ён зноў адстойваў неабходнасць СНД. Праўда, аб яго перспектывах Старшыня ВС гаварыў без асаблівага аптымізму. (Што і казаць, падзеі ў Малдове і Нагорным Карабаху месца для аптымізму не пакідаюць...).

**31 САКАВІКА** Кіраўніцтву Расіі ўдалося здзейсніць тое, пра што марыў М. Гарбачоў. У Маскве быў падпісаны Федэратыўны дагавор паміж суб'ектамі, якія ўваходзілі раней у РСФСР. Падпісаць дагавор адмовіліся пакуль Татарстан і Чачня, але гэта не перашкодзіла адзначыць падзею святочным салютам у сталіцы Расійскай Федэрацыі...

**1 КРАСАВІКА** П. Чавус, які выконвае абавязкі міністра абароны Беларусі, прыбыў у Брусель — на першую ў гісторыі сустрэчу міністраў абароны краін НАТА, Усходняй Еўропы і СНД. Заходніх калег найбольш цікавіць, вядома, пытанні, звязаныя з ядзернай зброяй на тэрыторыі былых савецкіх рэспублік.

# Не разбураць, а ствараць

У мінулыя выхадныя ў Мінску прайшла навукова-практычная канферэнцыя «Беларуская школа», наладжаная Беларускім гуманітарным адукацыйна-культурным цэнтрам. Вызначальнымі тэмамі канферэнцыі былі «Выхаванне нацыянальнай свядомасці й родная мова» і «Нацыянальнае выхаванне як неад'емная частка гарманічнага выхавання».

У рабоце канферэнцыі ўзялі ўдзел такія вядомыя дзеячы навукі і культуры, як Л. Баршчэўскі, А. Белакоз, А. Грыцкевіч, М. Ермаловіч, У. Конан, А. Мальдзіс, М. Ткачоў, Ю. Хадыка і іншыя. На канферэнцыю прыехалі не толькі навукоўцы і настаўнікі з розных мясцін Беларусі, але і прадстаўнікі беларускіх сябрын з Беласточчыны, Вільні, Санкт-Пецярбурга. Не змог прыехаць у Мінск Л. Луцкевіч, але яго змястоўны даклад, прысвечаны гісторыі славутай Віленскай Беларускай гімназіі, быў прачытаны з трыбуны канферэнцыі. А вось з якой прычыны не адбылося ўключанае ў праграму выступленне міністра народнай адукацыі Беларусі В. Гайсёнка, сказаць цяжка.

На адкрыцці канферэнцыі выступіў дырэктар Беларускага гуманітарнага цэнтра У. Колас. (Дарэчы, многія з тых, чые імёны названы вышэй, выкладаюць сёння ў ліцэі, з якога і пачынаўся гэты цэнтр.) Спасылаючыся на практыку некалькіх год работы ліцэя, дырэктар БГАКЦ падкрэсліў усю складанасць праблем пераўтварэння сістэмы народнай адукацыі на Беларусі. Сёння неабходна канцэпцыя беларускай нацыянальнай школы. (Над яе стварэннем працуе, у прыватнасці, Навукова-адукацыйны цэнтр імя Ф. Скарыны.) Было б недаравальнай памылкай, бяздумна разбурыць старую савецкую сістэму навучання, не стварыўшы замест яе больш дасканалую новую, якая б спалучыла ў сабе ўсе лепшыя набыткі еўрапейскага школьніцтва з уласнымі нацыянальнымі традыцыямі і каштоўнасцямі.

Галоўная дыскусія разгарнулася на канферэнцыі пасля дакладаў у секцыях — «Беспераппыннасць нацыянальнай адукацыі», «Роля выкладання гісторыі і грамадазнаўчых дысцыплін у беларускай нацыянальнай школе», «Дысцыпліны прыродазнаўчага цыкла...» і «Філалагічныя дысцыпліны...» Работай секцый кіравалі Л. Баршчэўскі, П. Васючэнка, А. Трусаў і інш.

У час канферэнцыі быў паказаны кінафільм навучальнай студыі БГАКЦ — «Беларусь: лета-91», прысвечаны стварэнню скаўцкага лагера.

НАШ КАР.

# Армія і пісьменнікі: пошукі адзінства

Рада Саюза пісьменнікаў Беларусі і Асацыяцыя пісьменнікаў баталістаў і марыністаў рэспублікі правялі «круглы стол» на тэму «Літаратура, гісторыя і сучасная армія». Удзел у яго рабоце прынялі не толькі літаратары, а і ваеннае начальства. Гэта, пэўна, і паспрыяла таму, што гаворка адбылася вострая, крытычная, і пытанні закраналіся ў ёй самыя розныя. Скажам, шмат гаварылася пра так званыя нестатутныя ўзаемаадносіны, «дзедаўшчыну». Хіба панацэя тут толькі ў фарміраванні падвяскоўцаў, на дэмакратаў і не дэмакратаў.

Горшае, што зніжаецца сам прэстыж воінскай службы. Ужо не толькі прызваныя з запасу па розных прычынах ухіляюцца ад яе, пішуць рапарты аб звальненні маладыя афіцэры; нядаўнія выпускнікі вучылішча лічаць за лепшае своечасова памяняць спецыяльнасць. І ў сувязі з гэтым прагучала крыўда вайскоўцаў на тое, што некаторыя газеты агулам ахайваюць армію, называюць усіх армейцаў «шэрай масай».



раздзяленняў па нацыянальным прызнаку? Канечне, нацыянальная армія неабходна і ў гэтым ніхто не сумняваецца. Але сказаць, што адразу з утварэннем яе знікнуць тыя ж нестатутныя ўзаемаадносіны, значыць пакрывіць душой. Прыводзіўся на пасяджэнні красамоўны прыклад. Ёсць ужо ў Мінску невялікае падраздзяленне, дзе служаць адны беларусы, чуткі аб ім пайшлі па акрузе, нямала ахвочых трапіць служыць абавязкова сюды. А на справе? Да ідыліі, на жаль, далёка, бо і тут паміж салдатамі таксама няма адзінства: адбыўся своеасаблівы падзел на мінчукоў і не мінчукоў, на гарадскіх і

Закраналіся пытанні выхавання патрыятызму. Адзначалася, што неабходна выхоўваць сённяшніх салдат на багатай нацыянальнай гісторыі.

На пасяджэнні «круглага стала» выступілі старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі В. Зуёнак, прэзідэнт Асацыяцыі пісьменнікаў баталістаў і марыністаў Беларусі А. Сульянаў, камандуючы арміяй супрацьпаветранай абароны ЧБВА генерал-лейтэнант В. Асмалоўскі, Т. Грамадчанка, старшыня Беларускага згуртавання вайскоўцаў М. Статкевіч, Н. Пашкевіч, І. Шамякін, І. Чыгрынаў, Г. Пашкоў, В. Дашкевіч. М. Ткачоў, А. Асіпенка і іншыя.

НАШ КАР.

# У ФІЛФАКА — НАВАСЕЛЛЕ

На мінулым тыдні канчаткова пераехаў у будынак колішняй Вышэйшай партыйнай школы філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта.

Пасля шматгадовых пакут у складаных навучальных умовах (заняткі часам ішлі ледзь не на калідоры) другі па колькасці студэнтаў факультэт БДУ нарэшце атрымаў больш-менш прыстойнае памяшканне на вул. К. Маркса, якой, магчыма, у хуткім часе вернуць старую назву — Падгорная. Але ж гаспадаром будынка факультэт беларускай філалогіі не стаў. Па-першае, адзін паверх заняў самы малады факультэт універсітэта — філасофска-эканамічны. Па-другое, пад адным дахам з намі працягваюць сядзець яшчэ і «студэнты» апошніх курсаў інстытута паліталогіі, створанага замест партшколы, ды некалькі малых прадпрыемстваў.

Але ж мы — аптымісты. Адразу ў новым будынку філалагічнага факультэта прайшоў вечар яго выпускнікоў. На ўрачыстасці дэкан факультэта член-карэспандэнт АН Беларусі, прафесар Алег Антонавіч Лойка паведаміў аб канцэпцыі будучыні філалагічнага факультэта, аб мяркуемым стварэнні на яго аснове нацыянальнай школы філалогіі і беларусістыкі. Ад імя выпускнікоў выступілі доктар філасофскіх навук Вадзім Салееў, аспірант Мінскага педінстытута Ірына Рагуновіч, настаўнікі, філолагі, што закончылі факультэт 25 — 30 гадоў назад. Цяперашнія студэнты паказалі літаратурна-мастацкую кампазіцыю па матывах творчасці Вацлава Ластоўскага, у якую цудоўна ўпісаліся гістарычныя песні гурта «Камэлот», што нагадалі слухачам часы Вялікага княства Літоўскага. У канцэрце ўзялі ўдзел студэнт філфака Валерый Пазнякевіч і фальклорная суполка «Ліцьвіны» Уладзіміра Берберава з галасіста-залівістай дудой-валынкай у цэнтры іх кампазіцый. Вышэйназваны гурт «Камэлот» у складзе З. Сідаровіча, А. Кішкіна, І. Войніча і В. Агеева праспяваў яшчэ некалькі меладычных песень ужо часоў эпохі барока на Беларусі. І апошнюю кропку паставіў бард Алег Атаманаў, таксама выпускнік філфака.

І. ЯНЧУК.

# Дбаў пра беларускую дзяржаву

Не забудземся 4 красавіка прыгадаць добрым словам чалавека, які належыць да самых выдатных нацыянальных дзеячаў. Менавіта ў гэты дзень спаўняецца 435 гадоў з дня нараджэння выдатнейшага палітычнага дзеяча сярэднявечнай Беларусі Льва Сапегі.

Пісар вялікі літоўскі, падканцлер літоўскі, канцлер вялікі літоўскі... Менавіта ён, Л. Сапега, чалавек надзіва адораны, пісьменнік-публіцыст, быў сярод тых, хто садзейнічаў стварэнню Статута 1588 года, напісаў да яго дзве прадмовы. Статут жа, як мы ведаем, дзейнічаў на тэрыторыі Беларусі да 1840 года. Гэта быў дакумент, які працаваў у імя беларускасці: «А пісар земскі мае па-рускy, літарамі і словамі рускімі ўсе лісты, выпісы і позвы пісаць, а не якой іншаю моваю і словамі».

Тое, што ўжо разумеў Л. Сапега, не могуць, не жадаюць зразумець сёння многія «інтэрнацыяналісты». Ці не таму так доўга і замоўчвалася яго імя? Ці не таму, калі часам і згадвалася, дык з «класавых пазіцый»? Дзякуй Богу, справядлівасць вяртаецца і ў дачыненні да вялікага канцлера літоўскага. Менавіта ў гэтыя дні з'явілася чарговая кніга ў серыі «Нашы славутыя землякі» выдавецтва «Навука і тэхніка». Яна напісана І. Саверчанкам і называецца «Канцлер Вялікага княства».

А. А.

# ПАДТРЫМАЦЬ ЗАКОН АРГАНІЗАЦЫЙНА

**З нагоды другой гадавіны прыняцця Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь Камісія Вярхоўнага Савета па культуры, адукацыі і захаванні гістарычнай спадчыны і Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны правялі «круглы стол», у якім удзельнічалі і адказныя работнікі органаў дзяржкіравання. Паводле матэрыялаў нарады ў камісіі падрыхтавана паведамленне для друку, якое даслаў у рэдакцыю сакратар камісіі, народны дэпутат Беларусі Яўген ЦУМАРАЎ.**

Прааналізаваўшы інфармацыйныя матэрыялы, прадстаўленыя міністэрствамі, ведамствамі і ўстановамі, грунтуючыся на паведамленнях грамадзян і публікацыях рэспубліканскага друку, камісія адзначае, што пры наяўнасці пэўных дасягненняў маюць месца і негатыўныя з'явы ў галіне моўна-культурнай палітыкі. Хаця прыняты канстытуцыйны Закон аб дзяржаўным суверэнітэце рэспублікі, адказнасць службовых асоб за выкананне патрабаванняў заканадаўства Беларусі, накіраванага на зберажэнне і развіццё моўна-культурнай спадчыны рэспублікі, працягвае заставацца невыразнай. Палажэнні Закона аб мовах, Дзяржаўнай праграмы яго ажыццяўлення, якія вызначаюць у якасці прыярытэтаў адраджэнне беларускай мовы, нацыянальнай культуры і дзяржаўнасці, не сталі законам у службовай дзейнасці кожнага дзяржаўнага служачага — ад міністра да дырэктара школы, інжынера, работніка ніжэйшага звяна дзяржаўнага і гаспадарчага кіравання.

З боку органаў пракуратуры Рэспублікі Беларусь адсутнічае пракурорскі нагляд, органамі Дзяржкамстату не вядзецца статыстыка і сістэмны аналіз з'яў і праблем, звязаных з ходам ажыццяўлення Закона аб мовах. Некаторыя палажэнні Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў, а таксама шэраг адпаведных рэгіянальных і ведамасных праграм носіць дэкларатыўны характар, не падмацаваны канкрэтнымі арганізацыйнымі мерамі. Правядзенне многіх мерапрыемстваў, якія павінны служыць выкананню Закона аб мовах, неапраўдана расцягнута па часе і ў шэрагу выпадкаў ажыццяўляецца неэфектыўна.

У сувязі з гэтым Камісія па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны лічыць мэтазгодным устанавіць адміністрацыйную і іншую адказнасць за невыкананне палажэнняў Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь, Дзяржаўнай праграмы развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў. Органам дзяржаўнага кіравання рэспублікі трэба прыняць канкрэтныя меры па ажыццяўленні Закона аб мовах, прадугледзеўшы ў адпаведных рэгіянальных і ведамасных праграмах развіцця мовы сістэму неадкладных мер і мерапрыемстваў, устанавіўшы канкрэтную адказнасць за іх выкананне.

Варта прадугледзець, каб у органах дзяржаўнага кіравання, на прадпрыемствах, ва ўстановах і арганізацыях у межах існуючага штатнага раскладу вызначалася службовая асоба, адказная за каардынацыю дзейнасці, накіраваную на ажыццяўленне Закона аб мовах, і надзеленая правамі, дастатковымі дзеля выканання гэтых абавязкаў.

Адным з важнейшых прыярытэтаў з'яўляецца пашырэнне беларускага слова ў сродках масавай інфармацыі рэспублікі і кнігадрукаванні. У адпаведнасці з гэтым лічыць задачай першаступеннай дзяржаўнай важнасці забеспячэнне фінансамі, паперай і іншымі матэрыяльна-тэхнічнымі рэсурсамі выданне газет, часопісаў, кніг і іншай друкаванай прадукцыі на беларускай мове. Мэтазгодна стварыць у рэспубліцы грамадска-дзяржаўны фонд абароны беларускага кнігадрукавання і сродкаў масавай інфармацыі, прадугледзеўшы адлічэнне ў яго як бюджэтных фінансавых сродкаў, так і сум падаткаў і плацяжоў, атрыманых непасрэдна ад ажыццяўлення выдавецкай дзейнасці на мовах іншых дзяржаў.

Паскорыць таксама распрацоўку і прыняцце праектаў нарматыўных актаў Рэспублікі Беларусь аб друку, аб выдавецкай дзейнасці, аб аўтарскім праве, аб ганарары, паслядоўна рэалізуючы ў іх прынцып прыярытэтнага забеспячэння беларускага кнігавыдання, а таксама дзейнасці беларускіх сродкаў масавай інфармацыі. Ажыццявіць рэарганізацыю Беларускага тэлеграфнага агенцтва, ператварыўшы яго ў нацыянальную інфармацыйную службу, закліканую забяспечваць сродкі масавай інфармацыі, органы дзяржаўнага кіравання, установы, арганізацыі і грамадзян Беларусі разнастайнай інфармацыяй з жыцця рэспублікі, у тым ліку моўна-культурнага характару.

# Не «дзядзька»— беларусы ў Вільні!



С. Шушкевіч сярод гледачоў «Тутэйшых».

Дні беларускай культуры, што ладзіліся 25 — 27 сакавіка ў Вільні, прайшлі без помпы. У актавай зале Віленскага педінстытута, дзе перад спектаклем «Тутэйшыя» адбылася сустрэча артыстаў і кіраўнікоў тэатра імя Я. Купалы са студэнтамі, большасць месц засталіся незанятымі. Нехта можа павінаваціць беларускую культуру ў непапулярнасці. Нам жа бачылася за гэтым звычайная нерастаропнасць віленскіх беларусаў, якія, затраціўшы шмат намаганняў на здабыццё сродкаў у летувіскіх уладаў і арганізацыю Свята, проста фізічна не здолелі падумаць яшчэ і пра масавасць, касавасць ды пампезнасць.

Але свята адбылося. Перш за ўсё таму, што святкавалі самі віленчукі-беларусы: за гэта сведчыць аншлаг у Летувіскім акадэмічным тэатры драмы, беларуская мова, якая панавала ў кулуарах падчас антракта. Зрэшты, добра прылучыліся да віленскіх мерапрыемстваў і менчукі, якія пачувалі сябе на віленскіх вулках і ў гарбатнях як дома...

●

У дні Свята Вільня вітала беларускую незалежнасць. І перадусім, бадай, — незалежнасць тэатральную. На цьмяным фоне заслоны Летувіскага нацыянальнага тэатра ўрачыста ўздыхалі тры спадары. Першы з іх, летувіскі прэзідэнт, сцісла адзначыў, як прыгожа, што спатканне з падобнае нагоды адбываецца ў тэатральным доме; другі, Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі, крыху даўжэй казаў пра сваю ўсцешанасць летувіскім клопатам аб беларусах (так і мы мусім клапаціцца пра летувісаў на Беларусі) ды пра шматпакутнае дваццаць пятае сакавіка, якое можна цяпер святкаваць шчыра і не хаваючыся, а дасць Бог, і афіцыйна... На правах чалавека, які пражыў у Вільні семдзесят гадоў, спадарства вітаў Лявон Луцкевіч: «Асабліва дорага, што свята распачынае тэатр Купалы п'есай Купалы...»

«Надзвычайныя вы людзі, — казала ў той п'есе Ганулля Зносчыха Аленцы з Янкам, — калі ў такую скрутную часіну можаце падзяліцца сваёю радасцю...» Мы — шчыра дзяліліся сваёй найвялікшаю тэатральнаю радасць. Сказаць пра надзвычайны поспех «Тутэйшых» у Вільні — гэта паінфармаваць, што зала нацыянальнай акадэміі была перапоўнена, хоць тым самым вечарам Летувіскі маладзёжны тэатр даваў Гогалеў «Нос» у пастаноўцы Э. Някрошуса. Падчас спектакля застрэмілася думка, што толькі ў Вільні наш спектакль, узлюляны ды выпеставаны Менскам, мог бы жыць (ды жыць!)... І, усведамляючы, што рэцэнзаваць «Тутэйшых» не да месца, паддамся спакусе, заўважу, што менавіта ў Вільні, дзе, як і ў спектаклі, бажніцы розных канфесій толькі што не зазіраюць адна адной у вокны, вобразы, народжаныя Пінігіным ды Герлаванам, чытаюцца-перачытваюцца высока мастацкім «прыбіраннем» гісторыі: ці ж не яна, спадарыня-таварышка, між двума светамі-сімваламі, між іхнім бясконцым непрыхаваным супрацьстаяннем, уплішчыла...

(Працяг на стар. 14).



Выступаюць «Ліцьвіны».

# Дзень Волі ў Магілёве

25 сакавіка — Звеставанне, дзень, калі на Беларусі гукалі вясну, якая з'яўлялася ў выглядзе вольных птушак, Дзень Волі, дзень утварэння БНР.

У гэты дзень у Магілёве, у памяшканні Мастацкага музея, намаганнямі сяброў культурна-асветніцкай суполкі «Машэка» быў наладжаны канцэрт, прысвечаны Дню Волі. Пра ўтварэнне БНР расказаў член Рады суполкі, сябра БСДГ, студэнт педінстытута С. Валявата. А потым гучалі беларускія спевы ў выкананні сяброў суполкі з педагагічнага вучылішча, вучылішча культуры (кіраўнік Л. Кузьменка), музычнага вучылішча (кіраўнік Л. Зыкава); выконваў беларускія духоўныя і народныя творы камерны хор г. Магілёва пад кіраўніцтвам С. Лішчанкі. «Магутны Божа» і «Лявоніха», вяснянкі і купальскія спевы, жартоўныя сцэнкі і ўрыўкі з твораў Я. Коласа, У. Караткевіча, аўтарская песня ў выкананні І. Мухіна — усё гэта добра стасоўвалася са святам.

**І. ПУШКІН,**
**сябра суполкі «Машэка».**

г. Магілёў.

# «ПОГОНЯ» І ...НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГОНАР

**Ці трэба нагадваць, што да нацыянальных сімвалаў неабходна ставіцца з павагай? Аказваецца, трэба. Як ні дзіўна, а ў нас з гэтымі самымі сімваламі робіцца нешта не тое. Даходзіць часам ці не да спекуляцый на іх.**

**Прайдзіце, скажам, па калідорах Дома друку ў Мінску. Абапал — дзверы шматлікіх рэдакцый. Да старых дадалося нямала і новых. Што ж, як кажуць, дай Бог. Ды вось штука: амаль усе новыя выданні выходзяць на расейскай мове. А хочацца паказаць, што і яны — за беларускасць, за нацыянальнае Адраджэнне. І робяць гэта вельмі проста. Напрыклад, у рэдакцыі газеты «Предпринематель» дамалявалі каля шыльды бел-чырвона-белы сцяжок...**

**У рэдакцыі ж «Советской Белоруссии» «адраджаюцца» іншым шляхам. На беларускую мову калегі-спадары пераходзіць не збіраюцца, назву газеты мяняць не хочуць, тлумачачы гэта прывязанасцю да «гістарычнай назвы» (хоць раней усё ж была «Савецкая Беларусь»). А вось сімвал адраджэнскі скарысталі. Якім чынам? У «Советской Белоруссии» па суботах з'явілася газета ў газеце «Погоня». На рускай мове, вядома, але — з выявай вершніка на кані, далёкай, праўда ад нацыянальнага герба.**

**Ды найбольш здзіўляе іншае. Мо нават і абурае. Падбор матэрыялаў для «газеты ў газеце». Не, гэта не публікацыі, якія расказваюць пра нацыянальнае Адраджэнне на Беларусі, хоць логіка падказвае менавіта такую думку. Ды ў супрацоўнікаў «СБ» свая логіка.**

**Якая яна? Пазнаёмцеся з апошнім выпускам «Погони» ў нумары газеты ад 28 сакавіка. На першай старонцы — карэспандэнцыя «І тады грымнуў стрэл...»: пра тое, як п'яніца ў адной з вёсак страляў па людзях, забіў міліцыянера... На другой старонцы — «Маці, сын, бацька і... трагічны канец». Тут ужо бацька... забіў сына. Поруч допіс «Згаслі надзеі»: пра мінчаніна Б., якога затрымалі тэмажнікі ў Брэсце са 100 мініяцюрнымі будзільнікамі і 49 механічнымі наручнымі гадзіннікамі. На трэцяй старонцы «Погони» — ажно тры інфармацыі, пра ўсё тое ж — крадзёж, аварыя са смяротным зыходам...**

**Ёсць, аднак, у «газеце» і іншыя паведамленні: «Аванс будзе. Справа за палучкай...» (пра эканамічнае становішча Мінскага электрамеханічнага завода), «Служба ёсць служба» (як адзін салдат вырашыў апошнія два месяцы служыць на Беларусі). «Канвертыруемы спірт» (усім зразумела). А яшчэ расказваецца пра адну з выставак у Мінску («Прадстаўляе «Касмапаліт»), пра тое, што ў некаторых гарадах студэнтам робяць скідку пры наведванні кінатэатраў («Студэнт, пойдзем у кіно!»).**

**Вось і гадай, чытач, якой логікай усе гэтыя публікацыі аб'яднаны назвай «Погоня».**

**А пры чым тут гонар? Ды, па шчырасці, мы не напаміналі б пра яго, калі б ні надарылася прачытаць пра яго ў той жа самай «Советской Белоруссии». Адзін з яе чытачоў у нататцы «А талер дык нянаскі...», даказваючы, што такая грашовая адзінка зусім не нацыянальная, заяўляе: «І калі ў нас засталося хоць нейкае пачуццё славянскай гордасці, дык не трэба «разменьвацца» на чужыя нам талеры!» Не ведаем, ці падзяляюць такія развагі супрацоўнікі «СБ». І ўсё ж хочацца сказаць: пакінем у спакоі славян. І не славян — таксама. Хай яны самі за сябе вырашаюць. А вось у сваім нацыянальным доме хочацца, каб нацыянальны гонар прысутнічаў.**

**ЛІМАВЕЦ.**

# КЛОПАТ ПРА КНІГУ — ГАЛОЎНЫ КЛОПАТ

**Споўнілася 20 гадоў выдавецтву «Мастацкая літаратура». З гэтай нагоды наш карэспандэнт гутарыць з галоўным рэдактарам выдавецтва, вядомым пісьменнікам, лаўрэатам Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа Серафімам АНДРАЮКОМ.**

**— Серафім Антонавіч, каб гаварыць пра сённяшнія выдавецкія справы, ці не варта вярнуцца да вытокаў выдавецтва? Да таго дня, калі ў ЦК Кампартыі Беларусі з'явіўся дакумент аб стварэнні ў рэспубліцы новага выдавецтва?**

— Так, пастанова Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі і Савета Міністраў БССР «Аб стварэнні выдавецтва «Мастацкая літаратура» была падпісана 6 сакавіка 1972 года. Новае выдавецтва заснавана было на базе рэдакцый мастацкай і дзіцячай літаратуры выдавецтва «Беларусь», якое да 1963 года называлася Дзяржаўнае выдавецтва БССР (створана ў 1921 годзе). На «Мастацкую літаратуру» ўскладаўся, як зазначалася ў пастанове, «выпуск твораў беларускіх пісьменнікаў, у тым ліку для дзяцей і юнацтва, кніг па літаратуразнаўстве і крытыцы, а таксама твораў пісьменнікаў народаў СССР і замежных краін на беларускай мове». Заўважце, гаворка ідзе пра выданне твораў пісьменнікаў іншых народаў толькі на беларускай мове. Пастанова была падпісана П. М. Машэравым і Ц. Я. Кісялёвым.

**— Пэўна, не абышлося без захадаў творчай інтэлігенцыі? Час жа быў, як мы цяпер любім гаварыць, застойны, а тут — новае нацыянальнае выдавецтва...**

— На сённяшні дзень цяжка прыгадаць усе перыпетыі гэтай падзеі. Зразумела адно: тагачасны стан мастацкай літаратуры ў рэспубліцы, рост пісьменніцкай арганізацыі, ажыўленне перакладчыцкай дзейнасці аб'ектыўна патрабавалі рэзкага павелічэння колькасці беларускамоўных выданняў. Тагачасныя кіраўнікі выдавецтва «Беларусь» усяго гэтага як бы і не заўважалі. Сітуацыя неаднаразова абмяркоўвалася ў Саюзе пісьменнікаў, было падрыхтавана ад імя сакратарыята СП пісьмо ў ЦК КПБ. Пісьмо рыхтаваў і падпісаў Іван Мележ, тады адзін з сакратароў рэспубліканскай пісьменніцкай арганізацыі. Была пасля гутарка «наверсе» з Мележам, потым з сакратарыятам. У выніку — пастанова і стварэнне новага выдавецтва. Як бачым, і ў тыя часы можна было рабіць і рабілася нямала дзеля росквіту нацыянальнай культуры. Галоўнае — хоць нешта рабіць, у любых умовах.

**— Вы, здаецца, другі па ліку галоўны рэдактар «Мастацкай літаратуры», але ж, мусіць, ведаеце, як станавілася выдавецтва «на ногі»...**

— Хацеў бы ўдакладніць: я не другі галоўны рэдактар, а трэці. Першым быў Анатоль Кудравец, потым — Аркадзь Марціновіч, а з 1981 года ўжо я. Асабліва добра я не ведаю, як станавілася «на ногі» новае выдавецтва. Ёсць згадкі тых, хто тады пачынаў працаваць і працуе сёння ў ім, ёсць дакументы тых часоў. Напэўна, усё адбывалася так, як гэта і заўсёды робіцца ў такіх выпадках. Найперш быў прызначаны дырэктар. Ім стаў Мікола Ткачоў. Дарэчы, водгукі пра яго, як чалавека і кіраўніка тых, хто з ім працаваў, да сённяшніх дзён самыя добрыя. Падбіраліся іншыя кіраўнікі, вядучыя спецыялісты, распрацоўвалася і зацвярджалася структура выдавецтва, «Палажэнне аб выдавецтве «Мастацкая літаратура». Зацвярджалася ўсё гэта ў Дзяржаўным камітэце па друку. Згодна структуры выдавецтва было вылучана сем рэдакцый: рэдакцыя прозы; рэдакцыя паэзіі; рэдакцыя драматургіі, крытыкі і літаратуразнаўства; рэдакцыя выбраных твораў і збору твораў; рэдакцыя перакладной літаратуры; рэдакцыя па выпуску літаратуры для дашкольнікаў і малодшых школьнікаў і рэдакцыя па выпуску літаратуры для дзяцей сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту. Зразумела ж, вялася і штодзённая выдавецкая работа: ацэнка рукапісаў, мастацкае і графічнае афармленне, падрыхтоўка да друку, вычытка карэктуры.

**— Ці нельга нагадаць чытачам, якая першая кніга з'явілася з маркай «Мастацкай літаратуры»?**

— Назваць канкрэтна якуюсьці кнігу, якая першая з'явілася пад грыфам «Мастацкая літаратура», сёння наўрад ці магчыма. Можна нагадаць шэраг кніг, што былі першыя і што годна прадставілі чытачу новае выдавецтва. Гэта — першыя тамы збораў твораў Я. Коласа (у 14 тамах) і К. Чорнага (у 8 тамах), паэма А. Куляшова «Далёка да акіяна», кніга прозы Я. Брыля «Вітраж», раманы І. Пташнікава «Мсціжы» і І. Чыгрынава «Плач перапёлкі», у серыі «Бібліятэка беларускай паэзіі» — зборнікі вершаў А. Гурло і А. Русака, першая кніга прозы А. Жука «Асеннія халады»...

**— Цяпер выдавецтву — дваццаць... Самы раз пагаварыць аб набытках...**

— Так, дваццаць гадоў — для выдавецтва тэрмін немалы. Зроблена шмат. Дазволю некалькі лічбаў. За 1972—1991 гады выпушчана нашым выдавецтвам 3639 назваў кніг і брашур, з іх на беларускай мове 2.758, г. зн. 75,7 працэнта, па тыражы адпаведна 158,1 млн. экземпляраў і на беларускай мове 41,4, што складае 26,2 працэнты.

За прайшоўшыя гады выдавецтва ўдасканальвала структуру, больш выразна акрэсліваўся яго профіль, фармаваўся выдавецкі калектыў. У 1981 годзе на базе рэдакцый дзіцячай літаратуры было створана выдавецтва «Юнацтва». «Мастацкай літаратуры» пашчасціла, што яе ўзначальвалі, былі дырэктарамі такія людзі, як Мікола Ткачоў і Міхась Дубянецкі. Мне давялося працаваць з Дубянецкім, ведаць яго блізка. Гэта быў прыроджаны выдавец, чалавек шырокай эрудыцыі, высокага духоўнага і душэўнага ладу, працаўнік, бясконца ўлюбёны ў кнігу. Перакананы, што ўсё тое лепшае, што сёння вызначае аблічча выдавецтва, дапамагае яму выстаяць у нялёгкіх рыначных умовах, было закладзена гэтымі людзьмі ў тыя складаныя часы.

**— На вашу думку, якія серыйныя выданні даюць падставы гаварыць, што «Мастацкая літаратура» з гонарам трымае марку?**

— Пра тое, што «Мастацкая літаратура», як вы гаворыце, з гонарам трымае сваю выдавецкую марку, сведчаць не толькі серыі. Я асабіста, можа б, найперш звярнуў увагу на зборы твораў, асабліва тыя, што паводле сваёй тэксталагічнай падрыхтоўкі вызначаюцца, як навукова-масавыя. Назавём тут хаця б зборы твораў І. Мележа (у 10 тамах), М. Гарэцкага (у 4 тамах плюс вялікі дадатковы том). У. Караткевіча (у 8 тамах, у сваю чаргу восьмы том складаецца з дзвюх кніг), М. Зарэцкага (у 4 тамах). Тэксты навукова вывераныя, пракаменціраваныя. Кожнае выданне мае грунтоўны ўступны артыкул.

А выданні спадчыны? Спадчына — гэта фундамент, каранёвая сістэма нашай нацыянальнай культуры. Адносіны да мінулага вызначаюць духоўны стан грамадства, яго жыццеўстойлівасць. Сёння выданне спадчыны для нас — задача першаступеннай значнасці. Вызначана шырокая праграма. З мэтай найбольш планамернага і мэтанакіраванага ажыццяўлення гэтай праграмы распрацаваны серыі «Бібліятэка беларускай класікі», «Спадчына», «Помнікі беларускай літаратуры», «схаваная» серыя творчай спадчыны тых, хто загінуў у гады Вялікай Айчыннай вайны. Акрэслены перспектыўны план выдання літаратурна-крытычнай спадчыны. Упершыню ў практыцы беларускага кнігавыдання «Мастацкая літаратура» асвоіла выпуск факсімільных выданняў і перастварыла першыя кнігі М. Багдановіча, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Танка, К. Буйло, А. Гаруна — знакамітыя «Вянок», «Жалейка», «Песні-жальбы», «На этапах», «Курганная кветка», «Матчын дар». У хуткім часе чытач зможа пазнаёміцца з факсімільным узнаўленнем паэтычных зборнікаў Я. Лучыны «Вязанка», Н. Арсенневай «Пад сінім небам», Я. Купалы «Спадчына».

Калі гаварыць пра выдавецкія серыі, то кожная з іх мае сваё прызначэнне і свой сэнс. Даўно цікавыя аматарам роднага слова выданні серый «Бібліятэка беларускай прозы», «Бібліятэка беларускай паэзіі», «Паэзія народаў свету». Прывабнай і па адборы аўтараў і твораў, і па мастацкім афармленні з'яўляецца серыя «Бібліятэка замежнай прозы». А колькі маладых паэтаў і празаікаў прыйшло ў літаратуру праз выдавецкія серыі «Першая кніга паэта» і «Першая кніга празаіка»? Сёння найбольш грунтоўнымі мне ўяўляюцца серыі «Спадчына» і «Скарбы сусветнай літаратуры», бо менавіта ў іх відаць сапраўдны ўзровень выдавецкай культуры, шырыня погляду на выдавецкую справу.

**— Кажуць, з выданнем «Скарбаў сусветнай літаратуры» ўзніклі вялікія цяжкасці?**

— Не ведаю, што там хто кажа. Ніякіх асаблівых, тым больш вялікіх цяжкасцяў, якія ўзніклі з выданнем гэтай серыі, я не ведаю. Узнікла ў аднаго з супрацоўнікаў, настроенага на камерцыйны лад, думка прыпыніць выданне гэтай серыі як асабліва стратнае. Выказаў такую прапанову. На шчасце, ніякай падтрымкі ў выдавецтве прапанова гэтая не сустрэла. Наадварот, атрымала рашучае асуджэнне. Ні ў якой меры эпізод гэты не паўплываў на выданне серыі. Бачыцца іншае. Мы ўсе выхаваны сваім часам, мы развучыліся нармальна жыць, нармальна працаваць. Нам абавязкова патрэбна барацьба, прычым на нейкай ідэалагічнай аснове.

«Скарбы сусветнай літаратуры» выходзяць нармальна. Тут мы маем поўнае разуменне і падтрымку з боку Міністэрства інфармацыі. Па гэтай серыі ўжо выйшлі творы Апулея і Лонга, Буніна і Купрына, Вазава, Гётэ, Гогаля, Мана Т., Мерымэ, Хемінгуэя, Шаўчэнкі, Шэкспіра. Падрыхтаваны да выдання шэраг іншых аўтараў. Усе творы перакладаюцца з арыгінала. Мабілізавана, падключана да гэтай выдавецкай акцыі вялікая кагорта перакладчыцкіх сіл, асабліва маладых. Яны, перакладаючы «скарбы», сталеюць, удасканальваюць майстэрства, непасрэдна ўдзельнічаюць у стварэнні нацыянальнай культуры. Не будзем забываць, што выданне найвыдатнейшых твораў сусветнай літаратуры ў перакладзе на беларускую мову ў такім маштабе і на такім выдавецка-паліграфічным узроўні робіцца ў нас упершыню. Далучыць нашага чытача да скарбаў сусветнай літаратуры праз родную мову — на сённяшні дзень гэта задача вялікага культурнага значэння, калі хочаце, дзяржаўнага маштабу.

**— А як наогул працуецца сёння?**

— Няпроста і нялёгка. Папершае, матэрыяльнае забеспячэнне. Страшэнныя цэны. Тона паперы, якая раней каштавала 450 рублёў, сёння каштуе 18—22 тысячы. Няма кардону, пераплётных матэрыялаў, клею і г. д. Па-другое, друкарні. Самыя буйныя друкарскія прадпрыемствы абсталяваны на выданне шматтыражных кніг. Тыражы да 2 тысяч экземпляраў на паліграфкамбінаце імя Я. Коласа практычна не прымаюцца. А па нашым выдавецтве гэта складае 30 працэнтаў колькасці назваў. Па-трэцяе, заказы на беларускую літаратуру, на падставе якіх вызначаецца тыраж кнігі, маюць выразную тэндэнцыю да зніжэння. Дастаткова сказаць, што з тэматычнага плана на 1992 год 22 працэнты назваў не набралі заказу нават па адной тысячы экземпляраў. Страшэнна нізкія заказы бібліятэк. Цяжкасцяў больш чым трэба.

**— Калі ласка, колькі слоў пра вынікі мінулага года.**

— Вынікі не дужа суцяшальныя. Колькасць назваў усяго 118, з іх беларускамоўных — 98, тыраж агульны 2789 тысяч экземпляраў, на беларускай мове — 921 тысяча. Гэта самыя нізкія паказчыкі за ўсе апошнія гады. Хоць якасць (змест, характар) выпушчаных кніг, упэўнены, парадуе чытачоў, радуе нас. Якраз летась мы завяршылі выданне збораў твораў М. Гарэцкага, М. Зарэцкага, У. Караткевіча. Выйшлі цікавыя кнігі літаратуразнаўчай спадчыны: найбольш поўнае выданне твораў Ф. Багушэвіча, А. Гаруна, А. Абуховіча, кнігі М. Багдановіча, Б. Тарашкевіча. З. Астапенкі, М. Арла, С. Фаміна. Чытач атрымаў чатыры кнігі са «Скарбаў сусветнай літаратуры», актуальныя зборнікі «З гісторыяй на «Вы», «Матчына мова», «Скарыніч»... Думаю, напрамак дзейнасці выдавецтва, творчы настрой адпавядае ўвогуле патрэбам часу, патрэбам духоўнай атмасферы.

**— На які год прыпаў пік выданняў і пік тыражу?**

— Пік колькасці выданняў прыпаў на 1988 год — 173, з іх на беларускай мове — 131, тыражом 1.246 тысяч. А цяпер параўнаем з паказчыкамі мінулага года. Гэта не можа не хваляваць, не заклапочваць. Саюз пісьменнікаў расце, распрацавана праграма інтэнсіўнага выдання спадчыны, пераклады таксама не могуць чакаць... Усялякія малыя і сумесныя выдавецкія прадпрыемствы беларускую кнігу практычна не выдаюць. Спадзявацца на тое, што яны дапамогуць неяк палепшыць справу выдання беларускай кнігі, у мяне сёння няма ніякіх падстаў. Іхні клопат вілаць вельмі добра...

**— Нарэшце, апошняе пытанне. Як «Мастацкая літаратура» мяркуе выжыць?**

— Я асабіста так не драматызаваў бы сітуацыю. Ці не занадта часта мы паўтараем гэтае слова «выжыць». Ці можам мы будаваць суверэнную дзяржаву, адраджаць нацыянальную культуру з такім настроем — выжыць? Гляджу на справу аптымістычна. Беларусь набыла суверэнітэт, незалежнасць. Стала дзяржавай роўнай сярод роўных у сусветнай супольнасці. Але фундамент нашай нацыянальнай незалежнасці вельмі ж няўстойлівы. І не так у плане эканамічным ці палітычным, як духоўным. Не рынак, не раздзяржаўліванне і прыватызацыя, не прызнанне нашай рэспублікі іншымі дзяржавамі, а глыбокая нацыянальная ідэя, нацыянальная свядомасць народа народзяць сапраўдную незалежнасць. У выхаванні ж нацыянальнай свядомасці, у фармаванні асноватворнай нацыянальнай ідэі кніга, думаецца, павінна адыгрываць і адыгрывае першаступенную ролю. Таму клопат пра кнігу, кнігу беларускую, сёння для дзяржавы павінен стаць, па сутнасці, галоўным. Дзяржава павінна забяспечваць выдавецтвы паперай, кардонам, пераплётнымі матэрыяламі (і непасрэдна, а не праз нейкія там асацыяцыі, якія думаюць толькі пра сябе); дзяржава павінна даваць заказ на беларускую літаратуру і патрабаваць строгага выканання гэтага заказу. Дзяржаўныя структуры павінны працаваць на дзяржаўную палітыку — і выдавецкія, і друкарскія, і гандлёвыя. Толькі так можна ў сённяшняй сітуацыі нешта зрабіць. Тым больш, што сёння працаваць вельмі цікава. А колькі працы!

**Гутарыў Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

## НАШ КАЛЯНДАР

**130 гадоў з дня нараджэння Адама Багдановіча (памёр 16 красавіка 1940 года) споўнілася 20 сакавіка. Беларускі педагог, этнограф, фальклярыст, бацька Максіма Багдановіча. Збіраў фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы, фальклорныя запісы выкарыстаў у працах «Пра паншчыну», «Перажыткі старажытнага светасузірання ў беларусаў», аўтар успамінаў пра М. Горкага, з якім быў у сваяцкіх адносінах, і пра сына.**

●

**130 гадоў з дня нараджэння беларускага краязнаўца і археолага Францішка Вярэнькі (памёр 4 сакавіка 1892 года) споўнілася 15 сакавіка. Склаў археалагічную карту родных Пуцілкавіч (цяпер ва Ушацкім раёне), на якой пазначыў 85 помнікаў старажытнасці. У Кракаўскім археалагічным музеі захоўваюцца рукапісы яго прац «Курганы ў Пуцілкавічах», «Курганы і два дагістарычныя пасяленні ў Пуцілкавічах».**

●

**105 гадоў з дня нараджэння Алеся Гаруна споўнілася 11 сакавіка (памёр у 1920 годзе). Аўтар кнігі «Матчын дар». У 1991 годзе ў серыі «Спадчына» выйшла выбранае «Сэрцам пачуты звон».**

●

**65 гадоў з дня выхаду першага нумара часопіса «Узвышша» (выходзіў да снежня 1931 года). Спачатку быў выданнем літаратурна-мастацкага аб'яднання «Узвышша», а ў 1931 годзе — Беларускага дзяржаўнага выдавецтва.**

●

**65 гадоў з дня выхаду ў Вільні першага нумара ілюстраванага часопіса для дзяцей «Заранка», які рэдагавала Зоська Верас. Усяго выйшла 18 нумароў, апошнія два ў 1931 годзе. З вершамі, апавяданнямі, абразкамі выступалі М. Машара, Г. Леўчык, С. Крывец, С. Новік-Пяюн і іншыя.**

●

**50 гадоў з дня выхаду першага нумара франтавой газеты «За свабодную Беларусь», якую да лістапада 1942 года выдавала па-беларуску палітупраўленне Калінінскага фронту. Змяшчаліся творы Я. Купалы, Я. Коласа, П. Броўкі, П. Глебкі, А. Куляшова, В. Віткі, М. Танка, М. Лужаніна і іншых. Пры ёй на беларускай і рускай мовах выдаваўся лісток «Партызанская дубінка».**

●

**70 гадоў з дня нараджэння пісьменніка Ільі Клаза (памёр 22 снежня 1980 года) споўнілася 22 сакавіка. Пісаў па-беларуску і па-руску. Закранаў у сваёй творчасці гістарычную тэму, аб чым, у прыватнасці, сведчыць раман «Белая Русь» (1977).**

ПУЦЯВІНЫ АДРАДЖЭННЯ

# «Справа нацыянальная і дзяржаўная Беларусі пастаўлена ва ўсёй шырыні...»

18 СТУДЗЕНЯ 1919 г. у Парыжы адкрыўся міжнародны кангрэс па выпрацоўцы мірных умоў з Германіяй і яе саюзнікамі, умоў, якія павінны былі гарантаваць свет ад новай разбуральнай вайны навекі. Многія народы чакалі справядлівасці пры вырашэнні сваёй будучыні, бо падчас вайны абрушыліся вялікія імперыі — Расійская, Германская, Аўстра-Венгерская, Асманская.

Чакала збаўлення ад расейскага іга і Беларусь. Амаль год мінуў з таго часу, калі ў ноч на 25 сакавіка 1918 г. у Менску было абвешчана на ўвесь свет аб стварэнні вольнай і незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі ў межах Магілёўшчыны, беларускіх частак Меншчыны, Гродзеншчыны, Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежных частак суседніх губерняў, заселеных беларусамі.

Вайна прынесла Беларусі пакуты, якіх край ужо даўно не ведаў. Менавіта тут адбыліся найбольш жорсткія баі паміж рускай і нямецкай арміямі. Шмат сыноў сваіх страціла Беларусь праз мабілізацыю ў царскае войска. Мільёны тутэйшых жыхароў — хто добраахвотна, хто пад прымусам рускай арміі — пакінулі родныя мясціны і рассеяліся па бяскрайніх абшарах Расіі.

Ды і сама беларуская незалежнасць была абвешчана ва ўмовах акупацыі. І фактычным гаспадаром на зямлі беларускай быў не беларус, што адвечна працаваў на ёй, а нямецкі афіцэр, які праз свой манокль у вачніцы глядзеў з пагардаю на гэты незнаёмы яму народ, не разумеючы, адкуль узяліся гэтыя «белыя рускія» і чаго яны хочуць. І цягнуліся ў «фатэрлянд» эшалоны з харчамі і сыравінаю з Беларусі. І палалі беларускія вёскі, падпаленыя немцамі за тое, што супраціўляліся сяляне, даведзеныя гэтымі рабункамі да роспачы.

А з другога боку, на ўсходзе, існавала таксама сур'ёзная пагроза для справы беларусаў, бо стаяла там Чырвоная Армія. І яна несла не дабро, а зло—харчразвёрстку і рэквізіцыі, прымусовую мабілізацыю, працоўныя камуны, закрыццё і рабункі цэркваў.

Паспрабавалі беларусы дамовіцца з летувісамі ды стварыць адзіную Літоўска-Беларускую дзяржаву, думка аб якой узнікла яшчэ ў 1915 годзе. 27 лістапада 1918 г. было заключана пагадненне з тамтэйшай Тарыбай, у адпаведнасці з якім урад летувіскі абавязваўся выдзеліць неабходныя сродкі на ўтрыманне 12 паветаў Гродзеншчыны і Віленшчыны, што ў якасці аўтаноміі ўвайшлі ў склад дзяржавы. І ўжо здавалася, што чакае гэтае дзяржаўнае ўтварэнне добрая будучыня, бо ўвайшлі ў склад Тарыбы шасцёра беларускіх дзеячаў (В. Ластоўскі, І. Луцкевіч, К. Фалькевіч, В. Талочка, Я. Станкевіч, Д. Сямашка), было створана нават асобнае Міністэрства па беларускіх справах, на чале якога стаў актыўны прыхільнік адраджэння нацыянальнага руху Я. Варонка. А беларускі генерал Кандратовіч нават атрымаў на нейкі час пасаду віцэ-міністра краёвай абароны Літвы. Аднак не паспела ўсталявацца новая дзяржава, як па ёй быў нанесены моцны ўдар.

Яшчэ на пачатку 1918 г., калі Савецкая Расія заключала з кайзераўскай Германіяй мір у Брэсце-Літоўскім, бальшавікі адмовіліся прызнаць «самавызначэнне» ва ўмовах нямецкай акупацыі. А калі выбухнула ў Германіі рэвалюцыя, яны адразу адракліся ад брэсцкіх пагадненняў ды пачалі наступ на Беларусь. Якраз у дзень, калі былі пачаты баявыя дзеянні — 17 лістапада 1918 г.,— у газеце «Жизнь национальностей», што выдавалася ў Маскве, выступіў наркам па нацыянальных справах І. Сталін, ды, пасмяяўшыся з дзеячаў нацыянальнага руху («Они, эти заживо разлагающиеся тени уже свергнутых «великих» королей, эти карликовые «национальные» «правительства», оказавшиеся волею судеб между двух грандиозных костров революции Востока и Запада, мечтают теперь потушить общий революционный пожар в Европе, сохранить свое курьезное существование, повернуть назад колесо истории!..»), выказаў упэўненасць, што «близок тот час, когда «корольки» этих областей пойдут по стопам своих бывших «державных» покровителей в России и Германии» (Соч., т. 4, с. 169).

Тое, што нічога добрага бальшавікі з сабою не прынясуць, стваральнікам БНР было зразумела ад пачатку. Выйсце было толькі адно — замест унутранай працы ў родным краі пачаць актыўную працу па-за межамі Бацькаўшчыны, азнаёміць сусветную грамадскасць з цяжкім становішчам, у якім апынулася Беларусь не па сваёй добрай волі. Праца гэтая пачалася з 3 снежня, калі ўрад БНР пераехаў у Вільню. Працягвалася яна і па заняцці Вільні 6 студзеня 1919 г. чырвонаармейцамі, калі здолелі беларусы стварыць на Гродзеншчыне нават сапраўды незалежную рэспубліку (бо летувіскія дзеячы ў гэты час пераехалі ў Коўна). Як пісаў Я. Варонка: «У пачатку студзеня 1919 года на вуліцах Гродна ўжо можна было бачыць адкрыта беларускае войска. У кожным з павятовых месцаў былі ўжо беларускія павятовыя камісары. У Гродні першы раз пачалі выдавацца беларускія газеты... Пачалі расці беларускія гурткі, развівацца нацыянальны тэатр. Пачалася паступовая беларусізацыя абшару, які на працягу цэлага веку нёс на сабе адначасна цяжар і польскага панавання і русіфікацыі».

І дзейнасць гэтая знаходзіла пэўны водгук не толькі ў Гродне, але і па ўсёй Беларусі. І нават бальшавіцкія кіраўнікі былі вымушаны лічыцца з гэтым. «...Перыяд нямецкай акупацыі з'яўляецца і перыядам успрымання масамі ідэі беларускай незалежнасці, на што партыя павінна была звярнуць увагу. Пытанні незалежнасці, пытанні арганізацыі Беларускай Рэспублікі з гэтых часоў пачынаюць іграць у партыі ўсё большую ролю», — гэта сведчанне дзеяча камуністычнай партыі Беларусі В. Кнорына — таго самага, які яшчэ нават у верасні 1918 г. сцвярджаў, што беларусы нацыяй не з'яўляюцца, а тыя этнаграфічныя асаблівасці, што аддзяляюць іх ад астатніх рускіх, павінны быць выкаранены.

А яшчэ раней, 29 лістапада 1918 г., паляцела да галоўнакамандуючага І. Вацэйціса тэлеграма, складзеная У. Леніным і І. Сталіным: «С продвижением наших войск на запад и на Украину создаются областные временные Советские правительства, призванные укрепить Советы на местах. Это обстоятельство имеет ту хорошую сторону, что отнимает возможность у шовинистов... рассматривать движение наших частей как оккупацию, и создает благоприятную атмосферу для дальнейшего продвижения наших войск. Без этого обстоятельства наши войска были бы поставлены в оккупированных областях в невозможное положение, и население не встречало бы их, как освободителей. Ввиду этого просим дать командному составу соответствующих воинских частей указание о том, чтобы наши войска всячески поддерживали временные Советские правительства.., но, разумеется, только советские правительства» (Ленин В. И. Полн. собр. соч., т. 37, с. 234).

Загад трэба выконваць — і 30 снежня 1918 г. на І з'ездзе беларускіх камуністаў у Смаленску пытанне аб стварэнні Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусі ў межах Менскай, Смаленскай, Магілёўскай, Віцебскай і Гродзенскай губерняў з прымыкаючымі да іх мясцінамі суседніх губерняў, населеных пераважна беларусамі, было вырашана. А 1 студзеня 1919 г. БССР была абвешчана і на пачатку лютага 1919 г., падчас працы І Усебеларускага з'езда Саветаў, прызнана ўрадам РСФСР. А ў адказ на прызнанне з'езд падкрэсліў «ад імя працоўнага народу Беларусі», што «Беларуская рада» анікога ў беларускім народзе не прадстаўляе, і абвясціў членаў Рады па-за законам.

Так дэманстравалі кіраўнікі Савецкай Расіі перад усім светам поспехі сваёй нацыянальнай палітыкі. Аднак на самай справе кіраўнікі БССР мелі нават менш рэальнай улады ў краі, чым іх папярэднікі з БНР. Перш за ўсё цікавіла Беларусь савецкіх кіраўнікоў як база, багатая на харчы і сыравіну.

Што ж да народа, які жыў на гэтай зямлі, то на яго пачуцці ўвагі не звярталі, чаму зноў сведкаю з'яўляецца Кнорын: «Партыя абмежавалася фармальным аглашэннем раўнапраўя нацый, але не паруплілася аб тым, каб фактычна сапраўды прыцягнуць да працы мясцовы элемент. Яна не зразумела гэтаксама значэння перыядычнага друку на беларускай мове. Высунутае некаторымі таварышамі пытанне аб асігнаванні сродкаў на выданне газеты на беларускай мове было адхілена і заўважана, што народныя масы... амаль што не ўмеюць чытаць па-беларуску і ва ўсякім разе ўважаюць за лепшае рускія выданні, чым беларускія» (Беларусь: Нарысы гісторыі, эканомікі, культуры і рэвалюцыйнага руху. Пад рэд. А. Сташэўскага і інш. Менск, 1924, с. 219).

Вось так вырашылі за народ беларускі, якія газеты яму трэба чытаць — быццам не было ў яго «Нашай Долі», «Нашай Нівы», «Вольнай Беларусі» і іншых газет, друкаваных на роднай мове (пры немцах выходзіла не менш як 10 перыядычных выданняў!). Гэтак жа абыходзіліся і з беларускай дзяржаўнасцю. Свет не паспеў яшчэ як след азнаёміцца з Савецкай Беларуссю ў яе снежаньскіх межах, а тут 16 студзеня ўжо новы загад ЦК РКП(б) — у сувязі са «змяніўшыміся знешнімі абставінамі» вылучыць са складу БССР Смаленскую, Віцебскую і Магілёўскую губерні (нават пажаданнямі тутэйшага працоўнага насельніцтва не прыкрыліся, відаць, не да таго было!)! А яшчэ праз некалькі дзён члены ЦК КП(б)Б, выкліканыя ў Маскву, даведаліся ад Леніна аб аб'яднанні Беларусі з Літвою.

Зразумела, што ў гэтыя хітрыкі бальшавікоў не паверыў ані свет, ані беларусы, якія вялі сваю працу па абуджэнні годнасці народа ў Гродне. Ды толькі не давялося ім завяршыць сваю працу, цяпер ужо з-за пагрозы з Захаду, дзе ўзляцеў у лістападзе 1918 г. белы арол Польскі і, распасцёршы свае крылы, марыў накрыць імі землі беларускія ажно да межаў 1772 года (бо бальшавікі далі дзеля таго падставу, адмяніўшы ў жніўні 1918 г. царскія дагаворы аб падзелах Рэчы Паспалітай). А разам з тым, прыкрываючыся барацьбой з бальшавізмам, душыў арол кіпцюрамі сваімі ўсё, што было звязана з пачуццямі беларусаў, ды яшчэ патрабаваў ад народа, які быў ім абрабаваны, удзячнасці за тое, што нясе «цывілізацыю». Добра запомнілі беларусы гэтую «цывілізацыю» ў выглядзе шомпалаў і бізуноў, што гулялі па карках мужыцкіх, калі адбіралі жаўнеры тое, што немцы з бальшавікамі не паспелі прыбраць.

Так апынулася Беларусь паміж двух агнёў. І не заставалася тым, хто дбаў аб лёсе Бацькаўшчыны, анічога іншага, як шукаць справядлівасці за яе межамі. Галоўным цэнтрам беларускага замежжа стаўся Берлін, куды пераехаў абраны ў лістападзе 1918 г. старшынёй урада БНР і міністрам замежных спраў рэспублікі Антон Луцкевіч. Праца беларусаў за мяжой зводзілася галоўным чынам да азнаямлення замежных дзяржаў са станам Беларусі і заваёвы ёю дзяржаўна-палітычных правоў у Еўропе.

І, зразумела, што беларускія дзеячы не маглі абмінуць такой значнай падзеі, якой стаўся міжнародны кангрэс у Парыжы. Яшчэ ў 1917 г., на І Усебеларускім кангрэсе была прынята пастанова аб абавязковым удзеле беларускіх прадстаўнікоў у будучай мірнай канферэнцыі дзеля таго, каб прымусіць тых, хто прынёс шкоду роднай зямлі, кампенсаваць вайсковыя страты.

22 студзеня 1919 г. з'явіўся на свет Мемарандум беларускага ўрада, які складзены быў А. Луцкевічам на падставе працы М. Доўнар-Запольскага «Асновы дзяржаўнасці Беларусі». Змяшчалася ў мемарандуме коратка выкладзеная гісторыя Беларусі ажно да падзей, якія адбыліся па абвяшчэнні незалежнасці БНР. Прыводзіўся тут цалкам і тэкст 3-й Устаўнай Граматы БНР, у якой абвясцілі беларусы аб стварэнні вольнай і незалежнай рэспублікі. Нарэшце, не маглі не абмінуць дзеячы БНР і факта стварэння Савецкай Беларусі — змяшчаўся тут пратэст супраць увядзення на Беларусі савецкай сістэмы кіравання «па прыказу з Масквы» і прымусовай злучанасці БССР з РСФСР. Канчалася пасланне наступнымі словамі: «З прычын незалежных ад яго варункаў Беларускі народ ня меў магчымасці аружнай сілай абарніць сваю незалежнасць. Дзеля гэтага беларусы ўсе сваі надзеі ўскладаюць не на сілу, а на свае правы і зварачываюцца да Мірнай Канферэнцыі, заклікаючы яе пaддзержаць зусім законнае жаданне Беларускага народу здабыць дзяржаўную незалежнасць... Справа 12-мільённага Беларускага народу, зусім ясна выявіўшага сваё жаданне незалежнасці, не можа быць аддадзена на развязку Маскоўскаму ўраду, не можа лічыцца ўнутранай справай Расіі. Дзеля забяспечання Беларускаму народу незалежнасці патрэбны міжнародныя гарантыі. З гэтае прычыны Беларускі ўрад у асобе Рады Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі просіць развязаць на Мірнай Канферэнцыі беларускае пытанне ва ўсёй яго шырыні і даць Беларускаму народу помач у яго дзяржаўным будаўніцтве ў этнаграфічных і гістарычных межах, а такжэ дапусціць на канферэнцыю дэлегатаў Беларускай Народнай Рэспублікі дзеля абароны інтарэсаў Беларускага народу і дачы патрэбнай інфармацыі».

А каб кіраўнікі канферэнцыі лепш арыентаваліся ў беларускіх справах, складзена была карта з межамі краіны, вызначанымі на падставе этнічнага прынцыпу. Праходзілі гэтыя межы так: ад Дзвінска на поўнач ламанай лініяй да станцыі пры чыгунцы Корсаўка, адтуль на ўсход да Ржэва на Волзе, ад Ржэва ў паўночна-заходнім кірунку на Бранск і далей па Дзісне, адтуль на захад лініяй на Грэмяч, Ноўгарад-Северскі, Гарадню, вусце Прыпяці і далей уздоўж прыпяцкіх балот, Буга і Нарэва да Беластока і Хорашч, далей на поўнач да Аўгустава і ламанай лініяй цераз Друскенікі, Эйшышкі, Новыя Трокі, Свянцяны — да Дзвінска.

Вось з такім палітычным скарбам паехалі першыя беларускія прадстаўнікі ў



Фота У. ПАНАДЫ.

складзе адзінай літоўска-беларускай дэлегацыі пад кіраўніцтвам доктара Вальдэмараса. У прыватнасці, беларускія інтарэсы абараняў Д. Сямашка.

27 краін з ліку тых, што ўдзельнічалі ў вайне супраць Германіі, прыслалі сваіх прадстаўнікоў на канферэнцыю, але фактычна вырашалі ўсе пытанні толькі пяцёра — прэзідэнт Злучаных Штатаў Амерыкі Вільсан, прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі Лойд-Джордж, прэм'ер-міністр Францыі Клемансо, прэм'ер-міністр Італіі Арланда і прадстаўнік Японіі барон Макіна (іх так і называлі — «вялікая пяцёрка»). Розныя гэта былі людзі, рознымі былі і іх інтарэсы. Што ж да прэзідэнта Вільсана, то з ім беларусы больш за ўсё звязвалі свае спадзяванні на справядлівае вырашэнне спрэчных пытанняў, бо менавіта з Амерыкі яшчэ на пачатку 1918 г. выйшла праграма ўладкавання свету пасля вайны — «14 пунктаў» — дзе прадугледжвалася магчымасць стварэння на руінах былой Расійскай імперыі новых вольных дзяржаў.

(Працяг на стар. 14).

# Уцёкі насустрач

*Богам створаная проза,*
*Д'яблам высненыя вершы...*
**Л. ДРАНЬКО-МАЙСЮК.**

*Мы ідзем насустрач адзін аднаму, і адлегласць між намі ўсё большае.*
**У. АРЛОЎ.**

Хацелася б пачаць так: з'яўленне зборніка вершаў Уладзіміра Арлова, напэўна, здзівіла (узрадавала, засмуціла) прыхільнікаў таленту гэтага папулярнага празаіка. На жаль, такі пачатак не адпавядаў бы ісціне: добрая палова вершаў са зборніка «Там, за дзвярыма» («Мастацкая літаратура», 1991) прайшла праз старонкі рэспубліканскіх часопісаў і газет. Таму, калі чытачы і здзівіліся нечаканай метамарфозе У. Арлова, —адбылося гэта значна раней, калі з'явіліся першыя вершаваныя публікацыі.

Увогуле, звароты празаікаў да паэзіі адбываюцца ў літаратурным свеце значна радзей, чым пераходы паэтаў да прозы. Большасць беларускіх празаікаў, драматургаў, крытыкаў пачыналі свой пісьменніцкі шлях з вершаў, ды і сталыя паэты пасля чатырох-пяці зборнікаў лічаць за правіла выдаць кніжачку апавяданняў і аповесцяў: ці то дзеля цікавасці, ці то дзеля прэстыжу, а, можа, зразумеўшы, што паэзія — не прафесія. Падобныя эксперыменты рэдка заканчваюцца ўдачай і яшчэ радзей уяўляюць цікавасць для крытыкі, бо не прыўнёсшы нічога новага ў прозу, яны нічога «не выносяць» і з паэзіі, не адлюстроўваюць творчае эвалюцыі пісьменніка. Але і **тут** здараюцца выключэнні — напрыклад, проза Леаніда Дранько-Майсюка, апошняя кніга так і называецца: «Тут» і ўключае ў сябе, акрамя вершаў і паэм, эсэістычную прозу.

Заўважылі падабенства-супрацьлегласць назваў? У Л. Дранько-Майсюка — «Тут», а ў У. Арлова — «Там...». І абедзве кнігі даюць магчымасць разглядаць паэта як празаіка, а празаіка як паэта.

Маладзейшыя літаратары вызначылі сваё месцазнаходжанне купалаўскім азначэннем «Тутэйшыя», крыху старэйшыя за іх (не па ўзросту, па творчым развіцці) У. Арлоў і Л. Дранько-Майсюк — назвамі кніг. Дарэчы, згадаю, што артыкул Сяргея Дубаўца ў «Літаратуры-1» таксама называўся «Тут», а апавяды гэтага аўтара разам з апавядамі Валянціна Акудовіча і Пятра Васючэнкі ўяўляюць сабой такую цікавую і арыгінальную з'яву ў літаратуры, як проза крытыкаў.

Але зараз — пра кнігі Л. Дранько-Майсюка і У. Арлова, пра месца прозы ў творчасці паэта і паэзіі — у творчасці празаіка.

Ёсць старое, мудрае правіла: у размове з пісьменнікам нельга выказваць захаплення яго ранніmi творамі, бо тым самым прыніжаюцца новыя, апошнія па часе напісання. Самому даводзіласяназіраць, як хмурнелі твары класікаў, калі хтосьці нетактоўна прызнаваўся ў любові да іх юнацкіх апавяданняў, «тактоўна» абыходзячы маўчаннем апошні пульхны раман. Не ведаю, ці распаўсюджваецца гэтае правіла з размоў на артыкулы, таму не буду выказваць сваё захапленне вершамі Л. Дранько-Майсюка са зборнікаў «Вандроўнік» (1983) і «Над пляцам» (1986). Прызнаюся проста, што вершы з кнігі «Тут» за рэдкім выключэннем мяне не ўразілі і нават засмуцілі з прычыны іхняе... прафесійнасці. Дзіўнае, вядома, абвінавачванне, якое ў сваю чаргу ставіць пад сумненне прафесійнасць крытыка. Што ж, паспрабую знайсці іншыя аргументы. Вершам гэтым уласціва другаснасць, абстрагаванасць, перабор разумовай, паняційнай лексікі і недахоп канкрэтнай, прадметнай, многія ўяўляюць сабой зарыфмаваныя разважанні і думкі, часам арыгінальныя, часам банальныя, але толькі — разважанні, толькі — думкі. Шмат вершаў пра паэтаў і паэзію, якія маглі б стаць літаратуразнаўчымі артыкуламі, і вершаў на надзённыя тэмы, якія маглі б стаць публіцыстычнымі нарысамі. Напрыклад:

**Вучыла дзяржава красці**
**Не толькі — гайкі, цвікі**
**(Што можна ў кішэню**
**пакласці),**
**А цэлыя цягнікі.**
**Настаўніцай клапатлівай**
**Брала па сотні гадзін,**
**І вучні яе надзіва**
**Слухмяныя як адзін.**

Магчыма, кагосьці з паэтаў такія творы і ўпрыгожылі б, але толькі не Л. Дранько-Майсюка, які карыстаецца ў літаратурным асяродку рэпутацыяй паэта-эстэта.

Вершам са зборніка «Тут» уласцівы, нарэшце, эклектызм. Невядома толькі, ці ён вынікае з самазаспакоенасці паэта, ці — з яго творчай няўпэўненасці.

А зараз, пасля ўсяго вышэйсказанага, я хачу сказаць, што кніга «Тут» — не толькі лепшая ў пісьменніка Л. Дранько-Майсюка, але і адна з лепшых у беларускай літаратуры апошніх гадоў. Бо, акрамя дрэнных і добрых вершаў, змяшчае гэтая кніга шэраг празаічных эсэ, у якіх паэзіі больш, чым у саміх вершах. Таму што вершы пісаліся прафесіяналам, а эсэ ствараліся майстрам, мастаком. Розніцу паміж прафесійнай пісьменніцкай працай і мастацкай творчасцю добра праілюстраваў некалі Андрэй Белы на прыкладзе сваіх успамінаў, што пісаліся раздзеламі і тамамі, і «Сімфоній», што выкладаліся, нібы мазаіка, са сказаў і словазлучэнняў.

«На радзіме Ціля Уленшпігеля», «Вандрўока ў Татры і дзве постаці мастака», «Анёл згоды», «Адзін радок Гётэ» — таксама выкладзеныя са сказаў і словазлучэнняў, вытканыя з метафар і асацыяцый, як і створанае пасля выхаду кнігі эсэ «Ратаванне Грэцыяй» («ЛіМ», 14.XII.1990). Пералічаныя творы можна было б назваць і падарожнымі нарысамі, але дастаткова працытаваць хоць некалькі ўрыўкаў з іх, каб стала відавочнай іх адметнасць, іх непараўнальнасць з традыцыйнымі ўзорамі беларускай падарожнай нарысістыкі:

«Табе драпежна ўсміхаліся рытуальныя маскі жыхароў Акіяніі, а ўкамянелыя кавалачкі гліны з ацалелымі фрагментамі шумерскага клінапісу наводзілі на сумныя думкі пра немінучы распад матэрыі. Цябе душыла шалёнае буянне ўзораў на іранскіх дыванах і зусім не цешылі фрывольныя сюжэты з жыцця каралёў на французскіх габеленах. (...) З рускай парцэляны на саксонскую грацыёзным ланцужком пераляталі японскія журавы — жывыя іерогліфы прыроды, несучы на тонкіх крылах спрадвеку далікатныя вішнёвыя пялёсткі. Журавы праляцелі праз цябе, як праз воблака, і ты нават не варухнуўся» («Адзін радок Гётэ»).

Альбо перанясёмся з берлінскага музея ў сонечную Грэцыю, толькі абавязкова возьмем з сабой каханую жанчыну, бо: «У любую краіну можна ехаць аднаму, але сюды, у Грэцыю, трэба ехаць з той жанчынаю, якая падабаецца, — толькі з той жанчынаю, цалуючы якую, дакранаешся як да жывой плоці і да яе завушніцаў, пярсцёнкаў, ланцужкоў... Вандроўную самоту мужчыны зразумеюць паўсюль, але тут, у Грэцыі, — не. Само гэтае неба адпрэчвае ўсялякі пурызм і патрабуе закаханай суладнасці душ і закаханай суладнасці целаў» («Ратаванне Грэцыяй»).

Вядома, падобныя падарожныя эсэ маглі ўзнікнуць у беларускай літаратуры толькі ў наш час, бо гадоў дзесяць-пятнаццаць назад айчыннаму пісьменніку дазвалялася на працягу рэдкіх замежных вандровак толькі выкрываць заганы капіталістычнага грамадства, эстэтычнае засваенне геаграфічнай і гістарычнай прасторы не ўхвалялася, а дакрананне да завушніц, пярсцёнкаў, ланцужкоў і тым больш да жывой плоці катэгарычна забаранялася.

Гаворку на тэму «ратаванне

# „А вы зірніце на жывое..."

## Максім Гарэцкі і дзеці

Дзеці... Зусім кароткае слова, а якую гаму пачуццяў абуджае яно ў нас! У адных яно выклікае нялёгкія ўспаміны аб сваёй далёкай бытнасці, у другіх — нядаўнія бестурботныя гады школьнага жыцця, у трэціх — пяшчотныя і радасныя ўсмешкі сваіх дзетак, унукаў, праўнукаў... І амаль у кожнага — роздум. Роздум над тым, што мы (дарослыя) далі сваім дзецям **учора**, што даём сёння, з чым і каго адправім у **заўтра.**

Гэты роздум ёсць і ў творах Максіма Гарэцкага — мастацкіх, літаратурна - крытычных і публіцыстычных, якія ўключаны ў дадатковы том Збору твораў. Не меншую цікавасць выклікаюць артыкулы М. Гарэцкага, што апублікаваны ў розных перыядычных выданнях і падпісаныя псеўданімамі.

Адной з першых да разгляду якраз гэтага боку дзейнасці пісьменніка звярнулася В. Лашкевіч. Яна справядліва заўважыла, што М. Гарэцкі быў прамым паслядоўнікам Я. Купалы, Я. Коласа і З. Бядулі, што ў яго творах тэма дзяцінства «арганічна пераплятаецца з праблемамі выхавання і народнай адукацыі».

Дзіцячая тэма не магла заставацца па-за ўвагай многіх даследчыкаў творчасці пісьменніка, бо яна вельмі натуральна, арганічна ўплецена ў мастацкую тканіну яго твораў. Непасрэдна ці ўскосна гэтая праблема закранаецца ў працах А. Адамовіча, Д. Бугаёва, М. Мушынскага, Э. Гурэвіч і інш.

М. Гарэцкі надаваў вялікае значэнне абуджэнню нацыянальнай свядомасці беларускага народа, пашырэнню асветы, павышэнню ўзроўню культуры. Вялікія спадзяванні пры гэтым ён ускладаў на школу, менавіта на маладую змену, каму ў будучым працягваць і мацаваць ідэі нацыянальнага адраджэння. Праблемы беларускай нацыянальнай духоўнасці, гістарычнай памяці нашага народа неаднаразова ўзнімаліся ім у шматлікіх творах і артыкулах. Яго непакоіў стан, у якім знаходзілася родная мова. У артыкуле «Аб беларускай мове ў школе» ён пісаў:

**«Дык трэба на астатак раскрыць карты і сказаць рашуча: годзе пытацца ў насялення, якой яно захоча мовы ў школе. Не радзіць жа эндэцкая «Жэчпосполіта» пытацца, ці хоча польскі народ у Польшчы польскае мовы ў школе. Было б дзіўным і глупым пытацца ў расейца, ці хоча ён расейскай мовы ў школе? Было б вялікаю лухтою пытацца тое ж самае ў немца, француза, ці латыша або эстонца.**

**Чаму ж гэта з дурнымі пытаннямі можна падходзіць толькі да цёмнага беларуса?**

**Не пытаюцца ж духоўныя айцы ў цёмных мужыкоў аб справах веры. Дык годзе ўжо будзе гэтакіх пытанняў і аб мове ў школе.**

**Педагагічная навука даўно сказала свой прысуд, што навучанне дзетак павінна адбывацца ў роднай мове, у мове маткі.**

**Ці ж дзеля нашага праваслаўнага сялянства, пры ўсёй яго зрусіфікаванасці, роднай мовай з'ўляецца расейская?**

**Ці ж дзеля нашага каталіцкага сялянства, пры ўсёй яго спаланізаванасці, роднай мовай ёсць польская?**

**Ніводзін сумленны чалавек гэтага не скажа.**

**А тым часам нават сумленныя асобы хочуць пытацца ў праваслаўных беларусаў, ці не хочуць яны ў школе расейскай мовы?**

**Як ізноў жа другім часам адважваюцца радзіць падысці з пытаннем да беларусаў-каталікоў: ці не хочуць яны ў школе польскай мовы?**

**Сапраўдная ж далікатнасць і сапраўдная людскасць, у згодзе з прысудам апалітычнае навукі, дае адзін загад: не пытаючысь у цёмнага ці несвядомага народа, выкладаць яму навуку ў яго роднай мове.**

**Хто так ці гэтак супроць гэтага, той — «палітык» з злою воляю або сам цёмны чалавек».**

З часу напісання артыкула «Аб беларускай мове ў школе» (1921) прайшло не адно дзесяцігоддзе. І як ні балюча, але неабходна прызнаць той факт, што праблема, узнятая ў ім, дзякуючы «палітыкам з злою воляю» не страціла сваю актуальнасць і сёння.

Шырокі і разнастайны тэматычны аспект твораў М. Гарэцкага. Асэнсаванне дзіцячай тэмы ў творчасці пісьменніка, разуменне яго жыццёвай пазіцыі ў адносінах да падрастаючай змены дазваляе не толькі яшчэ раз пераканацца ў шматграннасці таленту аўтара, але і ў яго вялікай чалавечнасці, высокай нацыянальнай свядомасці, прадбачлівасці, разуменні той адказнасці, якая ляжыць на сумленні дарослых, за лёс нашчадкаў, а тым самым за лёс заўтрашняга дня.

М. Гарэцкі любіў дзяцей. Ён, па ўспамінах сучаснікаў, іх шкадаваў, да іх прыглядаўся, любіў пачаставаць. У Малую Багацькаўку заўсёды прывозіў цукеркі для вясковых дзяцей.

Менавіта ім прысвечаны шматлікія старонкі яго творчасці — у аповесцях «Меланхолія», «У чым яго крыўда?», «Ціхая плынь», «Камароўская хроніка», рамане «Віленскія камунары», дакументальна - мастацкіх запісках «На імперыялістычнай вайне», драматычнай аповесці «Антон», апавяданнях «Смачны заяц», «Малы рызыкант» і інш. Лявонька, Хомка, Ясючок, Мацей, Лаўрынька, Іванька, Тацянка, Ходачка, хлопчык-беспрытульнік... — гэта юныя героі твораў М. Гарэцкага. Яны дзеці свайго часу, пэўных сацыяльных умоў. У вобразнай форме, з дапамогай мастацкіх сродкаў пісьменнік стварыў яскравы малюнак тагачаснага дзяцінства ва ўсіх яго праяўленнях. Тут можна сустрэць дзяцей рознага ўзросту: зусім яшчэ немаўлят і дзетак, якія ўздумалі «пірагі» пячы на сонцы, хлопчыка, якому «цяжка няцца кораню навукі» і таго, які з задавальненнем і гонарам «сядзіць за сталом і чытае кніжку», дзяўчынку-падлетка, што «немаведама чаго засмуцілася — перад сяткамі і блізкаю вясною, быццам маладая перад сваім вяселлем» і сама не разумее і дзівіцца, «чаму ёй без прычыны часам так млее сэрца...» Вось, напрыклад, як апісвае М. Гарэцкі аднаго са сваіх герояў:

**«А вы зірніце на жывое. Яно сярод хаты, на земляной падлозе, збітай у ямкі і залітай памыйкамі, сядзіць на кучы кійкоў і бляшанак, сядзіць, па-турэцку падтуліўшы ногі, сядзіць ля місы, у якой рулі з пастаялкі, хлеба, мух і смецця. Круглыя дзіцячыя вочачкі, зарумзаныя і пахмурныя, з безнадзейным подзівам уталопяцца на вас. І патроху з'яўляецца свядомасць: чаго вам трэба? Бо вы — не маці, што зачыніла яго, не маючы большых дзетак-нянек, і сышла на дзень-год у поле жаць авёс, сышла і не ідзе пакарміць яго і абцерці носік. Вы разважаеце: хлопчык гэта ці дзяўчынка? — Ці не ўсё роўна: доля ж адна.**

**Гэта — герой нашае гісторыі Хомка.**

**Гэта — яго дзіцячая пара».**

Тонкае адчуванне жыцця, глыбокая чалавечнасць, бацькоўская любоў да дзяцей дазволілі М. Гарэцкаму зазірнуць у самыя патаемныя куточкі душы гэтых мілых істот. Дзякуючы высокай творчай культуры яму ўдаецца паказаць своеасаблівасць дзіцячага светаўспрымання, уласцівую толькі іх узросту гарэзлівасць, цікаўнасць, наіўнасць, даверлівасць... Майстэрскае валоданне багаццем і разнастайнасцю мастацкай палітры далі магчымасць пісьменніку перадаць душэўны стан дзіцяці ў хвіліны радасці і гора, разгубленасці і ўпэўненасці, у час гульні і працы, у марах і снах і г. д.

Праблемы дзяцінства для М. Гарэцкага былі пытаннем першаступеннай важнасці, пытаннем вострым, балючым. Бо дзеці — гэта будучае, і М. Гарэцкі разумеў, што яно залежыць ад таго, якой «песні бацькоў» навучацца яны, якія духоўныя, маральныя і матэрыяльныя каштоўнасці застануцца ім у спадчыну, з якімі ідэйнымі набыткамі яны пойдуць у жыццё. Пісьменнік звязваў лёс падрастаючага пакалення з лёсам краіны, з будучыняй беларускага народа і зыходзіў з гэтага ў сваёй дзейнасці.

Кіруючыся менавіта такімі прынцыпамі, ён напісаў першую «Гісторыю беларускай літаратуры», падрыхтаваў і выдаў «Хрэстаматыю...» і «Беларускі дэкламатар». Непасрэдна для чытанкі «Родны край», якая прызначалася для школьнікаў 1—4 года навучання, М. Гарэцкім напісаны невялікія апавяданні, замалёўкі. Большасць з іх напісана на аснове ранейшых твораў аўтара. Апавяданні ж «Бітва на Уле» і «Уцёкі Сярэбранага», якія застаюцца невядомымі шырокаму колу чытачоў, былі створаны М. Гарэцкім, відаць, непасрэдна для чытанкі.

Як вядома, доўгі час М. Гарэцкі займаўся выкладчыцкай працай. Кантакт з моладдзю прыносіў яму задавальненне, даваў добры плён. Асабліва прадуктыўным на ніве асветы быў віленскі перыяд (1919—1923) яго жыцця і дзейнасці. Тут ён працаваў у Першай Беларускай Віленскай гімназіі, чытаў лекцыі па беларускай літаратуры перад студэнтамі, прысутнічаў на іх вечарах,

прозай» у дачыненні да Л. Дранько-Майсюка можна было б скончыць клічнікам, калі б не з'яўленне з-пад пяра гэтага аўтара серыі апавяданняў пад агульнай умоўнай назвай «Пра тое, як я...» («...забароненую літаратуру чытаў», «...цукар купляў», «...у заходнеберлінскую оперу хадзіў» і г. д.), што прымушае паставіць пытальнік. Думаю, што выхад апавяданняў асобнай кніжкай і разгляд гэтае кніжкі ў кантэксце агульнай творчай эвалюцыі пісьменніка дадуць больш пэўныя адказы.

А вось у звароце У. Арлова да паэзіі я не бачу развітання з прозай. Наадварот, праца над вершамі (вершамі ў прозе) уяўляецца справай патрэбнай і карыснай для Арлова-празаіка. Невялікія формы даюць магчымасць засяроджвацца над кожным словам, павышаюць індывідуальную сэнсавую вагу сказаў і словазлучэнняў. Некалькі радкоў могуць змясціць у сабе завершаную думку, выказаць глыбокае пачуццё:

**Начны матылёк**
**сеў на стрэлкі ходзікаў.**
**Напэўна, хоча**
**ў гэту летнюю поўнач**
**спыніць нам з табою час.**

На першы погляд, прычын здраджваць хоць бы на нейкі час прозе ў У. Арлова не было. Яшчэ да таго, як выйшла ў свет другая кніга аповесцяў і апавяданняў пісьменніка («Дзень, калі ўпала страла», Мн., «Мастацкая літаратура», 1988), за ім замацавалася рэпутацыя аднаго з самых цікавых беларускіх празаікаў 80-х гг., аўтара твораў перш за ўсё на гістарычную тэму, і таму (аўтаматычна) — вучня Уладзіміра Караткевіча. Праўда, такая ўстойлівая рэпутацыя мела свае заганы, паколькі тыя ж крытыкі-сябры-чытачы, што называлі Арлова «вучнем Караткевіча», рабілі залішні націск на слове «вучань» і падсвядома параўноўвалі непараўнальнае. Катастрафічны недахоп гістарычных твораў, з аднаго боку, і прызнаныя поспехі ў гэтым накірунку У. Арлова-празаіка, з другога, няўмольна прадвызначалі, здавалася б, яго далейшы творчы шлях, шлях прафесійнага стваральніка шматлікіх гістарычных аповесцяў і раманаў.

У звароце У. Арлова да паэзіі мне бачыцца бунт мастака супраць прафесіянала, імкненне творцы выйсці за межы мэтазгоднасці і неабходнасці, прага чалавечай душы выказаць сябе новымі сродкамі.

І таму мяне ўсцешвае і радуе выхад кнігі «Там, за дзвярыма»:

— хоць многімі паэтамі гэтая кніга будзе ўспрынята паблажліва-скептычна (што псіхалагічна апраўдана, але беспадстаўна);

— хоць да шыльды «вучань Караткевіча» можа дадацца шыльда «вучань Разанава» (што цалкам верагодна, але не крыўдна);

— хоць некаторыя вершы выглядаюць трафарэтнымі і заграмавана-схематычнымі, бо кніга трымаецца на трох-чатырох скразных матывах і сімвалах (што не так заўважна ў часопісна-газетных публікацыях і таму нечакана-прыкра).

Думаецца, кніга «Там, за дзвярыма» прынясе задавальненне і аматарам паэзіі і прыхільнікам прозы У. Арлова. Неабходна толькі знайсці адпаведны ключ, бо там, дзе ёсць дзверы, ёсць і замок. Магчыма, такім ключом з'яўляюцца Хрыстовы словы з «Адкрыцця Іаана Багаслова»: «Вось стаю пры дзвярах і стукаюся; калі хто пачуе Мой голас і адчыніць дзверы, Я выйду да яго і буду вячэраць з ім, дый ён са Мною».

**Сяргей КАВАЛЁЎ.**

---

з'яўляўся дарадчыкам і кансультантам па розных пытаннях, з якімі да яго звярталіся навучэнцы. М. Гарэцкі шчыра радаваўся таленту творчай моладзі. З прыемнасцю ён паведамляў у лісце да Я. Карскага пра «спадзейную талань маладой паэтэсы», студэнткі гімназіі Наталлі Арсенневай. Вельмі тонка, па-бацькоўску шчыра, з настаўніцкай прынцыповасцю і тактам даваў слушныя парады яе брату Сяргею, які спрабаваў свае сілы на ніве творчасці.

Са згоды У. Васілевіча, які выявіў рукапісную рэцэнзію М. Гарэцкага на працу Сяргея, працытуем толькі яе заключныя радкі (падрыхтаваны даследчыкам матэрыял знаходзіцца ў рэдакцыі часопіса «Маладосць»):

**«У Вас ёсць здольнасці, — пісаў у водгуку на працу Сяргея М. Гарэцкі,— не змарнуйце ж іх лішняй рэфлектыўнасцю характару, аслабляючы сілы душы ў Вашым веку і адбіраючы заўсёды непрадуктыўны час. Помніце, што трэба рыхтаваць сябе да працы і творчасці ў найвялікшым масштабе і збіраць к таму часу сілы. Для мяне, як вучыцеля, будзе лепшай прыемнасцю, калі Вы некалі з падзякай успомніце маю скромную раду, якая, не развіўшы ў Вас толькі самамнення, паможа Вам стаць у поўнай меры тым, чым Вы можаце стаць».**

З студэнцкім асяроддзем М. Гарэцкі быў звязаны доўгі час. Ён выкладаў беларусазнаўства на рабфаку БДУ, працаваў у Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках, чытаў лекцыі ў іншых навучальных установах. Арышт, турэмнае зняволенне, ссылка пазбавілі М. Гарэцкага такога роду заняткаў. І толькі ў 1935 г. яму было дазволена працаваць настаўнікам рускай мовы і літаратуры ў сярэдняй школе гарадскога пасёлка Пясочнае. «Дужа сумленна, шчыра ставіўся бацька, — піша ва ўспамінах Галіна Максімаўна, — да свае настаўніцкае працы», «...вучыў самастойнасці ў пошуках, вывадах», «самастойнаму аналізу мастацкіх твораў».

М. Гарэцкі, акрамя ўсяго, быў добрым бацькам і ўдзячным сынам. Поўныя бацькоўскага клопату пра сваіх дзяцей (Лёню і Галю), іх здароўе, дабрабыт, лісты М. Гарэцкага з Вяткі да жонкі. Вось як, напрыклад, пачынаецца ліст ад 16 снежня 1931 г.:

**«Добры вечар! Заўчора атрымаў заказную бандэроль з рэштаю рукапісу «Віленск. (іх) камун. (араў)», а ўчора твой і Лёнеў ліст з яго малюнкамі. Чаму ж Галя нічога не прыпіша? «Калгас» намалёван ніштo, а «Горад» незвычайна добра. Ты, Лёня, мусіць, і цяпер увесь вольны час праседжваеш над малюнкамі? Раю табе болей гуляць, яшчэ паспееш навучыцца маляваць. Ліст твой напісан добра і цікава. Толькі дужа кароценькі. Пішы мне болей, пра ўсё. Пішы, як умееш. Як думаеш і гаворыш, так і пішы,—і будзе добра. Але не прымушай сябе, а як захочаш — напішы. Ты, Галя, таксама напішы мне пра сваё жыццё хоць трошку. А таксама прашу цябе напісаць кароценька ў Багацькаўку, дзеду і бабе. Напішы ты, затым што маме ж цяпер дужа некалі. А яны будуць надта рады твайму лісту. Я ад іх ужо другі месяц не атрымліваю лістоў і не ведаю, у чым справа. Думаю, што нехта ў іх хворы, а можа, лісты прападаюць, як улетку. А ў вас — ці зусім ужо мінулася прастуда? Сцеражыцеся яе, дзеткі...»**

М. Гарэцкі балюча перажываў сваё становішча, тое, што ён не можа займацца любімай справай, быць разам з роднымі і блізкімі яму людзьмі, дапамагчы ім. Не таіў ён гэта і ад сваіх дзяцей.

М. Гарэцкаму як выкладчыку, пісьменніку, бацьку былі вядомы многія праблемы школы і выхавання дзяцей. Калі коратка ахарактарызаваць зробленае ім на гэтай ніве, то можна сказаць, што ўсёй сваёй дзейнасцю ён як бы імкнуўся адказаць на пытанні, пастаўленыя адным з яго герояў: «Ну ці ж навучыла мяне школа любіць сваё беларускае, даражыць хараством роднае прыроды, праняцца гармоніяй родных з'яў? Чаму нас навучылі?»

**Тэрэза ГОЛУБ.**

---

**ПОШУКІ, ЗНАХОДКІ**

# Лёс Макара Краўцова



У чэрвені мінулага года споўнілася сто гадоў з дня нараджэння паэта-нашаніўца, пісьменніка, перакладчыка Макара Мацвеевіча Касцевіча. Свае творы ён падпісваў псеўданімам Макар Краўцоў. Краўцовымі аднавяскоўцы называлі яго бацькоў, таму што іх прадзед некалі шыў сялянам кажухі. Нарадзіўся паэт у вёсцы Баброўня над рэчкай Котрай, на Скідзельшчыне ў даволі заможнай сям'і. Пражыў сорак дзевяць гадоў. На яго долю выпаў цяжкі, можна сказаць, трагічны лёс. Як кажуць у народзе: не жыў на гэтым свеце, а пакутаваў. Пасля трагічнай смерці ў засценках Беластоцкай турмы ў 1940 годзе не толькі родзічы баяліся назваць яго імя. І сучасныя літаратуразнаўцы абміналі М. Краўцова. Адзін толькі Уладзімір Калеснік у сваёй кнізе «Час і песні» адважыўся ўспомніць яго.

Асноўнай прычынай такога стаўлення да М. Краўцова было тое, што ён прымаў актыўны ўдзел у Слуцкім паўстанні, якое доўгі час называлася «мецяжом супраць Савецкай улады». Апрача таго, М. Краўцоў для Беларускай Народнай Рэспублікі напісаў ваяцкі гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», які ў час белапольскай акупацыі Заходняй Беларусі спявала на вечарах патрыятычная моладзь. Яго і зараз спяваюць беларусы ў ЗША, Англіі, Германіі, Аўстраліі, іншых краінах.

**Мы выйдзем шчыльнымі радамі**
**На родны, вольны свой прастор.**
**Хай воля вечна будзе з намі,**
**А гвалту мы дамо адпор!**

Макар Краўцоў закончыў царкоўнапрыходскую школу ў вёсцы Галавачы, пасля Свіслацкую настаўніцкую семінарыю. Некаторы час настаўнічаў, але ў 1915 годзе быў прызваны ў армію і накіраваны на Паўночна-Заходні фронт. У часе службы ў арміі ажаніўся. Пасля падаўлення Слуцкага паўстання М. Краўцоў падаўся ў Вільню, якая аказалася пад уладай Польшчы. Да яго прыехала і жонка Ганна Станіславаўна. Жылі яны ў аднаго старога чалавека, даглядалі яго. І ён за гэта аддаў ім свой двухпавярховы дом па вуліцы Папоўскай 9, пазней вуліца Магітас 18, кв. 4. Па гэтым адрасе М. Краўцоў з жонкай жылі да 1939 года, да арышту.

У Вільні Макар Краўцоў не забываў роднай Баброўні, братоў, блізкіх, знаёмых, вёў з імі перапіску, асабліва з пляменнікам Платонам Касцевічам, у якога да апошніх дзён было шмат яго лістоў. Мне давялося з гэтымі лістамі пазнаёміцца, прачытаць іх. З перапіскі відаць, што яму даводзілася цяжка. Амаль у кожным лісце ён прасіў грашовай дапамогі.

**Возьмем, напрыклад, ліст ад 12 сакавіка 1937 года: «Дарагі Платон! Вялікі табе дзякуй за прысланыя 9 лютага сто злотых. Шкада толькі, што ты ня любіш падробней пісаць, як там выглядаюць справы... Нажаль і я, хоць прафесіяй пісьменнік, нічога цяпер ня пішу. Няма куды. Душная атмасфера дый годзі. Прыдзецца мусі пераключацца на іншую мову ды шрайбаваць артыкулы ў расейскія або ў польскія штодзённікі. На хлеб, на воду мусіць чалавек зарабляць. А тут яшчэ хваробы чапляюцца. Жонка хварэе і сам прастуджаны... З канца месяца сакавіка прадбачыцца работа... А тымчасам мушу і зноў да цябе звяртацца. Было б добра, каб выслаў ты мне яшчэ якіх залатовак 50. Калі там для мяне нічога ня маеш, дык можа скамбінуй як пазыч. Адашлю з падзякай, як толькі зараблю...»**

**А вось ліст ад 25 красавіка 1936 года: «Дарагі Платон! Дзякую за прысланыя перад Вялікаднем 10 злотых. Буду ўдзячны, калі прышлеш яшчэ, бо тут, тымчасам, тугавата...»**

Восенню 1939 года ў кватэру М. Краўцова заявіліся вайскоўцы. Зрабілі вобыск. Усё перавярнулі, перабралі ўсе кніжкі, паперы. Пасля забралі з сабой гаспадара. Знік ён назаўсёды. Пачалося ганенне і на жонку. Яна некаторы час жыла ў пляменніка Платона, затым вярнулася ў Вільню. Яе ад часу да часу наведваў і сын малодшага брата паэта Мікола Касцевіч. Жыла ў нейкім маленькім пакойчыку пад апекай чужой дзяўчыны. Кніжкі Макара Краўцова былі спалены, маёмасць разрабавана. Дзяўчына даглядала Ганну Станіславаўну да самай смерці і пахавала.

Як «ворага народа» судзілі малодшага брата М. Краўцова Бенадзікта, які настаўнічаў у Карашаўскай пачатковай школе на Скідзельшчыне. Дачка яго Іраіда Бенадзіктаўна, якая зараз жыве ў Гродне, расказала мне, што яму далі 25 год турэмнага зняволення. Вярнуўся толькі пасля смерці Сталіна. Два гады праляжаў у ложку і памёр.

Пра лёс самога М. Краўцова доўгі час ніхто не ведаў, аж пакуль не прыйшоў у Баброўню незнаёмы чалавек, які разам з ім сядзеў у турме ў Беластоку. Гэты незнаёмец сказаў па сакрэту пляменніку Платону, што М. Краўцова закатавалі ў час допытаў у турме: слабы арганізм не вытрымаў здзекаў. Дзе ён знайшоў свой вечны прытулак, ніхто не ведае.

Друкавацца М. Краўцоў пачаў у 1918 годзе, супрацоўнічаў у беларускіх газетах, у часопісе «Маланка». Пісаў вершы, празаічныя творы, перакладаў з іншых моў на беларускую. Ён пераўвасобіў па-беларуску творы Лермантава, Талстога, Гогаля, Купрына, з польскай мовы пераклаў на беларускую «Версальскі трактат». Пад яго рэдакцыяй выйшаў «Беларускі каляндар на 1925 год» (выданне Беларускага Грамадскага Сабрання ў Вільні).

Вершы пісаў на розную тэматыку, у тым ліку і інтымную лірыку.

У 3-м выпуску III тома «Беларусаў» заснавальнік беларускага мовазнаўства і філалогіі Я. Карскі пасля падрабязнага разгляду важнейшых твораў беларускіх пісьменнікаў пачатку XIX ст. і да 1921 года прыводзіць і «Матэрыялы для слоўніка беларускіх пісьменнікаў» апошняга часу. У «Матэрыялах» Я. Карскі знаёміць нас з 203 пісьменнікамі і дае кароткі агляд творчасці, у тым ліку і творчасці Макара Краўцова. Прыводзіць фрагменты яго некаторых вершаў («Што будзе?», «Мы знаем Бацькаўшчыны гора», «Сон», «Бяда» і іншыя).

Вядомы англійскі вучоны Арнольд Макмілін у сваёй кнізе «Гісторыя беларускай літаратуры» невыпадкова назваў Макара Краўцова перспектыўным паэтам, на творчасць якога значны ўплыў аказаў беларускі фальклор. Але неабходна сказаць, што яго жыццёвы лёс, адзіноцтва, туга, праца дзеля кавалка хлеба не далі поўнасцю раскрыцца яго таленту. Тым не менш яго творы з'яўляюцца значным набыткам літаратуры Заходняй Беларусі.

**Апанас ЦЫХУН,**
**заслужаны настаўнік Рэспублікі Беларусь.**

---

# Камісія па спадчыне напамінае

Камісія па літаратурнай спадчыне пісьменніка Рыгора Кобеца (З. Азгур, А. Дзялендзік (старшыня), А. Дудараў, А. Красінскі, Л. Лявонава, У. Няфёд, П. Пруднікаў, Р. Рэлес, А. Сабалеўскі, Я. Садоўскі, А. Кобец-Філімонава (адказны сакратар) збірае ўспаміны пра жыццё і творчасць пісьменніка, яго фільмы, спектаклі для кнігі «Сучаснікі пра Р. Кобеца», а таксама пісьмы, рукапісы, аўтографы, фотаздымкі і рэчы, што маюць дачыненне да яго. Па ўсіх пытаннях можна звяртацца па тэлефоне 23-15-25, Кобец-Філімонава Алена Рыгораўна ці даслаць матэрыялы на адрас: 220004, г. Мінск, а/с 148 Кобец-Філімонавай А. Р.



Рыгор БАРАДУЛІН

# ПАД ЗАСЕННЮ НЯБАЧНАГА КРЫЛА

## Апакаліпсіс

Бог пройдзе басанож
Небесным Поплавам,
Пярун прытоіцца за хмарным
тынам.
Планета галаву пасыпле
попелам
Радыеактыўным...

●

У дзяжы гісторыі вякі
Пакідаюць на завод рашчыну
Нацыі.
І як бы чужакі
Не хацелі зруйнаваць Айчыну,
Напякуцца ўпарта праснакі
Духу напаміну
І ўспаміну.
Як бы там ні каркалі крукі,
Бацька перадасць акраец
сыну,
Бо ў дзяжы гісторыі вякі
Пакідаюць на завод рашчыну.

## Пытанне

Я запытаў сваю душу:
— Ці чуеш, як табе хлушу?
І мне ўсміхнулася душа:
— Адкажа за мяне імша...

●

Сон неўмежаванае аблогі
Не пачуе дотыку быльля.
Колькі ні аруць яе нарогі,
А яна цнатлівая,
Зямля.

Пасівее дзень каля парогу,
Счырванее золак ад абраз,
Маладзей, глыбей
Аруць аблогу,
Толькі кожны раз —
Як першы раз.

●

Чалавек, як і дрэва,
Расце, карэніцца,
Галее паволі ствол,
Засыхаючы ападаюць сукі
Знаёмых, родных, сваіх,
І толькі карані
Глыбей ідуць у зямлю,
Напамінаючы пра вечны дол.
І вяршалінам памкненняў
Адно на зямлі застаецца —
Трымацца за неба...

## Ношка

Паўсюль яны родныя і свае,
І варта мне іхнія ўспомніць
Імёны паволі —
З гатэля, з кавярні
І з халаднаватага слова фае,
Нібыта з сенцаў,
Выходжу ў поле.

Шнітка,
Міжыпарніца,
Свінакроп —
Знаёмыя травы,
Яшчэ незабудкі
Я помню ў канавах,
Ды лепш ад хвароб
(Ад якіх, я забыўся)
Катовы мудкі.

Яны з сінізною
Ці з сівізной,
Пра гэта дакладней
Сказала б кошка,
Што позіркам
Прыцемак паліць вясной.

Духмяныя травы —
Пахучая ношка
І лёгкая,
Памяці несці яе
Няцяжка
У роспачы, ў смутку,
ў надзеі.
О, дзякуй вам, продкі,
Мае дабрадзеі,
За ношку,
Што памяці моцы дае.

## На заручыны

Спачатку,
Як дзядзька вясковы,
Які асцярожна ступае
На вымытую падлогу
Тым ботам,
Што меў канкрэтна размовы
З самім балотам,
А потым
Пакліча суседа сабе
на падмогу
І, пяршак запіўшы кампотам,
Зацягвае песню ціхую,
Аж у хаце
Газоўка радасці ўспыхвае
І залівае святлом
Бяседу ўсю за сталом
І тады, сапраўды,
Ходзіць хата,
Ходзіць дол,
Ходзіць хадуном падол.
Некаму вясёла праз край,
Нехта аціх,
Нехта гамоніць.
Гэта ў суботні трамвай
Зайшоў вясковы гармонік.

---



Уладзімір СЦЯПАН

# ДЗВЕ НАВЕЛЫ

## Туман

Лістападаўскі рынак... Туман... Такога туману мне бачыць яшчэ не даводзілася за ўсе трыццаць тры гады жыцця. Дзевяціпавярховікаў, што стаялі ў дваццаці кроках ад аўтобуснага прыпынку, не было відаць. Нават ліхтар на слупе, пад якім я стаяў у засяроджаным чаканні аўтобуса, быў нябачным. Толькі цьмянае, крыху падфарбаванае святлом мігценне, падказвала, што ліхтар гарыць, але, магчыма, гэта толькі здавалася. Вертыкаль слупа знікала ў тумане. Жалеза густа абсыпалі дробныя кроплі. Літары на аб'явах расплываліся...

Людзі на прыпынку стаялі моўчкі і змрочна ўглядаліся ў туман. На парасоны ападалі кроплі, і тканіна цямнела. Нерухомасць парушалі позіркі на гадзіннікі — было відаць, што людзі спазняюцца.

Аўтобус з'явіўся нечакана. Пачулася глухое вуркатанне рухавіка, прывідна ўспыхнулі фары, і, нарэшце, адчыніліся дзверы. Людзі страцілі здранцвенне і кінуліся запаўняць ярка асветлены салон. Калі ўсе былі ў аўтобусе — дзверы зачыніліся.

Я стаяў прыціснуты да шкла, якое адгароджвала вадзіцеля ад салона, і не мог паварушыцца — столькі набілася пасажыраў.

Вадзіцель, апрануты ў форменны гарнітур сіняга сукна, глядзеў на ветравое шкло, па якім нервова і мітусліва кідаліся чорныя «дворнікі». Потым ён зняў фуражку з бліскучым казырком і паклаў яе на прыборны шчыток. Крануў рычаг, націснуў педаль, і аўтобус сутаргава здрыгануўся.

Вадзіцель быў лысы. Маленькая, як адпаліраваная, галава з тонкім дзюбаватым носам выдавала манументальнай і, як на пастаменце, трымалася на шырокіх плячах.

Аўтобус яшчэ раз здрыгануўся і паімчаў, праціналочы шчыльны туман. Па вокнах пабеглі гарызантальныя ручаі, такія, як на шкле ілюмінатараў самалёта, які раптоўна трапляе ў гэтыя хмары.

— Вар'ят! Вар'ят!— закрычала маладая жанчына ў чырвоным капелюшы і чорных пальчатках і балюча сціснула маё плячо.

— Спыніцеся! Стойце! Скажыце, каб спыніў аўтобус!— людзі ляманталі, грукалі ў шкло, адчайна ўскрыквалі, чапляліся, за што маглі, і хісталіся, калі аўтобус рабіў рэзкі паварот, не збаўляючы хуткасці.

— Ён нас заб'е! Спыніце яго!— крычаў мажны мужчына ў цяжкіх акулярах на збялелым твары і з усяе моцы грукаў кулаком па шкле.

Вадзіцель павярнуў манументальную галаву і зірнуў на перакошаныя жахам твары пасажыраў. Тонкія вусны развяла паблажлівая ўсмешка. Яна нагадвала ўсмешку хірурга, калі лязо яго скальпеля дакранаецца да цела пацыента, а хірург ведае, наколькі гэта балюча, і атрымоўвае прафесійную асалоду, бо ўпэўнены ў неабходнасці свайго дзеяння. Вузкія вочы вадзіцеля спыніліся на маім твары і мірганулі. На міг яго твар зрабіўся сляпым. Я адчуў, што маё цела дранцвее.

Вадзіцель адвярнуўся, націснуў кнопку магнітафона і пачаў глядзець прад сабой — туды, дзе павінна была быць дарога.

Загучала музыка. Ад нечаканасці ў аўтобусе зрабілася ціха. Праз музыку ўрачыстага марша пачуліся лічбы, якія вымаўляў механічны голас: дзевяноста адзін, дзевяноста два, дзевяноста тры... Лічбы гучалі праз аднолькавыя інтэрвалы, абыякава і ўпэўнена.

Людзі спалохана маўчалі. Мажны мужчына ў цяжкіх акулярах пачаў хрысціцца і марматыць малітву. Ціха загаласіла жанчына ў чырвоным капелюшы, потым пачуўся дзіцячы плач.

А праз колькі часу пасажыры змоўклі, і адно механічны голас працягваў абыякава вымаўляць лічбы: дваццаць дзевяць, трыццаць, трыццаць адзін...

Я адчуваў, што аўтобус імчыць па роўнай і цвёрдай дарозе, бо ягоная хада была мяккай і роўнай.

Яшчэ я адчуваў, што прайшло шмат часу, бо ногі зацяклі, а спалоханасць змянілі абыякавасць і стома.

Спынілася музыка і змоўк механічны голас. А праз колькі хвілін з дынамікаў пачулася: «Прыехалі!». Аўтобус стаў, дзверы адчыніліся, і ўсе кінуліся з салона.

Пад нагамі быў асфальт, а вакол той жа шчыльны туман. Людзі нервова смяяліся, плакалі і дзякавалі лёсу за сваё вызваленне.

Дзверы зачыніліся, святло ў салоне згасла, аўтобус мігануў чырвонымі агнямі і знік у тумане.

Як сляпы, я выцягнуў рукі і рушыў з натоўпу. За спіною чуліся галасы, смех, ускрыкі, а праз дваццаць крокаў яны зніклі, з'едзеныя туманам. Мае рукі ўперліся ў агароджу, зробленую з металічных прутоў, высокіх, іржавых і завостраных, як дзіды.

Людзі сабраліся на мой голас і пасля нядоўгіх ваганняў падаліся ўздоўж агароджы. Людзі ішлі і разважалі — дзе яны і што перад імі. Адны казалі, што за агароджаю парк, другія пярэчылі і сцвярджалі, што там вайсковы палігон, бо толькі вайскоўцы здатныя збудаваць такую агароджу.

Доўгая вандроўка скончылася, калі дайшлі да груваcткай бетоннай брамы. Доўга стаялі каля яе і вырашалі, што гэта: уваход ці выхад.

Я першым пераадолеў хваляванне і рушыў пад браму. Людзі падаліся за мной.

Хутка туман знік. Памыліліся ўсе — гэта быў не парк і не палігон, а вялізныя, да самага далягляду, могілкі з аднастайнымі шэрымі помнікамі. На кожным помніку мацавалася бліскучая шыльдачка.

Ні дрэў, ні кустоў на могілках не было. Аднолькавыя сцежкі, аднолькавыя помнікі і цішыня, якая ахутвала імглісты краявід гэтага месца. Сцежкі разыходзіліся ад брамы, як промні ці бясконцыя радыусы. Нерухомасць краявіду і яго ўстойлівасць супакойвалі.

Некалькі чалавек засталося каля брамы — яны былі з малымі дзецьмі, а астатнія разышліся па могілках.

Я ішоў вузкай сцяжынкай, роўнай, як напятая струна. Аднастайнасць пачынала раздражняць і насцярожваць. За спіною ўзвышалася адна толькі брама, яна адна і парушала роўны краявід, уздымаючыся над полем.

Перад адным з помнікаў я спыніўся і мімаволі прачытаў шыльдачку...

На бліскучай пласціне было адгравіраванае маё імя і прозвішча, дакладная дата нараджэння і праз кароткі працяжнік—дата смерці.

«Гэта здзек і падман!»— гучна абурыўся я, але ўсё вакол пераконвала і даводзіла, што гэта не здзек, а рэчаіснасць.

Пачуліся хуткія крокі. Паўз мяне шпарка прайшоў мажны мужчына ў акулярах. Ён трымаўся за сэрца і гаварыў: «Два месяцы... Толькі два... Гэта шэсцьдзесят дзён...».

Зноў пачаў брацца туман. Я заспяшаўся да брамы. Пустэльныя могілкі хутка знікалі ў тумане.

За брамай стаялі людзі. Маладая жанчына ў чырвоным капелюшы плакала, усе рабілі выгляд, што не заўважаюць.

Калі з'явіўся аўтобус, людзі няспешна, без мітусні і штурханіны запоўнілі салон. Дзверы зачыніліся, аўтобус здрыгануўся і рушыў у туман.

Пасажыры маўчалі, засяроджаныя, як у царкве.

Аўтобус ехаў марудна-марудна, сігналіў, праз кожную хвіліну прыпыняўся. Вадзіцель узіраўся ў шкло, выціраў успатнелы твар, незадаволена хітаў маленькай галавой на шырокіх плячах...

Але ніхто не абураўся, што можа спазніцца і не паспець.

## Табу

Табурэтка...
Та-бу-рэт-ка....
Табу...

— Чаму табурэтка, а не цыркуль?

— Можна і цыркуль, але табурэтка лепш. Спі.

Спачатку я не паверыў, але жонка запэўніла, што павінна дапамагчы, і таму спрабую. Заплюшчваю вочы і пачынаю паўтараць гэтае слова.

— А якога яна колеру?

— Што? Колеру? Не ведаю, без розніцы — цяжкая.

А для мяне колер важны. Калі карычневая, то адразу ўяўляю вайсковую: з дзіркай для рукі — устойлівую, шмат разоў перафарбаваную, цяжкую.

Табурэтка...
Та-бу-рэт-ка...
Табу...

Не дапамагае мне табурэтка, і я пачынаю ўспамінаць уласныя сны.

Была ў нашым гуртку такая гульня-спаборніцтва: хто лепш завострыць аловак. Стараліся, і алоўкі вастрылі як шыла. Вось з такім алоўкам-шылам і схіліўся да мяне Алег — нязменны староста гуртка. Вастрыё графіту калоціцца, расплываецца, каб на імгненне сабрацца ў ледзь бачную кропку...

... Алег крычыць і б'е алоўкам мне ў вока. Спрабую вызваліцца, але марна...

... Аловак «Архітэктар» выбівае другое вока, і я прачынаюся ў халодным здранцвенні і суцэльнай цемры.

Пасля гэтага сну я хварэю. Сон з карчыневым алоўкам — прарочы. Упершыню прысніў яго ў шостым класе, дваццатага лістапада, а дваццаць першага я ляжаў з запаленнем лёгкіх і трызніў. Тэмпература пад сорак трымалася амаль тыдзень. Гэта было ў шостым класе, і дзень запомніў дакладна.

Алег Данілевіч быў старэйшы на два гады. Я яму зайздросціў. Ён маляваў лепш за ўсіх у гуртку. Настаўнік вітаўся з ім за руку і заўжды ставіў у прыклад, але і без настаўніка было зразумела, што да Алега мне далёка...

Мы пабіліся на вуліцы, пад вокнамі Палаца культуры, пад сінім ліхтаром. Мы качаліся па мокрым, раскіслым снезе і біліся да знямогі — люта, па-сапраўднаму. Бойка была «раз на раз», гурткоўцы стаялі маўклівым спалоханым колам. Мы кусаліся, рвалі адзенне, душылі адзін аднаго...

Я перамог. Тая перамога была адзіным, у чым я пераўзышоў Алега.

А ноччу, пасля той бойкі, я і прысніў Данілевіча, які выкалаў мне вочы. За ўсё жыццё сніў гэты сон разоў восем і заўсёды хварэў. Здаралася, што хварэў нараніцу, а бывала праз дзень, але калі прысню,то захварэю абавязкова.

Алег у гурток не вярнуўся, і зрэд-

І трамвай, як на колах хата,
Спяшаецца на заручыны.
І падрастае дзень,
І адпаведна ягоны цень
Журліва-гаркотна засмучаны.

## Memento!

Глядзі на старасць
І прымірайся
На гэтым свеце
Жыць ва ўспаміне.
Глядзі на старасць
І прымярайся
Апошняй кропляй
Дрыжэць на галіне.

## Калі?

І сам не заўважыш ты,
Калі размяняў-такі
Кахання свайго залаты
На марныя медзякі.

І будзеш жыць драбязой,
Здымаць чужыя куты,
Расу называць слязой
І пушчай густой кусты.

Застаўшыся далуках,
У неба працягнеш ксты.
І пойдзе хадзіць па руках
Даверу твайго залаты.

## Рыгор Бярозкін

З пасмаю дыму
ад папяроскі,
Заламанай па-кавалерску
за вухам,
Дыміўся кратэрам
Рыгор Бярозкін —
Кволы здароўем, дужы
духам.

Турмы, лагеры, фронт, уцёкі
Прайшоў з усмешкай нялёгкай
Смела.
Ён чуў здалёку Паэзіі крокі,
Якая яшчэ і хадзіць не ўмела.

Сябры яго звалі вясёла.
Рэ́бэ.
Настаўнік быў сам
Да навукі ахвочы.
Дасюль глядзяць мне
ў душу,
Як неба,
Ягоныя вечныя,
біблейскія вочы.

●

У думках рэшту дзён
перабіраю,
Не ўспамінаючы той дзень
знарок,
Калі ў чарзе ў нябыт
я стану з краю,
Калі прыстане мой слухмяны
крок.

І цень мой упадзе пад ногі
гаю,
Дзе дрэвы кайнасці далі
зарок
Не варухнуць галін свайго
адчаю,
Пакуль не зробіцца вачыстым
змрок.

Душа даношвае старое
ўбранне
І мусіць адляцець у тое
ранне,
Што з вечнага, як і яна,
святла;
І ўжо ў апратцы новай боль
прачуты
Згадаць і зноў вярнуцца
на пакуты
Пад засенню нябачнага крыла.

●

За дабро не серабром,
Не зялёнай меддзю,
Плаціць за дабро дабром
У чатыры рэдзі.
Золата і серабро
Падуладны праху.
Ты дабро, нібы рабро,
Вылamі без страху!

## Чаканне і адчай

Чаканне і адчай
Перагукаюцца.
Чаканне і адчай —
Яны звыкаюцца.

— Чакай мяне, адчай! —
Чаканне просіць.
— Чаканне, не знікай! —
Адчай галосіць.

Дарогай прыкмячай
Сцяжынкі пыльныя.
Чаканне і адчай —
Дазорцы пільныя...

## Паспець

Паспець усё зрабіць
і час сысці,
Не затрымаўшыся ні
на хвіліну,
І ціха легчы ў жаўтапес
ці ў гліну,
Такое розніцы, як і ў жыцці:
Ці з голаду глытаць
пажадна сліну,
Ці смелай лыжкай боўтацца
ў гусці.
Хай вока бачыць голую галіну,
А памяць помніць крону
ўсю ў лісці.
Убачыўшы спакойную даліну.
Брысці, як ціхі човен
у трысці.
І глыбіня глыбей сваю пярліну
Спяшаецца схаваць у забыцці.
Няма жыццю ні сну ані
спачыну.

## У надпрыпяцкім лесе

Прыпяцкія берагі на шалі
пясочныя
Паклалі хвалі апошняе веры.
Чарнобылем,
Як і сосны,
Падсочаныя,
Мы чакаем сваёй сякеры...

ку бачыў я імклівую Алегаву постаць на вуліцах гарадка. Мяне з гуртка прагналі. Месяцы са тры я басцяўся па Палацы культуры і наведваў то духавы аркестр, дзе спрабаваў навучыцца граць на альце, то цырк, дзе займаўся фокусамі.

З усіх сноў паўтараюцца толькі тры. Кароткія, як абрывак кінастужкі, якая круціцца па колу і паўтараецца, паўтараецца...

Мне гадоў сем ці восем. Вясна. Цёплы травеньскі вечар. Мокрая трава, клейкая лістота каштанаў, пафарбаваная агароджа вакол каруселяў. Змрок. Старэйшыя хлопцы адагнулі рог дзвёрак металёвай скрыні і ўключылі каруселі.

Я трымаюся рукамі за шурпатую парэнчыну. Пальцы сціснуліся да болю, і каруселі з кабінкамі на ланцугах пачынаюць раскручвацца і хутка-хутка ляцець. Мільгацяць дошкі пляцоўкі, штыкетнік агароджы, камлі дрэваў...

Спачатку радасна. Палёт у цемры захапляе і заварожвае. Плывуць каштаны, абрысы шатаў на тле бэзавага неба бягуць зменлівай хваляй. Пазвоньваюць іржавыя ланцугі.

Раптам усе ўцякаюць, а я не магу адчыніць кабінку, каб саскочыць. Спружыну заклініла, і не стае моцы, каб адцягнуць ці адламаць жалезную збоку.

Каруселі круцяцца і круцяцца. Я адзін сярод парку. Робіцца блага: свет страчвае рэальнасць, рассыпаецца на дробныя іскрыстыя аскепкі. Губляю прытомнасць...

У гэтым сне я ведаю, што гэта сон, і не палохаюся...

Вяртаецца свядомасць. Не магу расціснуць рукі. Крычу...

Голас ляціць па парку.

Потым я дома, на канапе. З носа цячэ кроў. Мама прыкладае мне да лба мокры ручнік.

Вочы заплюшчваюцца самі, і мяне ізноў круціць, круціць. Гэта бясконцы сон.

Трэба сябе прымусіць прачнуцца. Вяртаюся ў свядомасць ад голасу мамы: «Не закрывай вочы! Адкрый!..».

Пасля таго, як прысню каруселі,— абавязкова падмануць з грашамі. Гэта ведаю, але нічога зрабіць не магу. Так было і будзе. Але якое дачыненне маюць каруселі да падману? Растлумачу.

У той дзень я выцягнуў з бацькавай кішэні тры рублі. Хлопцы паслалі мяне па запалкі. Прыбег дадому. Маці на кухні. У калідоры вісеў бацькаў плашч. Я паляпаў па кішэнях, залез і разам з запалкамі выцягнуў тры рублі. Хацеў пакласці назад, але ў калідоры з'явілася мама. Пакуль я рабіў выгляд, што забэрсваю кеды, яна стаяла і глядзела.

Тады я не прызнаўся, што ўкраў тры рублі. Бацькі пасварыліся, а мяне нават і не западозрылі. Колькі разоў я хацеў сказаць, але не змог.

Нарэшце прызнаўся бацькам, але яны ўжо не змаглі ўспомніць той выпадак — прайшло столькі часу. Яны смяяліся з маёй запозненай шчырасці. Мама сказала, што я сам гэта прыдумаў, а бацька запаліў папяросу, пусціў струмень сіняватага дыму і сказаў: «Усяго тры рублі, а вы тут развялі ўспаміны...».

А мне ўсё сніцца, як я лезу ў кішэнь плашча. Там пакамечаны пачак папярос, дробязь, запалкі і тры рублі. Крошкі тытуню прыліпаюць да ўспатнелых пальцаў. А потым круцяцца каруселі... Мне блага, і голас мамы, які вяртае ў сапраўднае жыццё: «Сынок, не закрывай вочы, адкрый, прачніся!».

На першым курсе мастацкай вучэльні мне зрабілі маску. Распусцілі ў вялікай місе шэры гіпс, намазалі твар вазелінам, а потым аблілі цёплым гіпсам і знялі форму.

Працэдура непрыемная, нейкая гідкая. Чаму пагадзіўся — відаць, жадаў мець арыгінальную рэч. Калі здымалі гіпс — ледзь не задыхнуўся, а яшчэ ў дадатак павыдзіралі бровы і вейкі...

Форму намазалі мылам і аддалі мои твар з заплюшчанымі вачамі.

Маска атрымалася ў ракавінах і свінцовага колеру. Калі падсохла, то пабялела. Зрабілася мучністай, як скура тапельца.

Я гэтай маскі баюся. Яна не падобная да мяне: адутлаватая, змрочная, старэчая. Але выкінуць ці разбіць не змог — захаваў. Яна ляжыць на гарышчы ў гаражы. Здараецца, калі шукаю якую рэч, раптам натраплю на яе і імгненна палохаюся, хоць ведаю, што маска — толькі кавалак гіпсу, не больш.

Сон з маскай ненавіджу. Ён сніцца выпадкова, без дай прычыны.

Вяртаюся дадому. Мама з пярэстым шытвом на каленях, бацька з заўсёдным «Беламорам». Распранаюся. Адразу іду ў ванную. Намыльваю твар і збіраюся пагаліцца, а ў люстэрку гіпсавая маска з бровамі і вейкамі.

Клічу бацькоў і паказваю на свой твар. Яны глядзяць і не разумеюць. Спрабую тлумачыць — марна.

Бацька абапіраецца на вушак, курыць і прапануе ўзяць яго лязо. Мама падае чысты ручнік.

Змываю мыла, бо спадзяюся, што гэта яно робіць твар такім нязвыклым і чужым. Мыла не змываецца...

Пасля гэтага сну не магу галіцца раніцой, хоць і разумею, што гэта толькі сон. Праўда — настрой псуецца на цэлы дзень, і глядзецца ў люстэрка боязна...

Табурэтка...

Та-бу-рэт-ка...

Табу...

Сон не ідзе. Пачынаю думаць пра апавяданні, якія хочацца напісаць, хоць і ведаю, што менавіта гэта рабіць і нельга, бо давядзецца пакутаваць гадзін да чатырох. Але пра апавяданні разважаць цікавей, бо ёсць позірк збоку.

Тэкст. Падтэкст. Дыялог...

Я — хлопчык, які наведвае гурток, дзе малюе гіпсавыя галовы і маскі антычных багоў.

Маскі запэцканыя, у шэрых графітных плямах. Яны вісяць на сценах на ўзроўні вачэй. Гурток на трэцім паверсе Палаца культуры. За будынінай Палаца культуры парк і каруселі. Вакол каруселяў вялікія каштаны. Праз парк ёсць дарога да дому, да таго дому, дзе хлопчык жыў раней...

Трэба забараніць сабе разважаць пра сны і літаратуру. Забараняю. Накладаю табу.

Табу...

Та-бу-рэт-ка...

# Каб выжыла «Вясёлка»

Калі дзіця плача, нават чужыя людзі не праходзяць міма.

«Вясёлка» крычма крычыць з чэрвеня мінулага года, ды мала хто пачуў гэты плач аб помачы. Быццам яна знаходзіцца на чужой зямлі, быццам яна сірата ў родным доме. Вось і атрымалася, што за свае 35 гадоў «Вясёлка» ўпершыню задаўжала чытачам ажно пяць нумароў за 1991 год.

Грошай, што сабралі супрацоўнікі рэдакцыі, пусціўшы шапку па крузе, хапіла толькі на два месячныя тыражы. А як выпусціць рэшту?

Былы камсамол рэспублікі, заснавальнік «Вясёлкі», не змог выдзеліць патрэбную суму грошай на выпуск часопіса. Цяпер заснавальнікам «Вясёлкі» стаў Беларускі дзіцячы фонд, які абараняе правы дзяцей, заступаецца за пакрыўджаных і гаротных.

У цяжкі для «Вясёлкі» час нам паверылі і падтрымалі нас нашы чытачы. Падпісаліся на часопіс 106 тысяч хлопчыкаў і дзяўчынак. Вельмі вам удзячныя!

Як вядома, падпісная цана на 1992 год была 4 рублі 80 капеек. Але сёння на тую суму грошай, што сабрана па падпісцы, «Вясёлцы» не выжыць.

Даражэе ўсё: папера, каляровыя фарбы, дастаўка пошты падпісчыкам, праца друкароў. У гэтым годзе «Вясёлцы» абяцаюць дапамагчы Міністэрства інфармацыі і Міністэрства фінансаў Рэспублікі Беларусь. Мы з надзеяй звяртаемся і да вас, нашы чытачы, аўтары і сябры «Вясёлкі». Дапамажыце нам талакою, як дапамагалі некалі ў вёсцы людзям, у якіх згарэла хата ці якіх напаткала іншая бяда.

Вясёлка» аб'яўляе аперацыю «Выратаванне». Калі мы дадаткова да падпіскі збяром яшчэ 1 мільён рублёў, то можна мець гарантыі, што ўсе нумары нашага часопіса своечасова ўбачаць свет.

Дарагія бацькі, дзядулі і бабулі! Вашы дзеці і ўнукі—чытачы «Вясёлкі». Паспрыяйце, каб яны атрымлівалі свой любімы часопіс на роднай мове.

Шаноўныя настаўнікі і выхавальнікі! Вашы вучні — чытачы «Вясёлкі». Падбайце, каб яна прыходзіла ў кожную школу, у кожны дзіцячы сад.

Паважаныя шэфы! Вашы падапечныя—чытачы «Вясёлкі». Падтрымайце часопіс з той увагай і дабратой, з якой падтрымліваеце вы свае школы і дзіцячыя сады.

Мы звяртаемся да ўсіх вас, шчырыя людзі ў Рэспубліцы Беларусь і за яе межамі. Спагадным сэрцам пачуйце голас «Вясёлкі» ў цяжкі для яе час. Ваша любоў і падтрымка, вашы пасільныя грашовыя ахвяраванні дапамогуць «Вясёлцы» выжыць. І яна ўдзячна ўсміхнецца вам, вашым дзецям і ўнукам казкай, вясёлай песняй, яркімі фарбамі сваіх малюнкаў.

Вашы ахвяраванні прысылайце на рахунак: Мінск, Бізнесбанк, № 707801, код МФО 400019, Беларускі дзіцячы фонд, спецрахунак «Вясёлка».

Можна прысылаць грошы і на наш адрас: 220048, Мінск, Калектарная, 10, часопіс «Вясёлка».

«Вясёлка» павінна жыць!

«Вясёлка» будзе жыць!

Уладзімір ЛІПСКІ,
галоўны рэдактар часопіса «Вясёлка»,
прэзідэнт Беларускага дзіцячага фонду.

# «І Я КАЖУ: ЧЫТАЙЦЕ ВЕРШЫ...»

«Ах, Беларусь, мая ты доля» — словы гэтыя Еўдакіі Лось, прамоўленыя як узды́х падчас трывожна-пакутнага роздуму аб лёсе бацькоўскай зямлі далі назву літаратурна - музычнаму спектаклю, прысвечанаму жыццю і творчасці паэтэсы, што прайшоў у мінулую нядзелю ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі.

Не сказаць, каб зала была паўнюткай. Такі ўжо час—не да лірыкі. У адным няма сумнення: у залу прыйшлі тыя, хто не проста любіць паэзію, а менавіта паэзію Е. Лось.

Яе ж паэзія, як паказаў і спектакль (рэжысёры Г. Рыжкова і М. Казінін, музыку і песні на вершы Е. Лось напісаў Л. Захлеўны), — з'ява далёка неардынарная. Яна, як і ўся сапраўдная паэзія, дзіця свайго часу. І вельмі добра, што стваральнікі спектакля не пайшлі шляхам асучаснення паэтэсы, адбору толькі тых твораў, якія б гучалі ў рэчышчы сённяшняга дня. Е. Лось не цярпела фальшу ні ў жыцці, ні ў паэзіі, яна была паэтам ад нараджэння, а паэт ужо тым і цікавы, што ён — Паэт.

Гучалі самыя розныя творы (чыталі Г. Рыжкова, М. Казінін, В. Карэлікава, З. Феакцістава, В. Сабераў, В. Ласоўскі). Вершы — споведзь перад роднай Беларуссю. Вершы, што апяваюць хараство беларускай прыроды. Вершы-прызнанні ў каханні, роздум аб жаночай долі. Урываўся ў дзень сённяшні і водгалас мінулай вайны, пра якую яна ў адным з твораў прама сказала: «Я развяжуся з вайной пасля, калі стану сама зямлёй...» Гэтыя ж матывы гучалі і ў песнях, якія выконвалі І. Краснадубскі і В. Карэлікава. Ды і сама музыка да спектакля несла ў сабе і задушэўную лірычнасць, і трывожную поклічнасць, і, канечне, улоўліваліся ў ёй водгукі народных мелодый — творчасць Е. Лось, традыцыйная ў сваёй аснове, многімі вершамі блізкая да фальклору.

Спектакль па сутнасці стаў рэквіемам — у ліпені спаўняецца пятнаццаць гадоў, як Е. Лось заўчасна пайшла з жыцця, не змогшы адолець цяжкую хваробу. Гэта, зразумела, не магло не накласці адбітку на прадстаўленне. Незваротнасць, заўчаснасць страты прысутнічала і ва ўступным слове Н. Тулупавай, і ў вершы «Пралеска», прачытаным аўтаркай, настаўніцай беларускай мовы і літаратуры А. Елісеенка. І, безумоўна, у ажыўленых радках верша «Запавет сыну», напісанага Е. Лось ужо ў бараўлянскай бальніцы: «Дык, можа, час настаў для завяшчання? О мой сынок, раднюткая душа!» А сын, Змітрок Лось, чытае, бы ў адказ, уласны верш: «А як засну, дык усё мне сніцца: чытаю матчын запавет!»

Жыццё працягваецца, жыве і паэзія. І як жывая з жывымі ў зале Е. Лось:

І я кажу: чытайце вершы,
У іх жыцця жывы струмень...
У іх сустрэнеце пра першы
І пра апошні нечы дзень.

Вось: чытайце вершы, у іх жыцця жывы струмень! Далучэнне да прыгожага, светлага, узвышанага — ці не адзіны паратунак выжывання ў сённяшнім складаным, цяжкім, тлумным свеце...

А. М.

# «ПАРТЫЗАНЫ ПРАВАКАВАЛІ АКУПАНТАЎ...»

У ЧАС ВАЙНЫ з гітлераўскай Германіяй савецкае камандаванне пачало засылаць на Беларусь чэкістаў для арганізацыі і вядзення партызанскай вайны. Шырока выкарыстоўваліся звычныя для чэкістаў метады гвалту: мужчынскае насельніцтва вёсак прымусам забіралі ў партызаны, гвалтоўна забіралі прадукты харчавання, забівалі не толькі тых, хто быў супраць іх, але і тых, хто быў не з імі. З мэтай узмацнення партызанскага руху чэкісты часта ішлі на правакаванне немцаў на карныя дзеянні супраць мірнага насельніцтва. Абстаноўка ваеннага часу стымулявала маральна няўстойлівых партызан на грабеж мірнага насельніцтва. Сярод партызан быў немалы працэнт тых, хто быў далёкі ад разумення сапраўднай барацьбы з ворагам, якая патрабуе гераічных учынкаў. Каб атрымаць партызанскія дакументы, барацьбу з ворагам яны падмянялі фізічным знішчэннем замешаных ці падазраваемых у калабарацыянізме. Асабліва вялікія ахвяры несла беларуская інтэлігенцыя, і ў першую чаргу настаўнікі школ. Знішчаліся яны цэлымі сем'ямі. Калі ў першы перыяд вайны адносіны немцаў да беларусаў былі ў асноўным лаяльныя, то пазней, калі пачаўся масавы партызанскі рух, рэпрэсіі немцаў дасягнулі значных маштабаў.

Шырокі партызанскі рух на Беларусі яшчэ не характарызуе сапраўднага стаўлення беларусаў да акупантаў. Калі па-сапраўднаму ўнікнуць у тое, як арганізоўвалася і праводзілася партызанская вайна, то мы атрымаем прыкметныя разыходжанні з агульнапрынятым пунктам гледжання.

Неабходна падзяляць партызанскі рух, які ўзнік незалежна сярод беларусаў з удзелам акружэнцаў, і арганізаваны з Цэнтра пры дапамозе засланых энкэвэдыстаў. Стыль баявых дзеянняў апошніх не вызначаўся разборлівасцю ў выбары сродкаў для дасягнення мэты. Лёс мясцовага насельніцтва іх цікавіў у апошнюю чаргу, чаго не скажаш пра сапраўдны беларускі партызанскі рух, добра апісаны ў творах Алеся Адамовіча, Васіля Быкава, Янкі Брыля і іншых беларускіх пісьменнікаў.

Відаць, нідзе так, як у партызанскім руху, не праявілася адначасова гераічнае і злачынна-баязлівае, бескарысна-ідэйнае і хцівае, маральнае і нізменна-варварскае. Узважыць, чаго было больш, немагчыма. Відавочна, праяў першага было больш, інакш не было б тых слаўных перамог партызан, пра якія так многа напісана. Аднак тое, што побач з першым мела месца і другое, не выклікае сумненняў. Гераічнае ў партызанскай барацьбе асветлена ў літаратуры досыць шырока і, трэба сказаць, са значным перабольшаннем. Другі ж — чорны бок — амаль не быў закрануты нашымі пісьменнікамі, ды і зрабіць гэта было цяжка ва ўмовах таталітарнага рэжыму. Але сёння праўду казаць можна.

Калі меркаваць па нямецкім генеральным плане «Ост», беларусам быў падрыхтаваны, вядома, не лёгкі, але менш цяжкі лёс, чым суседнім народам. З мэтай каланізацыі Беларусі (яна ўключалася ў Германскую імперыю) для часткі беларускага насельніцтва, якую фашысты лічылі арыйскай, няхай колькасна меншай, дапускалася асіміляцыя з немцамі і ставіліся патрабаванні адносіцца да іх як да немцаў. Большую частку насельніцтва (75 %), якую яны адносілі да не зусім арыйскай, меркавалася перасяліць на іншыя землі, але не адразу, як іншыя народы, а на працягу даволі значнага перыяду, з забеспячэннем ільготных умоў фінансавання і пасялення ў раёнах, прымальных для вядзення сельскай гаспадаркі. Гэтыя ўвогуле драконаўскія планы, тым не менш, не даюць дастатковых падстаў меркаваць аб нібыта асаблівай варожасці немцаў да беларусаў, як гэта падносілася бальшавіцкай прапагандай у апраўданне велізарнай колькасці ахвяр, панесеных беларускім народам у выніку партызанскай вайны. Пытанне не ў тым, трэба было ці не трэба весці партызанскую барацьбу супраць агрэсара, які спрабаваў цалкам каланізаваць Беларусь, тут усё відавочна, а ў тым, **як** весці гэтую барацьбу. Партызанская вайна вялася так, што галоўным лічылася забіць немца любой цаной: цаной сялянскай сям'і або цаной усёй вёскі. Такі характар дзеянняў быў уласцівы больш партызанам, якімі кіравалі з Цэнтра па лініі НКУС.

Яскравы прыклад гэтаму — забойства партызанамі намесніка Беларусі фон Кубэ, які найбольш лаяльна ставіўся да беларусаў, за смерць якога былі расстраляны тысячы мірных грамадзян горада Мінска. Якая эфектыўнасць гэтай акцыі ў справе набліжэння перамогі? Відаць, эфект быў адваротны. На месца Кубэ прыйшлі ваенныя, якія адразу ж распачалі шырокамаштабныя карныя аперацыі. У выніку гэтая акцыя прывяла да пагоршання становішча ў партызанскім руху.

Забойства Кубэ, як і забойства асобных афіцэраў ці салдат у населеных пунктах, былі малаэфектыўныя, дробныя па ваеннай значнасці і бессэнсоўныя, калі ўлічыць, якой цаной, якімі ахвярамі гэта абарочвалася для мірнага насельніцтва Беларусі. Ясна кожнаму чалавеку са здаровым розумам, што галоўным павінна было быць знішчэнне цягнікоў з ваеннымі грузамі і жывой сілай, станцый з ваеннымі саставамі і іншых ваенных аб'ектаў.

Якое было на самай справе стаўленне беларусаў, у большасці сваёй, да немцаў? Ці былі дастатковыя падставы ў беларусаў ненавідзець немцаў?

Варта ўлічыць, што беларусы, якія пастаянна адчувалі ўціск з боку моцных суседніх дзяржаў, асабліва бальшавіцкай Расіі з яе сталінскімі лагерамі, не заўсёды бачылі ў немцах сваіх ворагаў, ва ўсякім разе, у першы перыяд вайны. Насельніцтва заходніх абласцей за паўтара года знаходжання ў складзе СССР паспела расчаравацца ў бальшавізме. Калі ж гаварыць пра нямецкіх акупантаў, дык тут не было ні асаблівай варожасці, ні асаблівай любові, а было пачуццё насцярожанасці ад пастаяннай небяспекі, якая зыходзіла ад іх.

Невялікая ж частка беларускай патрыятычна настроенай інтэлігенцыі змагалася за адраджэнне і суверэнітэт Беларусі, верачы ў планы фашысцкай Германіі ў адносінах да іх радзімы. Таму сярод тых, хто змагаўся за адраджэнне Беларусі, было нямала сумленных патрыётаў, якія шчыра верылі ў нямецка-фашысцкую прапаганду. Многія з іх пазней, разабраўшыся ў сутнасці фашызму, змянілі сваё стаўленне да немцаў і ваявалі на баку англа-амерыканскіх саюзнікаў, а пасля заканчэння вайны раз'ехаліся па розных краінах.

Дык што ж адбывалася тады на акупіраванай беларускай зямлі? Адно па-за сумненнямі — беларусы паказалі бяспрыкладную мужнасць і волю да супраціўлення. Заўсёды спакойных і ўраўнаважаных беларусаў вывелі з гэтага стану, прымусілі ўзяцца за зброю і помсціць так, як, відаць, яшчэ нікому не ўдавалася. Упэўнены, рабілі б яны гэта таксама і без дапамогі эмісараў чырвонага дракона, якія пакінулі на беларускай зямлі крывавыя сляды, не менш страшныя, чым чор-

# НА АРЭЛЯХ РАЗБЭРСАНАЙ ДУМКІ...

**Апошнім часам пошта «ЛіМа» прыносіць лісты, аўтары якіх робяць спробу пэўным чынам рэвізаваць гісторыю партызанскага руху на Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны, адмаўляюць яго масавы арганічны характар, імкнучыся прадставіць супраціўленне гітлераўскім акупантам як справу, цалкам інспіраваную чэкісцкімі органамі.**

**Такую пазіцыю ўвогуле падзяляе і аўтар дасланага ў «ЛіМ» допіса «Партызаны правакавалі акупантаў» наш чытач з Масквы, прафесар, доктар тэхнічных навук Яўген Шыраеў. Допіс яго рэдакцыя папрасіла пракаменціраваць члена рэдкалегіі «ЛіМа», былога партызана, пісьменніка Нічыпара Пашкевіча.**

ПРА ТОЕ, што адбывалася на акупіраванай гітлераўцамі беларускай зямлі, як вядома, напісана бязліч мастацкіх і дакументальных кніг, успамінаў, навуковых прац, даведнікаў. Але, здаецца, яшчэ ніхто ніколі не адважыўся сказаць: усё, праўда вычарпана да дна, можна закрываць тэму. Тым больш не скажаш гэта сёння, калі мы пачалі больш удумліва і аб'ектыўна разбірацца ў сваёй мінуўшчыне, скідваючы з вачэй ідэалагічна - прапагандысцкія шоры, адмаўляючыся ад розных прадузятых схем. Многаму з напісанага пра вайну, безумоўна, наканавана жыць і жыць па праву мастацкай праўды ці неабвержнага дакумента. Але і патрэба ў новым, усебаковым адлюстраванні і асэнсаванні гэтага самага трагічнага перыяду народнай гісторыі заяўляе пра сябе з усё большай рашучасцю.

Тэмпераментны голас прафесара Я. Шыраева хацелася б успрымаць іменна ў гэтым кантэксце — як нецярплівае жаданне хутчэй бачыць мастацкую, навуковую і публіцыстычную думку на шляху нічым не абмежаванага, сумленнага і шчырага выяўлення тагачасных падзей, людскіх лёсаў і настрояў, вызнаючы толькі аднаго Бога — яго вялікасць факт. Варта ўсяляк падтрымаць аўтара артыкула, калі ён гаворыць, што ў спадчыну наступным пакаленням мы павінны перадаць вопыт народа ваеннай пары ў поўным аб'ёме, як ён складваўся і склаўся ў сапраўднасці. Дадам ад сябе, што гэта сапраўды нядобра, несумленна выстаўляць сябе перад нашчадкамі ў ненатуральным, прыхарошаным, ці наадварот, выглядзе.

Ды вось якая атрымалася няўвязка. Наважыўшыся тут жа абазначыць важнейшыя арыенціры да ўсебаковай ісціны, Я. Шыраеў не даў сабе асаблівага клопату, каб самому засцерагчыся ад таго, у чым ён абвінавачвае іншых. І першым чынам — ад непрыкрытай тэндэнцыйнасці (праўда, новага, сённяшняга гатунку), як і ад яе родных сясцёр — бяздоказнасці і адвольнага абыходжання з фактамі. А ў выніку...

Сёння, канешне, можна мець ладны навар папулярнасці, распісваючы розныя цёмныя і каварныя справы нашых органаў дзяржаўнай бяспекі. Актыўна дзейнічалі чэкісты і на акупіраванай ворагам беларускай зямлі. Вялі тут разведку і контрразведку, учынялі дыверсіі, памагалі ў гэтых справах, калі трэба, і малавопытным партызанам. Словам, выконвалі тое, што ім і належала рабіць у вайну па абавязку службы. Але пад пяром Я. Шыраева дзейнасць чэкістаў, з якіх ён і пачынае свой артыкул, пэўна, каб адразу прыкаваць увагу чытача, выглядае, мякка кажучы, зусім інакш. Па-першае, яны ператвараюцца ў галоўных, ледзьве не адзіных падбухторшчыкаў і арганізатараў партызанскай барацьбы (пра франтавыя, Беларускі і Цэнтральны штабы партызанскага руху, райкомы, абкомы і ЦК Кампартыі Беларусі, розныя іншыя кіруючыя структуры ў артыкуле — ні слова). Па-другое (вось асабліва з гэтага і той ладны навар!), усё, што ні рабілі чэкісты, аказваецца, было суцэльным гвалтам над мірным насельніцтвам, інтарэсы і жыццё якога яны ні ў што не ставілі.

Чытаючы адпаведныя мясціны артыкула, не ведаеш, ці спачуваць аўтару з поваду яго такой зацятай непрыязі да чэкістаў, якія ваявалі ў варожым тыле, ці смяяцца. А на смех цягне таму, напрыклад, што, як сцвярджае аўтар, яны — адпаведна сваім звычным метадам — забіралі мужчынскае насельніцтва вёсак у партызаны **сілком, прымусова.** Якім жа, скажыце, калі ласка, трэба было быць ідыётам, каб разлічваць на прымусовую мабілізацыю людзей у партызанскія атрады?! Варожы тыл — гэта ж не двор ваенкамата, дзе мабілізаваных можна, калі неабходна, узяць пад ахову і не спускаць з іх вока, пакуль не пагрузяць у транспарт. Ну, добра — сагнаў людзей у лес пад дулам аўтамата, прымусіў іх прабубніць партызанскую прысягу, і што рабіць далей? Так пад дулам аўтамата і ганяць на дыверсіі, у разведку ў варожы гарнізон, за ламаччам для вогнішча і г. д.? Смешна, вядома.

А як уявіць сабе і знайсці хоць нейкія матывы ўчынкаў чэкістаў, калі нам гавораць, што яны «забівалі не толькі тых, хто быў супраць іх, але і тых, хто быў не з імі»? «Не з імі» ж былі мільёны жыхароў гарадоў і вёсак. Значыць, так размашыста і касілі пагалоўна ўсіх, хто трапляў на вочы? Не зважаючы на тое хоць бы, што ў выніку заўтра не будзе ў каго нарабаваць прадуктаў харчавання, каб, падмацаваўшыся, далей ісці на свае крывавыя справы?

Шмат розных жахаў чэкісцкага разгулу, разлічаных на даверлівага чытача, нарадзілася ў распаленай фантазіі прафесара. Ды, мабыць, і самы наіўны чытач з глыбокім сумненнем здрыганецца ад заключнага акорду «чэкісцкай тэмы», калі аўтар сцвярджае, што «эмісары чырвонага дракона... пакінулі на беларускай зямлі крывавыя сляды, не менш страшныя, чым чорныя батальёны карычневага дракона».

Не будзем безнадзейна дакараць аўтара за тое, што ён «умудрыўся» абысціся без фактаў і лічбаў, робячы такія параўнанні і абагульненні. Хацелася б лепш папрасіць яго задумацца над тым, чаму гэта **паўмільённае** войска партызан, сярод якіх было не менш як **дзве трэціх беларусаў,** цярпела такі крывавы здзек з народа параўнальна невялікай зграі ліхадзеяў (разведвальна-дыверсійныя групы і спецыяльныя атрады, якія дзейнічалі на Беларусі пад кіраўніцтвам чэкістаў, налічвалі каля **дзесяці** тысяч чалавек, ды і то сярод іх было вельмі многа мясцовых жыхароў; «класічны» спецатрад «Градава» (С. А. Ваўпшасава), напрыклад, прыйшоў з-за фронту ў складзе 32 чалавек, а к канцу акупацыі «аброс» мясцовымі жыхарамі так, што налічваў ужо многія і многія сотні ўзброеных байцоў і патаемных разведчыкаў. Калі дакладней, то ў сістэме партызанскага руху на Беларусі налічвалася за ўсе гады акупацыі ўсяго 1850 супрацоўнікаў НКДБ і міліцыі)?

Але прасіць прафесара задумацца над гэтым, бадай, няма патрэбы, бо ў артыкуле мы знаходзім адказ на пастаўленае пытанне. Партызаны, як даводзіць аўтар, лёгка засвойвалі псіхалогію, мараль і метады сваіх натхніцеляў і арганізатараў — энкэвэдыстаў. Іх, прынамсі, многіх і многіх таксама было хлебам не кармі, а дай толькі паздзекавацца з мірнага насельніцтва, застрэліць каго-небудзь з замешаных ці падазраваемых у калабарацыянізме, асабліва з асяроддзя інтэлігенцыі. «Відаць, нідзе так, як у партызанскім руху, не праявілася адначасова гераічнае і злачынна-баязлівае, бескарысліва-ідэйнае і хцівае, маральнае і нізменна-варварскае. **Узважыць, чаго было больш, немагчыма»**,—чытаем мы (падкрэслена мною). Вось такім яно было, партызанскае войска. Дык адкуль жа ў яго, з такімі прапорцыямі ўзаемавыключаных маральна - псіхалагічных якасцей, з такой «крытычнай масай» бандыцкіх нораваў і шкурных інтарэсаў магло ўзяцца дастаткова моцы і ахвоты, каб не толькі безупынку даваць пад дых ворагу-чужынцу, а і ўкарочваць рукі раз'юшаным пасланцам «з цэнтра па лініі НКУС»?

Апошнім часам на хвалі пагалоўнай пераацэнкі ўсіх нашых каштоўнасцей можна ўсё часцей бачыць, як драбнеюць, ператвараюцца ў нішто альбо ўвогуле набываюць злавесны сэнс баявыя справы беларус-

ныя батальёны карычневага дракона.

Дазволю сабе прывесці некаторыя ўспаміны са свайго дзяцінства, выступіць жывым сведкам падзей таго часу.

Помню пачатак вайны. Наступленне немцаў было такое імклівае, што савецкія ваенныя ўлады ў вёсках Заходняй Беларусі не паспелі мабілізаваць мужчын. Амаль усе засталіся дома. Фронт прайшоў каля маёй вёскі Паляны Маладзечанскага раёна. Упершыню немцаў мы ўбачылі, калі яны прыйшлі купляць у сялян яйкі і курэй. Тады фронт быў ужо далёка за Мінскам.

Першы час асаблівай варожасці паміж беларусамі і немцамі не назіралася. Не было і вымагальніцтва ці грабяжу насельніцтва з боку акупантаў. Быў толькі адзін выпадак, калі ў вёску нечакана наляцела група салдат адной з саюзных з Германіяй краін і пад пагрозай зброі пачала забіраць у насельніцтва прадукты (курэй, яйкі, гусей, парасят і інш.). Найбольш актыўныя сяляне, параіўшыся, вырашылі далажыць аб тым, што здарылася, каменданту бліжэйшай чыгуначнай станцыі Сечкі (напрамак Маладзечна — Палачаны), якая знаходзілася за тры кіламетры ад вёскі, накіраваўшы туды бывалага селяніна Якубовіча, які ведаў крыху нямецкую мову. Прыведзены Якубовічам нямецкі афіцэр з салдатамі паспеў затрымаць і арыштаваць увесь гэты атрад і вярнуць сялянам нарабаванае.

Дзеля справядлівасці варта сказаць, што немцы бралі дзяржаўны падатак толькі з забяспечаных сялян, прычым меншы, чым у пасляваенны час пры савецкай уладзе. Больш таго, малазямельным бедным сялянам аказвалася дапамога. У нас у вёсцы жыла бедная сям'я Каралевічаў, якая атрымлівала гэтую дапамогу.

Партызаны заходзілі да нас рэдка. У нас не было ні балот, ні хоць колькі значных лясоў. Невялікія прыгожыя бары, што існавалі да прыходу ў 1939 годзе Чырвонай Арміі. былі чамусьці амаль цалкам высечаны ў саракавым годзе савецкімі ўладамі. Тым не менш, трагічныя падзеі, звязаныя з дзеяннямі партызан, даходзілі і да нашай вёскі. Непадалёк ад нас на хутары жыла заможная сям'я Кажухоўскіх. Гаспадар — просты вясковы хлопец, які ажаніўся з дачкою памешчыка, вызначаўся ўменнем весці гаспадарку. Партызаны расстралялі ўсю гэтую сям'ю. Бачных прычын не было. У адказ на гэтую акцыю партызан немцы расстралялі дзве сям'і сялян у вёсках Цюрлі і Сакі, у якіх спыняліся на начлег партызаны. Увогуле, партызаны сістэматычна знішчалі сем'і польскіх і беларускіх дваран, а таксама сем'і настаўнікаў. Апошнія разглядаліся імі як калабарацыяністы толькі таму, што працавалі ў школах, вучылі дзяцей.

У пачатку вайны былі частыя выпадкі ўцёкаў ваеннапалонных з канцлагераў. Часцей за ўсё яны асядалі ў вёсках. Разам з сялянамі працавалі на палях. Партызаны вышуквалі гэтых ваеннапалонных і прымушалі ісці з імі ў лес ці падпольна працаваць у немцаў для збору разведвальных дадзеных і аказваць дапамогу партызанам у правядзенні дыверсійных аперацый. Хто адмаўляўся,— расстрэльвалі. Так быў расстраляны былы ваеннапалонны, які жыў у суседняй невялікай вёсачцы Наўстронні ў селяніна па прозвішчы Леган. Мае бацькі таксама прытулілі ваеннапалоннага, Аляксея Калініна (па нацыянальнасці рускага), які ўцёк з канцлагера. Уладам ён быў прадстаўлены як сваяк. Павінен заўважыць, што з боку сялян такі крок быў спалучаны з вялікай рызыкай. Па ўказанні партызан Аляксей працаваў грузчыкам на чыгуначнай вузлавой станцыі г. Маладзечна і збіраў разведвальныя дадзеныя. Пры вызваленні нашай тэрыторыі савецкай арміяй ён пайшоў на фронт і з таго часу пра яго, на жаль, нічога не вядома.

Заслугоўваючым увагі фактам лаяльнага стаўлення немцаў да беларусаў у першы год вайны з'яўляецца вызваленне ваеннапалонных з лагераў і адпраўка іх па дамах. Для гэтага дастаткова было бацькам або родзічам ваеннапалоннага звярнуцца да ваенных улад, ахоўнікаў лагера, і ваеннапалоннага адпускалі дадому. Падобны выпадак меў месца з маім далёкім сваяком. Некаторыя сяляне ішлі на рызыку і такім чынам выручалі рускіх ваеннапалонных.

Улічваючы, што практычна ўсё мужчынскае насельніцтва Заходняй Беларусі з-за паспешлівага адступлення Чырвонай Арміі, аказалася не мабілізаваным, і тое, што ваеннапалонныя беларусы па хадайніцтве родных адпускаліся немцамі дадому, можна меркаваць што ў канцлагерах заставалася нязначная частка беларусаў (па крайняй меры ў пачатковы перыяд вайны).

У апошні час пачалі з'яўляцца публікацыі пра бясчынствы партызан над мірным насельніцтвам. Нарэшце настаў час сказаць праўду пра гэта. Метады партызан часам нічым не адрозніваліся ад метадаў нямецкіх карных атрадаў. Вядомы беларускі пісьменнік Янка Брыль напісаў аб спаленні партызанамі, на чале з засланым з Цэнтра камандзірам, беларускай вёскі разам з людзьмі, жыхары якой нечым не дагадзілі партызанам («Літаратура і мастацтва», 22 лютага 1991 г.). Пісьменнік Вячаслаў Адамчык у сваім апавяданні «Вазьмі крыж свой» («Наша Ніва», № 3, 1991 г.) апісвае, як партызаны распраўляліся з ні ў чым невінаватымі людзьмі, калі ў іх не аказвалася золата, якое партызаны збіралі па заданні Цэнтра. У пісьме ў тую ж газету Рыгора Лявонцьева (г. Чэлябінск) апісваецца выпадак расстрэлу ў Клічаўскім раёне партызанамі ні ў чым невінаватага настаўніка школы Васіля Астроўскага. У шэрагу матэрыялаў прыводзяцца і прозвішчы партызанскіх камандзіраў, якія тварылі гэтыя зверствы. Паўсюдна, дзе здзяйсняліся такія бясчынствы, адчуваецца почырк энкэвэдыстаў, а прасцей — бандытаў, якія распраўляліся над мірнымі грамадзянамі толькі за тое, што яны вымушаны былі працаваць на нямецкіх прадпрыемствах ці ў школах, зарабляючы сабе на хлеб.

Не ашчаджалі яны і сялян, якія адмаўляліся аддаць партызанам свае небагатыя пажыткі. Не будзе памылкай сказаць, што ўсё гэта мела масавы характар.

Пасля вайны абяскроўленая, разбураная, пазбаўленая сваёй інтэлігенцыі Беларусь апынулася ў поўнай уладзе партызан. Яны занялі большасць начальніцкіх крэслаў, пачынаючы ад кіраўніцтва рэспублікі і канчаючы мясцовымі органамі ўлады. Сярод іх былі розныя людзі — сапраўдныя героі і тыя, хто праявіў «гераізм» толькі з мэтай набыць партызанскія дакументы. Менавіта апошнія аказаліся найбольш актыўнымі ў мірны пасляваенны час. Дамінуючую ролю тут адыгрывалі былыя партакраты, якія прайшлі праз партызаншчыну. Не менш актыўнымі былі і тыя, з чыіх рук не была змыта кроў ахвяр сталінскіх рэпрэсій 30-х гадоў. Усё жыццё, не толькі палітычнае, а і культурнае (літаратура, мастацтва) былі прасякнуты бальшавіцка-партызанскай ідэалогіяй. Гэтыя псеўдапартызаны прывычнымі метадамі гвалту заганялі народ заходніх абласцей у калгасы і грабілі яго непамернымі падаткамі і паборамі, калі тыя не жадалі ўступаць у іх.

Помню, як, ужо будучы студэнтам, я атрымаў ліст ад бацькі, у якім ён пісаў, што фінагенты (з былых партызан) забралі проста з вясковага статка ў полі цялушку і павялі яе з сабою ў якасці нядоімкі (падатку) за тры кілаграмы мяса, недапастаўленых у тэрмін дзяржаве. Тады адначасова яны забралі скаціну ў нашых суседзяў Каліноўскіх і ў іншых сялян. Я пісаў пра гэта ў газету «Праўда». Няцяжка здагадацца, чым усё гэта скончылася.

У пасляСталінскі перыяд прадаўжала функцыянаваць тая ж машына партызаншчыны. У пэўным сэнсе гэтым можна растлумачыць і кансерватызм цяперашняга Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, які складаецца, як трэба меркаваць, у немалой частцы з былых партызан і асоб, цесна звязаных з імі сваяцкімі сувязямі ці па рабоце ў партыйных і савецкіх органах.

Сёння асноўныя спадзяванні даводзіцца ўскладаць на маладое пакаленне, больш смелае, пазбаўленае страху змрочных мінулых гадоў.

Увесь свет і асабліва маладое пакаленне беларусаў павінны ведаць сапраўдную гісторыю партызанскага руху на Беларусі.

**Я. ШЫРАЕЎ,**
**прафесар, доктар тэхнічных навук.**

---

кіх партызан, грозную сілу якіх прызнавалі нават самі гітлераўцы. Учытайцеся, напрыклад, у гэтыя радкі з інтэрв'ю Аляксея Каўкі карэспандэнту «ЛіМа»: «Попел беларускіх Хатыняў — ці не дужа высокая плата за ўзарваныя партызанамі рэйкі, падстрэленага аднаго-другога бургамістра, старасту, немца-абозніка, ці нават пакаранага падпольшчыкамі гаўляйтара?» («ЛіМ», 1992 г., 10 студзеня). Што і казаць, плата, безумоўна, задужа высокая, вышэй не прыдумаеш. Але ж і «паслужны спіс» партызанскай арміі на справе не такі нікчэмны. Навошта ж так бязлітасна яго абцінаць!

Сумны рэкорд па развенчванні партызанскай барацьбы належыць, бясспрэчна, адной нашай вядомай паэтцы, якая, між іншым, па збегу жыццёвых абставін не бачыла і не магла бачыць партызан на ўласныя вочы. Вось некаторыя ўдарныя фрагменты з яе гнеўнага паэтычнага маналога:

**...Пішуць вершы, повясці,**
**раманы,**
**Усё ж няма там ні слаўца**
**нігдзе,**
**Каб грудзьмі стаялі**
**партызаны**
**За расстраляных, за паленых**
**людзей!**
**То ня подзьвіг баявы**
**і сьмелы,**
**Тольки брэх сабачы і пусты,**
**Наклікаць на сёлы смерць**
**умелі,**
**А самыя шпарылі ў кусты!**
**Выстаўлялі немаўлят пад**
**стрэлы**
**І слабых жанчын пад кулямёт,**
**Ім за рэйкі дык душа балела,**
**Не балела толькі за народ.**
**Жаль народны, што ня знае**
**меры,**
**Дым з абпаленых,**
**загубленых касцей,**
**Партызаны горшыя,**
**як зьверы,**
**Звер так ворагу ня кідае**
**дзяцей.**
**. . . . . . . . . . . .**
**Край мой любы, жытні**
**і курганны,**
**На няласцы нелюдзяў чужых,**
**І калі мне скажуць:**
**партызаны,**
**Жудасна мне робіцца ад іх.**

Чытаючы гэтую несусветную хлусню, проста нямееш і не знаходзіш слоў, каб запярэчыць. Заўважу толькі, што паэтка адным махам абразіла дзесяткі тысяч сваіх сясцёр— мацярок і дзяўчат, якія ішлі поплеч з мужчынамі ў шарэнгах партызан і падпольшчыкаў (асабліва балюча за іх, ладна ўжо мы, мужчыны, — праглынем!).

Я. Шыраеў, дзякаваць богу, не выносіць такі безапеляцыйны смяротны прысуд партызанскай барацьбе ўвогуле. Ён усё ж вучоны і ведае, што з гістарычнымі фактамі праз пяцьдзесят гадоў змагацца цяжкавата. Не адмаўляе ён і «слаўных перамог партызан, пра якія так многа напісана». Але вось што яму муляе, не дае спаць, дык гэта, па-першае, як ужо сказана, залішне вялікі ўдзел энкэвэдыстаў у партызанскай барацьбе і згубны іх уплыў на яе метады, па-другое, слепата нашых гісторыкаў, якія валяць усё ў адну кучу. У якім сэнсе?

«Неабходна,—вучыць Я. Шыраеў, — падзяляць партызанскі рух, які ўзнік незалежна сярод беларусаў з удзелам акружэнцаў, і арганізаваны з Цэнтра пры дапамозе засланых энкэвэдыстаў». Таму, бачыце, што першы з іх гэта «сапраўдны беларускі партызанскі рух», а другі...—пра яго характар са слоў аўтара я гаварыў вышэй.

Значыць, два аўтаномныя, розныя па стылі і метадах барацьбы рухі. Цікава. А, скажам, для маладога даследчыка, які шукае новыя падыходы да асвятлення тых падзей, і заманліва.

І вось ён, малады даследчык, падзякаваўшы прафесару за фундаментальную падказку, рынецца ў бой, каб рэалізаваць свежую ідэю. Але тут жа з расчараваннем і астыне. Бо варта яму зрабіць першы лагічны ў такім выпадку крок — узяць у рукі якое-небудзь даведачнае выданне (скажам, кнігу «Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны», дзе абагулены кароткія звесткі пра ўсе брыгады і атрады, іх паходжанне і асабовы склад), як стане ясна, што падараваная прафесарам ідэя проста высмактана з пальца.

Так, па ўсёй рэспубліцы ў масавым парадку ўзнікалі партызанскія атрады і падпольныя групы з «акружэнцаў» і мясцовых жыхароў. Так, бясконцым ланцугом ішлі атрады, групы, партыйныя і камсамольскія арганізатары, ваенныя спецыялісты з-за фронту, у складзе якіх, дарэчы, было вельмі многа беларусаў (характэрна, што спецыяльныя курсы па падрыхтоўцы кадраў для партызанскіх атрадаў рэспублікі, якія дзейнічалі каля Мурама Горкаўскай вобласці, насілі назву **Асобы беларускі збор**). Але ўсё гэта зліваласяў адзіную плынь, і ніякага «парада суверэнітэтаў» не было (я не кажу пра лакальныя ўспышкі звычайнай амбіцыёзнасці ці барацьбы за ўладу). Камбрыгамі, камандзірамі атрадаў, камісарамі і іншымі кіраўнікамі рабіліся і «акружэнцы», і мясцовыя жыхары, і прысланыя з-за фронту. Прычым, яшчэ раз мушу падкрэсліць, — «з-за фронту» зусім не азначае «па лініі НКУС», як хоча пераканаць нас Я. Шыраеў. Усімі справамі партызанскага руху ўсё ж загадвалі вышэйназваныя штабы і партыйныя органы. Хацелася б параіць аўтару пазнаёміцца ў памянёным даведніку з адпаведнымі звесткамі хоць бы пра 18 брыгад і 5 асобных атрадаў, якія дзейнічалі ў яго роднай Маладзечанскай (тады Вілейскай) вобласці. Ён бы ўбачыў, якая там была «каша», і наўрад ці адважыўся б «вылушчваць» з адзінага руху нешта аўтаномнае, асаблівае.

«Тэорыя» двух рухаў спатрэбілася Я. Шыраеву не так сабе, не дзеля фіксацыі быццам бы рэальных працэсаў. Яму ахвота давесці, што «сапраўдныя» беларускія партызаны здолелі б здзейсніць сваю місію, не наклікаючы гнеў гітлераўцаў на мірнае насельніцтва, бо барацьба вялася б, відаць, інакшымі, «цывілізаванымі» ці што, метадамі. «Ясна кожнаму чалавеку са здаровым розумам,—сцвярджае Я. Шыраеў,— што галоўным павінна было быць знішчэнне цягнікоў з ваеннымі грузамі і жывой сілай, станцый з ваеннымі саставамі і іншых ваенных аб'ектаў (нядаўняя амерыканская «Бура ў пустыні» дый толькі!).

Ну што ж, напомнім тады, што безліч баявых аперацый было праведзена партызанамі і ў адпаведнасці з гэтым запозненым сцэнарыем. Але хіба яны не заканчваліся помслівай расправай гітлераўцаў з мірным насельніцтвам? Вось адзін толькі прыклад з мноства яму падобных. У жніўні 1942 года круглянскія атрады пад кіраўніцтвам Сяргея Жуніна дзёрзкім налётам разграмілі чыгуначную станцыю Слаўнае (што паблізу Талачына), дзе былі і ваенныя саставы, і склады з боепрыпасамі, і розныя абаронныя збудаванні. Даведаўшыся пра гэта, Гітлер запатрабаваў ад камандавання групы арміі «Цэнтр» — не, не ўдарыць па партызанскіх базах, а «неадкладна правесці аперацыю адплаты... з прымяненнем самых жорсткіх рэпрэсіўных мер». Што і было зроблена: 100 мірных жыхароў станцыйнага пасёлка, у тым ліку нямала старых і дзяцей, гітлераўцы расстралялі на вачах сагнанага паўтаратысячнага натоўпу жыхароў суседняга гарадскога пасёлка Крупкі (у навуку ўсім). Збіраліся яшчэ спаліць усе вёскі абапал чыгункі ад Барысава да Оршы, але «разумна разважылі: дзе ж тады раскватароўваць свае вайсковыя часці і адкуль зімою браць рабочую сілу для ачысткі чыгуначных пуцей ад снегу?

Відаць, адзінае выйсце было тады ў беларускага народа — сядзець, як мыш пад венікам, і не варушыцца. Але што зробіш, калі ён не захацеў у такім нягожым стане чакаць свайго непазбежнага канца. А што беларускай нацыі «свяціў» толькі канец, няцяжка было здагадацца і па першых кроках захопнікаў. Хоць бы па тым, як яны ўмомант разарвалі жывое цела Беларусі на кавалкі і раскідалі іх куды каторы, пакінуўшы для прыліку пад назвай «Беларутэнія» ўсяго адну чацвёртую частку тэрыторыі рэспублікі.

Паскубваючы партызанскі рух то з аднаго боку, то з другога, Я. Шыраеў адначасова вырываецца і на больш шырокі палітычны прастор — рубам ставіць праблемы адносін нямецкіх акупантаў да беларусаў як нацыі, і наадварот. Гэта, бадай што, другая каронная тэма артыкула, прасачыць логіку якой, праўда, надзвычай цяжка, бо думка аўтара тут сутаргава б'ецца паміж Сцылай і Харыбдай. Тым не менш асноўныя палажэнні прафесара дастаткова празрыстыя, каб зразумець, куды ён хіліць.

А хіліць ён к таму, што беларусы «ў большасці сваёй» (як быццам нехта праводзіў усеагульнае апытанне ці хоць бы выбарачнае сацыялагічнае даследаванне) «не заўсёды бачылі ў немцах сваіх ворагаў, ва ўсякім разе, у першы перыяд вайны». Самі немцы быццам бы не давалі для гэтага ніякіх асаблівых падстаў.

Я. Шыраеў спасылаецца тут на памяць свайго вясковага маленства. Ну што ж, пяцьдзесят гадоў назад да гэтых дзіцячых уражанняў я мог бы пад настрой далучыць і свае, у нечым

(Працяг на стар. 12).

# НА АРЭЛЯХ РАЗБЭРСАНАЙ ДУМКІ...

(Пачатак на стар. 10—11).

падобныя назіранні зялёнага юнака. Я таксама ўпершыню ўбачыў немцаў жыўцом з надзвычай мірным абліччам, хоць і ў вайсковай форме,— прыехалі яны ў нашу вёску з бліжэйшага аэрадрома, як мы сказалі б цяпер, па гуманітарную дапамогу: «Матка, яйка». Потым прыязджалі яшчэ нейкія за правізіяй, дык нават ветліва навязвалі гаспадыням афіцыяльныя, з арлінай пячаткай квітанцыі за «пазычаных» курэй і парасят: «Матка, беражы, хутка будзе капут вайне, за ўсё заплаціць Вялікая Германія!» Мог бы, словам, пад настрой далучыць да прафесарскіх гэтыя свае незласлівыя ўражанні. Ды вось якая закавыка. Перад тым, як апынуцца ў сваёй вёсцы, я цяжка нёс у сваёй душы і іншы вопыт. На маіх вачах армады нямецкіх бамбардзіроўшчыкаў на трэці і чацвёрты дні вайны размалацілі ўшчэнт — не, які-небудзь наш армейскі гарнізон (што было б увогуле па законах вайны), а сталіцу «сімпатычнага» ім беларускага народа з трымастамі тысячамі мірных жыхароў. А потым гулівыя сцярвятнікі ледзьве не прасавалі нас, бежанцаў, фюзеляжамі на Маскоўскай шашы, усцілаючы яе абочыны забітымі і параненымі. Як жа тут, будучы беларусам, можна было пазбегнуць пачуцця варожасці да немцаў і застацца ў палоне ілюзій наконт магчымасці нейкага паразумення з імі?

Тым больш цяпер мы з прафесарам — сталыя (і старыя) ужо людзі. Шмат чаго пабачылі ў вайну, шмат якія жахлівыя, раней не вядомыя дакументы маглі пачытаць за мінулыя дзесяцігоддзі пасля вайны. І, здавалася б, даўно ўжо не павінна было застацца малейшага следу нейкіх супярэчлівых разважанняў аб намерах, з якімі гітлераўцы прыйшлі на беларускую зямлю. Аднак жа вось даводзіцца і сёння гушкацца на арэлях прафесарскай разбэрсанай думкі з яе неверагоднай амплітудай ад справядлівага абвінавачвання агрэсара ў «драконаўскіх планах» да сумненняў наконт «асаблівай варожасці немцаў да беларусаў, як гэта падносілася бальшавіцкай прапагандай», больш таго — да нейкай нібы радасці, што беларусам быў падрыхтаваны, хоць і нялёгкі, «але менш цяжкі лёс, чым суседнім народам».

Канешне, немцы не абыходзіліся так з беларусамі, як з яўрэямі і цыганамі, якіх знішчалі толькі па нацыянальных адзнаках. Аднак наўрад ці маглі беларусы са сваім рахмана-інтэрнацыяналісцкім характарам, са сваёй спагадлівасцю не прыняць да сэрца гора і трагедыю братоў і суседзяў і бяздумна цешыцца сваім «менш цяжкім лёсам». Мы ж, здаецца, ніколі не імкнуліся будаваць сваё шчасце побач з няшчасцем іншых.

Ды які там «менш цяжкі лёс»! Пераказваючы асноўныя моманты той часткі «славутага» гітлераўскага плана «Ост», дзе гаворыцца пра лёс беларусаў, Я. Шыраеў, відаць, нікольні не ўдумваўся ў іх жахлівы, трагічны сэнс. Уявіце сабе — нацыя павінна была знікнуць з твару зямлі, невялікай часткай «анямечыўшыся», а асноўнай масай выгнаная ў Сібір, а шаноўны прафесар не знаходзіць у гэтых вар'яцкіх разліках гітлераўцаў «асаблівай варожасці» да яе. Нават як бы хоча суняць наш вечны страх і гнеў, лічачы патрэбным не прамінуць сказаць, што гэта адбылося б не адразу, а на працягу значнага часу ды яшчэ з забеспячэннем нейкіх там «ільготных умоў фінансавання» для перасяленцаў. (Цікава было б — у духу каварнай дапытлівасці нашай сучаснай прэсы — спытацца, якую з дзвюх дарог выбраў бы для сябе аўтар, калі б уся вайна пайшла па гітлераўскім хаценні, і як бы ён у «прапанаваных абставінах» выбіўся ў прафесары?). Цяжка паверыць, што гэтая халодная трактоўка расійскага вераломства належыць беларусу па паходжанні ды яшчэ (як сведчаць яго іншыя публікацыі) прыхільніку сённяшняй барацьбы за наша нацыянальнае Адраджэнне і яднанне.

Не лішне заўважыць, што асноўныя пасылкі плана «Ост» былі вызначаны гітлераўскімі вандаламі ўжо ў 1940 годзе! Гэта я к таму, што нярэдка можна пачуць, быццам бы гітлераўскі генацыд у дачыненні да беларусаў з'явіўся вынікам іх нечаканай для немцаў непакорлівасці і шырокага размаху партызанскай барацьбы (водгалас гэтай легенды добра чуецца і ў артыкуле Я. Шыраева).

Дзіўным чынам адрэкамендаваў сённяшняму чытачу Я. Шыраеў у сувязі з нацыянальным пытаннем і пэўную частку «беларускай патрыятычна настроенай інтэлігенцыі» (маюцца на ўвазе, канечне, не Янка Купала, Якуба Колас, Кузьма Чорны, Ларыса Александроўская і да іх падобныя). Яна, гэтая інтэлігенцыя (пэўна ж, як і належыць інтэлігенцыі, цвет і сумленне нацыі), быццам бы не змагла спачатку «разабрацца ў сутнасці фашызму» і верыла «ў планы фашысцкай Германіі ў адносінах да іх радзімы». Тое, што не змагла разабрацца, калі яно сапраўды так, аднясём на рахунак інтэлекту гэтай інтэлігенцыі. Але вось на якія планы немцаў адносна адраджэння і суверэнітэту Беларусі яна ўскладала свае шчырыя надзеі? Акупанты ж, захапіўшы Беларусь, і блізка нічога падобнага не абяцалі, нават у прапагандысцкіх мэтах **(генеральная акруга «Беларутэнія»** — трэба думаць, **не рэспубліка,** а генеральны камісар, ці гаўляйтар, якога прызначаў Берлін,— пэўна ж, не абраны народам прэзідэнт). Гітлераўцы не рассакрэчвалі пакуль свой план «Ост», але ж і нічога заманлівага па нацыянальным пытанні нідзе не было сказана, акрамя заклікаў да насельніцтва ствараць органы самакіравання і «службы парадку». Нават гаўляйтар Кубэ, які, паводле Я. Шыраева, «найбольш лаяльна ставіўся да беларусаў» (цікава, каго гэта ён «пералаяліў» з верхаводаў нацысцкай партыі?), і той слова не вымавіў пра беларускі суверэнітэт. А падручны характар Беларускай рады даверу пры Генеральным камісарыяце, на якую гэты «клапатлівы апякун» беларусаў рашыўся, звернем увагу, толькі ў ліпені 1943 года, няцяжка было і разгадаць. Як і прывідную дзяржаўную ролю створанай потым, у снежні таго ж года Беларускай Цэнтральнай Рады (гэта ўжо, дарэчы, падарунак новага гаўляйтара — эсэсаўца Готберга).

Сёння, канечне, можна паспачуваць многім з тых, хто, шчыра ашукаўшыся, пайшоў на супрацоўніцтва з акупантамі і зламаў свой лёс, страціў сваю радзіму. Але ж дзеля справядлівасці хочацца нагадаць, што «бальшавіцкая прапаганда» своечасова паказвала ўсім, хто заблудзіўся ў тых **двух** соснах, куды яны ідуць, і цярпліва тлумачыла, куды павінны ісці ў такі час сапраўдныя патрыёты. Тлумачыла і, трэба сказаць, нямала каму дапамагла. Партызаны не толькі стралялі здраднікаў — яны таксама давалі магчымасць тым, хто своечасова адумаўся выкупіць сваю віну перад радзімай. Успамінаю свой атрад: пад канец нашай партызанскай эпапеі ў яго складзе было ці не трэць былых уласаўцаў, паліцаяў і іншых калабарацыяністаў. Зрэшты, лепш нагадаць сапраўды яркі факт — пераход на бок партызан цэлай брыгады «ронаўцаў» на чале з Гіль-Радзіёнавым.

Некаторыя аматары суцэльнага рэдагавання гісторыі ў святле сучасных нацыянальных клопатаў ставяць пытанне нават так: а ці была для беларусаў вайна Савецкага Саюза з гітлераўскай Германіяй Айчыннай вайной? Што тут скажаш? Як для каго. Для паліцаяў, бургамістраў, службоўцаў «самаахоўы» і іншых здраднікаў, якія да канца трымаліся сваіх пазіцый, вядома, не была. Для нас жа, партызан, падпольшчыкаў і звышмільённага «кантынгенту» беларусаў-франтавікоў, безумоўна, была. А паколькі нас было непараўнальна больш, то, пэўна ж, гаварыць ад імя народа маем права іменна мы. Цікава, што супраць вызначэння вайны з напалеонаўскай Францыяй як Айчыннай ніхто пакуль не выступае, хоць і тады ж, здаецца, не было раю на беларускай зямлі і народ не меў свайго суверэнітэту. Відаць, нельга ўраўнаважваць, ставіць на адну дошку ўнутраныя праблемы народнага жыцця і знешнюю небяспеку, калі яна пагражае нацыянальным вынішчэннем. Можна ўявіць, якую памяць пра сябе пакінулі б у народзе дзекабрысты, калі б яны выйшлі на Сенацкую плошчу, скажам, у 1812 годзе.

Я зусім не адмаўляю верагоднасці фактаў анархічнага самавольства партызан, нічым не апраўданых бясчынстваў і рэпрэсій з іх боку, пра якія гаворыць Я. Шыраеў, успамінаючы тагачасныя падзеі ў сваім родным раёне, а таксама спасылаючыся на некаторыя публікацыі ў друку. Наадварот, мог бы тое-сёе, не менш абуральнае, дадаць у гэты «чорны рахунак» і з вядомага мне. Чаго-чаго, а «партызаншчыны» ў нашым асяроддзі хапала. Адно толькі выклікае рашучае пярэчанне — калі самаўпраўныя і злачынныя дзеянні асобных людзей, колькі б іх ні было, уводзяць у ранг партызанскай палітыкі, стратэгіі і тактыкі. Абсурднасць такіх абагульненняў для мяне відавочная, таму што на справе якраз нямала рабілася ў тых складаных, цяжка кантралюемых абставінах, каб стрымаць стыхію ўсёдазволенасці, якая зыходзіла ад маральна няўстойлівых байцоў і камандзіраў.

Я. Шыраеў адсылае чытача да публікацыі Янкі Брыля ў «ЛіМе», але ў адпаведнасці са сваімі мэтамі акцэнтуе ўвагу толькі на злачынстве партызан, пра якое пісьменніку расказала старая настаўніца з Віцебшчыны. Я ж хачу звярнуць увагу на другую частку гэтай публікацыі, якую «вядзе» ўжо сам пісьменнік. А ён адшукаў-такі сляды таго камандзіра атрада, які ўчыніў злачынную акцыю. Ім аказўся прысланы з-за фронту па лініі Беларускага штаба партызанскага руху старшы лейтэнант Баграт Калайджан. Камандаванне брыгады туды яго і вярнула з адпаведнай характарыстыкай, у выніку чаго ён, па чутках, трапіў у штрафны батальён (мера пакарання ў час вайны амаль што вышэйшая).

Дарэчы, я добра ведаў камандзіра Асвейскай брыгады, цяпер ужо нябожчыка Івана Кузьміча Захарава, Героя Савецкага Саюза, да вайны дырэктара мясцовай МТС, надзвычай вытрыманага, рахманага чалавека. Калі я пачаў чытаць Янку Брыля і ўцяміў, што ўсё адбывалася ў «гаспадарцы» Захарава, адразу падумалася: а як жа ён — само ўвасабленне справядлівасці — паставіўся да такога злачынства свайго падначаленага, няўжо мог спісаць усё на вайну? Аказалася, што паставіўся, як належыць. Не забыўся Захараў пра таго Калайджана і ў сваёй кнізе ўспамінаў «Война в краю озер» — там сказана пра яго некалькі адпаведных слоў.

Час ад часу кланяючыся партызанам за іх мужнасць і геравічныя справы, Я. Шыраеў усё ж вядзе к таму, каб выдаць партызанскі рух за нейкую пошасць, якая злавесна дае аб сабе знаць і ў пасляваенным жыцці рэспублікі. Ён абураецца, што пасля вызвалення «Беларусь апынулася ў поўнай уладзе партызан», прычым найбольш актыўнымі праваднікамі «бальшавіцка - партызанскай ідэалогіі» былі іменна «псеўдапартызаны». Ну што ж, наконт «захопу ўлады» пярэчыць не буду. Але скажыце, калі ласка, каму мы, адваяваўшыся, павінны былі здаць уладу: тым жа бургамістрам, паліцаям і іншым прыслужнікам акупантаў? Бо іншых прэтэндэнтаў не было. Канешне, не ўсе былыя партызаны ў новай якасці аказаліся на вышыні, тады ўвогуле стыль кіраўніцтва нёс на сабе адбітак ваеннага часу з яго жорсткай каманднай псіхалогіяй. Ды адкуль жа было ўзяцца ідэальным палітычным і гаспадарчым кіраўнікам? Рабілі, як маглі, з тым жа штурмавым пафасам, што і ў ваенных абставінах, на жаль, не разумеючы, што выспявала неабходнасць у новых, дэмакратычных метадах. А «псеўда» ў нас, прызнаем, заўсёды хапала і хапае, удосталь іх і ў шарэнгах сучасных «змагароў за народнае дзела». Узвальваць на былых партызан адказнасць за ўсе грахі сталіншчыны і пасляcталінскай палітыкі — ці ж гэта не тэндэнцыйнасць самага крайняга гатунку?

Не, на «метадалагічнай» заквасцы, якую прапануе Я. Шыраеў, поўнай, праўдзівай, сапраўды навуковай карціны партызанскай вайны не створыш. Будзе яна куды больш касабокай і збедненай, чымся створаная дагэтуль, пад націскам ідэалагічна-прапагандысцкіх схем.

У заключэнне хацелася б папрасіць аўтара артыкула, каб ён не палічыў, быццам бы я, усяго толькі кандыдат навук, набраўся нахабства павучаць яго, доктара навук. Рабіў я свае «заўвагі на палях» пераважна з разлікам на маладога чытача. Каб ён, у прыватнасці, не блытаў сённяшніх немцаў, якія прызналі Беларусь як суверэнную дзяржаву, з тымі, што былі ачмураны гітлераўскай расісцкай ідэалогіяй. І каб з пачцівасцю ставіўся да тых старонак гісторыі роднага народа, якія трэба браць на сваё духоўнае ўзбраенне.

**Н. ПАШКЕВІЧ,**
**удзельнік партызанскага руху на Беларусі.**

# «Юнацтва»—пра далёкае мінулае

**Тэма гісторыі Беларусі ў планах выпуску выдавецтва займае адметнае месца і з кожным годам пашыраецца. Прычым «Юнацтва» не абмяжоўваецца мастацкімі творамі гістарычнай накіраванасці, а штогод прапаноўвае юным чытачам некалькі кніг гістарычнай тэматыкі розных жанраў.**

**Так, напрыклад, у 1990 годзе выйшлі ў свет наступныя кнігі:**

1. Зборнік «Старажытная беларуская літаратура». Навуковы артыкул, тэксты, каментарыі.

2. Зборнік «Падарожная кніга Ф. Скарыны». Артыкулы, нататкі, апавяданні, вершы пра жыццё і дзейнасць славутага сына зямлі беларускай; яго творы, прадмовы да кніг.

3. Зборнік «Бацькаўшчына». Цалкам прысвечаны гістарычнаму мінуламу Беларусі. У першую кнігу альманаха ўвайшлі творы Я. Дылы «На шляху з варагаў у грэкі», «У імя дзяцей», «Падуанскі студэнт»; У. Караткевіча «Сівая легенда», «Ладдзя роспачы»; В. Шматава «Урокі Скарыны».

**У нялёгкім для кнігадрукавання 1991 годзе юныя чытачы атрымалі наступныя кнігі:**

1. Лойка А. «Скарына на Градчанах». Аб пражскім перыядзе жыцця Ф. Скарыны.

2. Глобус А., Клімковіч М. «Дзікае паляванне». Комікс паводле аповесці У. Караткевіча «Дзікае паляванне караля Стаха».

3. Кніжка-карцінка «Падарожжа па гарадах-героях». Аб узнікненні і славе гарадоў-герояў, у тым ліку Мінска і Брэсцкай крэпасці.

**У бягучым 1992 годзе будуць выдадзены:**

1. Краўцэвіч А. «Гродзенскі замак». Своеасаблівае падарожжа ў беларускае сярэднявечча. Гісторыя гродзенскага Старога замка, расказ пра жыццё і побыт нашых далёкіх продкаў.

2. Гайдук М. «Паратунак». Гістарычнае эсэ. Шляхам гадоў пройдзе чытач побач з простымі воінамі і знакамітымі князямі, стане сведкам згуртавання перад крыжацкім нашэсцем — за свой паратунак, за існаванне славянства.

3. Дайнека Л. «Меч князя Вячкі», «След ваўкалака». Раманы пра барацьбу нашых далёкіх продкаў супраць рыцараў-крыжакоў і пра малавядомыя старонкі жыцця князя Усяслава Полацкага.

4. Ермаловіч Я. «Рэліктавы перазвон». Аповесць — своеасаблівы гімн працы, расказ пра гісторыю ўзнікнення сялянскіх прылад.

5. Зборнік «Бацькаўшчына». Чарговая кніга знаёміць з гістарычнымі творамі беларускіх пісьменнікаў і вучоных. Прапануе галерэю партрэтаў гістарычных дзеячаў Беларусі.

**Цікавыя гістарычныя кнігі падрыхтавала «Юнацтва» на 1993 год выпуску:**

1. Кніжка-карцінка «Адкуль мы?» Тэкст напісаў Л. Дайнека.

2. Зборнік «Згукі Бацькаўшчыны». Пазнаёміць з творамі Е. Полацкай, К. Тураўскага і іншых дзеячаў беларускай культуры.

3. Арлоў У. «Міласць князя Гераніма». Гістарычныя аповесці і апавяданні.

4. Дайнека Л. «Жалезныя жалуды». Раман аб падзеях XIII стагоддзя на тэрыторыі Беларусі.

5. Цярохін С. «Мядовы бунт». Эсэ. Пра старажытныя рамёствы і гульні нашых продкаў, незвычайныя адкрыцці.

6. Якімовіч А. «Кастусь Каліноўскі». Аповесць пра паўстанне 1863 года і яго кіраўнікоў.

**Нямала задумак ёсць і на 1994 год. Напрыклад: Л. Дайнека піша для самых маленькіх чытачоў кнігу «Агонь і цені» — 10 апавяданняў з гісторыі Беларусі. Разам з тым выдавецтва хацела б, каб пісьменнікі і навукоўцы звярнулі асаблівую ўвагу на юных чытачоў і прапанавалі «Юнацтву» цікавыя, пазнавальныя, таленавітыя творы гістарычнай тэматыкі, якія б маглі ўнесці адметны ўклад у фарміраванне нацыянальнай годнасці беларусаў, у гістарычную адукацыю юных.**

**Міхась ПАЗНЯКОЎ,**
**галоўны рэдактар выдавецтва «Юнацтва».**

ПРЭМ'ЕРЫ

## Пяюць... і Кот і Людаед!



Фота А. ВАЙНШТЭЙНА.

25 сакавіка на сцэну ДАВТа выйшаў «Кот у ботах». Прэм'еру гэтай амаль забытай оперы Ц. Кюі паказаў Дзіцячы музычны тэатр-студыя. Музычны кіраўнік і дырыжор В. Собалеў, галоўны хормайстар і дырыжор Н. Ламановіч, мастацкі кіраўнік пастаноўкі С. Цырук, рэжысёр І. Давыдава, балетмайстар А. Дзмітрыева-Лаўрыновіч, мастак-пастаноўшчык Т. Каралёва... Пяюць, танцуюць, з артыстызмам прадстаўляюць герояў вядомай казкі Ш. Перо, пакладзенай у аснову лібрэта, юныя салісты Глеб Мацвяйчук, Жэня Окунь, Віка Смірнова, Гена Антонаў і многія іншыя ўдзельнікі студыі, поруч з якімі заўзята ўключаюцца ў дзеянне і дарослыя артысты — А. Кралін, А. Гардынец, М. Качаноўскі. Першыя спектаклі з поспехам прайшлі ў дні школьных канікулаў.

Н. К.

МУЗЫКА

## Няма цаны той дапамозе...

Дабрачыннасць заўжды, асабліва ж у наш скрутны час, выклікае пачуццё павагі й удзячнасці. Тым больш, калі тая дабрачыннасць — ад людзей, якія самі маюць асаблівую патрэбу ў дабрыні ды спагадзе. 25 сакавіка ў Белдзяржфілармоніі адбыўся дабрачынны канцэрт у дапамогу Жодзінскаму дашкольнаму дзіцячаму дому, з удзелам двух калектываў культурна-асветнага цэнтра Беларускага таварыства інвалідаў па зроку.

У выкананні Камернага хору (кіраўнік Л. Пашчанка) гучала духоўная музыка: «Песня да Бога» Г. Пёрсэла і фрагменты «Літургіі Іаана Златавуста» М. Куліковіча-Шчаглова. Гэты твор беларускага кампазітара практычна невядомы на ягонай радзіме, і першае выкананне выклікала вялікую цікавасць. Глыбокая, рэдкай прыгажосці музыка атрымала пранікнёнае прачытанне.

Выступіў і эстрадна-сімфанічны аркестр (дырыжор У. Цатураў), салісты — заслужаны артыст Беларусі І. Тамашэвіч, А. Крывіцкі, лаўрэат рэспубліканскага конкурсу Л. Смірнова, С. Тарлоўскі, дыпламант рэспубліканскага конкурсу В. Патрый. Рэпертуар гэтага калектыву ўключае багата твораў беларускіх аўтараў: гучалі песні У. Будніка, У. Прохарава, З. Яўтуховіча, В. Іванова, Я. Магаліфа, І. Канцюкова, І. Лучанка, п'есы для аркестра В. Раінчыка, А. Моўчана. Калектыў існуе толькі каля трох гадоў і вядзе вялікую творчую работу, выступае перад працаўнікамі прадпрыемстваў свайго таварыства ў розных гарадах рэспублікі, у вайсковых падраздзяленнях, шпіталях і інш. У складзе аркестра — прафесійныя музыканты, паяднаныя агульнымі творчымі пошукамі. Вызначаюцца салісты А. Ткачук (труба), У. Вылягжанін (саксафон), і І. Волкаў (гітара). Эстрадна-сімфанічны аркестр здатны быць канкурэнтам іншым нашым калектывам.

Да слоў удзячнасці, выказаных айцом Ігарам,— за радасць сустрэчы з музыкай і людзьмі, адданаымі чароўнаму мастацтву і гатовымі памагчы ў цяжкую часіну пакутнікам, далучыліся й усхваляваныя слухачы.

І. ГУРАРЫЙ.

## Лаўрэатка Бахаўскага конкурсу

У гісторыі Музычнага ліцэя пры Белдзяржкансерваторыі гэта ці не другі выпадак, калі яго вучань вяртаецца з міжнароднага конкурсу піяністаў лаўрэатам. Першым быў некалі Ігар Алоўнікаў. І вось нядаўна юная Лена Мяцельская, вучаніца педагога Наталлі Ташчылінай. вызначылася на Міжнародным Бахаўскім конкурсе ў Германіі. Германія, Бах, 120 удзельнікаў з усяго свету... Можна сабе ўявіць, як хвалявалася дзяўчынка, тым больш, што паводле жэрабя выпала ёй выступаць пад першым нумарам! Вынік? Трэцяе месца. Як тут ні парадавацца за лаўрэатку, беларускую піяністку Лену Мяцельскую і яе педагога!

ТЭАТР

## Да Малчанаўскага юбілею

Вечарына, прысвечаная 90-годдзю з дня нараджэння вялікага майстра беларускай сцэны Паўла Малчанава, адбылася ў Доме літаратара. Пра свае сустрэчы з майстрам сцэны расказаў пісьменнік А. Слесарэнка. Мінчукі змаглі ўбачыць ігру Паўла Сцяпанавіча ў старадаўнім жарце «Збянтэжаны Саўка» (разам з вядомай Г. Макаравай), — стужку з асабістага кінаархіва А. Слесарэнкі. У дакументальным фільме «Громаў пра Малчанава» падаваўся расповяд вялікага майстра рускай сцэны пра свайго беларускага паплечніка. На жаль, артысты Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, якому аддаў лепшыя гады творчасці П. Малчанаў, не ўзялі ўдзелу ў вечарыне.

П. ГАРДЗІЕНКА.

АДРАДЖЭННЕ

## Таваразнаўства — па-беларуску

Прызнацца, пасля Хазанава стаўленне да ўсіх гэтых «кулінарных» вучылішчаў і тэхнікумаў у многіх асацыіруецца з нечым негатыўным. Аказваецца, дарма. Вось Мінскі тэхнікум гандлю, напрыклад. Сярод адпаведных навучальных устаноў тут ці не першымі пачалі выкладаць гісторыю, хімію, таваразнаўства, матэматыку і іншыя прадметы па-беларуску. Ды і размаўляць між сабой навучэнцы і выкладчыкі імкнуцца на роднай мове. Да ўсяго кіруюцца прынцыпам: умеем самі — навучым іншых. Нядаўна ў тэхнікуме прайшоў рэспубліканскі семінар кіраўнікоў сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў «Каб мова стала роднаю».

## Мова аб'ядноўвае вернікаў

Кожны аўторак, увечары, бібліятэка імя Пушкіна ў Мінску гасцінна расчыняе дзверы адной са сваіх залаў перад вернікамі розных хрысціянскіх канфесій. Тут яны разам займаюцца вывучэннем і тлумачэннем Евангелля, дыскутуюць, слухаюць лекцыі, развучваюць гімны, спраўляюць набажэнствы. І ўсё — на беларускай мове. Сярод наведвальнікаў пераважаюць пратэстанты, але прыходзяць і праваслаўныя, і каталікі, і уніяты. Можна сустрэць тут навукоўцаў, пісьменнікаў, мастакоў, артыстаў, настаўнікаў, вайскоўцаў.

— На ўсіх хрысціян,— кажа адзін з ініцыятараў стварэння клуба вернікаў пратэстанцкі святар Эрык Сабіла, — адно Святое Пісанне. І Бог — адзін. Чаму ж павінны размяжоўваць нас штучна створаныя моўныя бар'еры? У праваслаўнай царкве гучыць пераважна руская мова, у каталіцкім касцёле — польская. І пратэстанцкія абшчыны ў большасці сваёй трымаюцца рускай мовы. Гэта не можа не адбівацца адмоўна на працэсе згуртавання нацыі, на адраджэнні нашай нацыянальнай культуры. Вось мы і паставілі перад сабой мэту — спрыяць пашырэнню ўжытку роднай мовы ва ўсіх хрысціянскіх цэрквах на Беларусі...

Мэта — высакародная. Трэба спадзявацца, што колькасць прыхільнікаў беларускай мовы сярод вернікаў-хрысціян і святароў будзе няўхільна расці.

А. В.

ЛІТКУР'ЕР

## Першыя чытанні

У мэтах ушанавання памяці пісьменніка-земляка Максіма Гарэцкага, выконваючы раённую праграму «Спадчына», Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія, Горацкі аддзел культуры і гісторыка-этнаграфічны музей арганізавалі навуковыя чытанні, прысвечаныя 99-годдзю з дня нараджэння класіка нацыянальнай літаратуры. У чытаннях прынялі ўдзел родныя пісьменніка, навукоўцы, журналісты, супрацоўнікі музея.

Пленарнае пасяджэнне адкрыў прарэктар па вучэбнай рабоце сельгасакадэміі М. Дабралюбаў. Удзельнікаў чытанняў вітаў загадчык аддзела культуры Горацкага райвыканкома Р. Макееў. Пляменнік М. Гарэцкага, акадэмік АН Беларусі Р. Гарэцкі па даручэнні дачкі пісьменніка Галіны Максімаўны выступіў з паведамленнем «М. Гарэцкі і народная творчасць». Аб спадчыне М. Гарэцкага і перспектывах яе вывучэння расказаў член-карэспандэнт АН Беларусі М. Мушынскі. Удзельнікі пленарнага пасяджэння паглядзелі слайд-фільм «Сцежкамі жыцця М. Гарэцкага».

Потым адбыўся святочны канцэрт, у якім былі выкананы творы М. Гарэцкага «Стогны душы», «У лазні», паказана пастаноўка п'есы «Любачка і Гапон», гучалі беларускія песні, выконваліся народныя танцы.

На другі дзень прайшло секцыйнае пасяджэнне, на якім разглядаліся асобныя пытанні жыцця і творчасці пісьменніка, асаблівасці яго мовы. Адбылася паездка на радзіму М. Гарэцкага ў вёску Малая Багацькаўка.

Вырашана звярнуцца да Мсціслаўскага райвыканкома з просьбай аб завяршэнні будаўніцтва дарогі ад шашы Горкі — Мсціслаў да роднай вёскі М. Гарэцкага, а Горацкі гарадскі Савет прасіць вызваліць кватэру, дзе пісьменнік быў у 1926—1928 гадах, пад мемарыяльную кватэру-музей, каб да 100-годдзя з дня нараджэння М. Гарэцкага ўвекавечыць аб ім памяць у Горках.

Прынята рашэнне аб стварэнні рэспубліканскага навукова-асветніцкага таварыства імя М. Гарэцкага. Усіх, хто падтрымлівае гэтую ідэю, і хоча ўнесці ўклад ў вывучэнне спадчыны класіка нацыянальнай літаратуры, просім звяртацца ў Горацкі гісторыка-этнаграфічны музей (213410, Горкі, завулак Якубоўскага, 2, тэл. 2-34-87), якому на першапачатковым этапе даручана займацца арганізацыйнымі пытаннямі.

У. ЛІЎШЫЦ,
дырэктар Горацкага гісторыка-этнаграфічнага музея, старшыня аргкамітэта Першых Гарэцкіх чытанняў.

## Ах, жанкі, жаночкі...

«Споведзі знявечаных душ» — так назваў кнігу, выпушчаную выдавецтвам «Беларусь», Алесь Усеня. Душы «герояў» яе сапраўды знявечаныя. Самае ж страшнае, што спавядаюцца жанчыны. Забойцы, рабаўніцы... Пра гэта яшчэ не так даўно амаль не пісалася. А між тым рэчаіснасць наша гаварыла, крычала, лямантавала: дэградуе аснова асноў—жанчына. А, пэўна ж, менавіта тут вытокі нашай бездухоўнасці, азлобленасці, агрэсіўнасці...

## Суладдзе талентаў

У Доме літаратара прайшла прэм'ера кнігі Віктара Карамазава «Крыж на зямлі і поўня ў небе», выпушчаная нядаўна выдавецтвам «Юнацтва». Апавядае яна аб жыцці і творчасці нашага знакамітага земляка Вітольда Бялыніцкага-Бірулі. Пра ўменне аўтара па-майстэрску раскрыць свет В. Бялыніцкага-Бірулі гаварылі народны пісьменнік Беларусі Я. Брыль, які вёў вечар, А. Кудравец, А. Марачкін і маладая мастачка Г. Хінко-Янушкевіч, якая афармляла кнігу. У выкананні салісткі Белдзяржфілармоніі І. Шумілінай гучалі творы Бетховена, Шуберта, Чайкоўскага, Шапэна, якія так любіў мастак. Старонкі з кнігі В. Карамазава прачыталі М. Захарэвіч, П. Дубашынскі, З. Белахвосцік.

П. ГАРДЗІЕНКА.

## Памятае Беларусь Шаўчэнку

Грамадскасць Кобрына правяла вечар, прысвечаны памяці выдатнага ўкраінскага кабзара Тараса Шаўчэнкі. Пасля даклада аб яго жыцці і творчасці адбыўся канцэрт калектываў школ Млынава Ратнаўскага раёна Украіны і Дзівіна Кобрынскага раёна, у якім гучалі ўкраінскія і беларускія народныя песні. Гімнам дружбы стала ў агульным выкананні песня «Реве та стогне Дніпр широкі».

А. ЦЕЦЯРУК.

## Пагадненне падпісана ў Егіпце

Вось ужо больш за дзесяць гадоў трывалыя творчыя сувязі падтрымліваюць між сабой егіпецкая кнігавыдавецкая і кнігагандлёвая фірма «Мэй» і беларускае выдавецтва «Юнацтва». За гэты час на арабскай мове ў нашай рэспубліцы па яе заказах выдадзена адзінаццаць кніг, тыраж якіх перавышае 300 тысяч экземпляраў. Юныя егіпцяне пазнаёміліся з казкай Максіма Танка «Быліна пра касмічнае падарожжа мураша Бадзіні», серыяй «Казка за казкай», бібліятэчкай «Зрабі сам».

Рыначныя адносіны вымагаюць новых падыходаў да ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва. З гэтай мэтай у Каіры адбылося падпісанне мемарандума аб стварэнні сумеснага прадпрыемства «Нашы кнігі». Заснавальнікамі яго выступілі фірма «Мэй», Цэнтр дзіцячай кнігі з Масквы, выдавецтвы «Юнацтва» (Мінск), «Цірытам» (Эстонія), «Молодь» (Украіна).

## Пра майстроў — па-майстэрску

Пад вокладкай новай кнігі доктара мастацтвазнаўства Анатоля Сабалеўскага «Асоба мастака», толькі што выпушчанай выдавецтвам «Мастацкая літаратура», сабраны артыкулы, нарысы, са старонак якіх ажываюць воблікі тых слынных майстроў нацыянальнага тэатра, пра каго і сапраўды можна гаварыць, як пра асобу — Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і Францішка Аляхновіча, Фларыяна Ждановіча і Барыса Платонава, Ларысы Александроўскай і Глеба Глебава...

Піша А. Сабалеўскі і пра нашых сучаснікаў — Андрэя Макаёнка, Аляксея Дударава...

ВЫСТАВА

## «Пушкін зь Віцебску» — у Менску

Год назад Алесь Пушкін ладзіў у горадзе над Дзвіною выставу пад назовам «Пушкін у Віцебску». А сёлета, 25 сакавіка, у Дзень незалежнасці Беларусі, ён адкрыў выставу ў менскім Доме літаратара — «Пушкін зь Віцебску». На адкрыцці мела месца тэатралізаванае дзейства (перфомэнс).

У ім бралі ўдзел сам мастак, апрануты ў адмысловую світку і капялюш з пяром, чорны раяль, аголеная мадэлька і жывы певень. Падчас перфомэнса гучала музыка і вершы, гарэлі бенгальскія агні. Адным словам, мастак ужо каторы раз пераконвае гледачоў, што Дзень незалежнасці — гэта неабавязкова «свята са слязамі на вачах», ёсць у жыцці месца радасці.



А. ПУШКІН. «Аўтапартрэт».

Колькі слоў пра саму выставу. Часткова яна складаецца з твораў ужо экспанаваных. Скажам, у Віцебску была інсталяцыя-дыпціх «Адзенне Беларусі народнай» і «Адзенне Беларусі сацыялістычнай». Першая частка — народны строй з музея, другая — пудзіла «калгасніка». Цяпер гэта — трыпціх, дыпціх дапоўнены голым манекенам жаночага полу, дэкарыраваным аплікацыямі ў выглядзе грашовай купюры (50 р.) і талонаў на харчаванне—«Адзенне Беларусі сучаснай».

Жывапісныя работы Пушкіна з ліку новых, створаных за год, што прайшоў з выставы ў Віцебску, і нідзе дагэтуль не экспанаваных, — у большасці ўспрымаюцца як эскізы (і такімі фактычна з'яўляюцца) будучых грунтоўных твораў. Відаць, час мастаку пераасэнсаваць сёе-тое са свайго творчага вопыту і не распыляцца на драбязу. Тым болей, што А. Пушкін мае высокую рамантычную мару — зрабіць роспісы і вітражы ў Полацкай Сафіі.

П. ВАСІЛЕЎСКІ.

P. S. З выставы невядомымі асобамі ўкрадзена некалькі твораў. Ці не сведчыць гэта аб поспеху мастацтва А. Пушкіна ў гледачоў?

## Можна і прыдбаць

Чарговая экспазіцыя разгарнулася ў Цэнтральным выставачным павільёне Рэспублікі Беларусь. Мінскі метадычны цэнтр і абласное аддзяленне Беларускага фонду культуры арганізавалі тут выстаўку-продаж твораў народных умельцаў. Тут творы жывапісу, мастацкага ткацтва, вырабы са скуры, саломкі, дрэва. Іх можна не толькі пабачыць, але пры жаданні і прыдбаць.

ДРУК

## І хочацца, і колецца

Паступіў у кнігарні тэматычны план выпуску літаратуры выдавецтва «Вышэйшая школа» на 1993 год. Знаёмішся з ім з прыемнасцю. Як бачна, не забываюць у калектыве аб своечасовым выкананні Закона аб мовах. З'явяцца на роднай мове дапаможнікі і падручнікі. Напрыклад, «Зборнік задач па курсу агульнай фізікі», «Кіраўніцтва да рашэння задач, па агульнай фізіцы». Маецца намер выпусціць «Кароткі руска-беларускі слоўнік эканамічных тэрмінаў», «Руска-беларускі матэматычны слоўнік» і іншыя аналагічныя выданні. А каго не зацікавіць кніга «Вяртання маўклівая споведзь: постаці дзеячаў беларускага Адраджэння ў кантэксце часу», у якой сабраны матэрыялы аб жыцці і творчасці В. Ластоўскага, братоў Луцкевічаў, Ф. Аляхновіча, Н. Арсенневай, А. Мрыя і іншых?

Вось толькі цэны... Як у той прымаўцы: «І хочацца, і колецца». Арыенціровачная цана кнігі «Вяртання маўклівая споведзь» ажно 17 рублёў 50 капеек.

КОНКУРСЫ

## Хто ж ты, «Настаўнік года-92»?

Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь 5—10 красавіка праводзіць у Мінску другі рэспубліканскі конкурс прафесійнага майстэрства «Настаўнік года-92». У праграме яго — адкрытыя ўрокі, навукова-тэарэтычныя і творчыя конкурсы. Няма сумнення, што будуць названы дастойныя пераможцы. Тыя, што валодаюць прафесійным майстэрствам. А мо і тыя, што з павагай ставяцца да нацыянальнай мовы? У адрозненне, скажам, ад намесніка міністра адукацыі Беларусі Г. Бутрыма, які праграмы конкурсу, аддрукаваныя па-беларуску, прапанаваў рэдакцыям рэспубліканскіх газет з уласным лістом на рускай мове. Што ж, намесніку міністра, пэўна, лепей ведаць, якой мовай карыстацца для дзелавой перапіскі ў суверэннай дзяржаве!

# Не «дзядзька» — беларусы ў Вільні!

(Пачатак на стар. 3).

батлейку, новы вобраз уніі, гэткай адзінай беларускай рэлігіі, імя якой — мастацтва! Уплішчыла, а потым — дала прастору, прычакала плёну! З жалем, так бы мовіць, стыхійнага верніка, перапрашаю і «айцоў духавых» (паводле Ганулі Зносчыхі), і дзядзек святароў таксама. Паводле беларускага філосафа нават нашаму фальклору ўласцівы перавод вышніх вобразаў (напрыклад, багоў, анёлаў) у матэрыяльнацялесны ніз; паводле летувіскага крытыка, няма, мабыць, нацыі, якая б так іранічна ставілася да свету і да сябе ў свеце. «Вас не спапяліць Чарнобыль, — цягнуў неэмацыянальны калега, — вы праз слёзы і з яго насмеяцеся. Ніколі не бачыў, каб так умелі пакпіць ды пасмяяцца з сябе!»

Дэпартамент па справах нацыянальнасцяў у асобе дырэктара Галіны Кабецкайтэ мог быць задаволены: беларускую незалежнасць ушанавала і свята беларускай культуры. Перадусім — тэатральнай...




На вернісажы «Пагоні».

●

Выяўленчае мастацтва Беларусі было прадстаўлена на свяце нашай культуры ў Вільні творамі мастакоў суполкі «Пагоня». Вернісаж адбыўся ў віленскім Палацы мастацкіх выстаў 26 сакавіка. Прывітальнае слова на летувіскай мове сказаў Аляксей Марачкін, ад віленскіх беларусаў выступіў Алег Аблажэй. Сэнс абодвух выступленняў: мастацтва яднае народы, творцы культуры здольныя зрабіць тое, што не заўжды могуць палітыкі — навесці трывалыя масты ўзаемаразумення.

Мастакі «Пагоні» не імкнуліся здзівіць віленчукоў сваёй творчай разняволенасцю і крутым авангардам. Гэта было б даволі цяжка (віленчукі лепей за нас знаёмы з сучасным мастацтвам Захаду і ў сэнсе авангарду пайшлі далей, чым мы) і галоўнае — навошта? У нас свой шлях, сваё бачанне свету. Выстава стала своеасаблівым люстэркам беларускага менталітэту. Вядома, што беларусы — людзі ўпартыя, але да экстрэмізму не схільныя (у тым ліку і ў мастацтве). Выстава «Пагоня» ў Вільні» знаёміць віленскага і летувіскага гледача з шырокім спектрам беларускага выяўленчага мастацтва ад выцінанкі да інсталяцыі. Дарэчы, удзел у выставе бяруць і беларусы-віленчукі, бо сярод сяброў «Пагоні» і мастакі-беларусы замежжа. Над экспазіцыяй плённа працавалі графік Уладзімір Вішнеўскі і дызайнер Леў Талбузін.

Нагадаю, што «Пагоня» нарадзілася ў 1990 годзе на з'ездзе СМ як вынік расколу ў рэспубліканскім Саюзе мастакоў. Мастакі з «Пагоні» галасавалі за поўную незалежнасць СМ Беларусі ад «цэнтра». На свяце незалежнасці ў Вільні «Пагоня» прадстаўляе і творчы саюз, і Беларусь увогуле.

●

Афіцыйную праграму Свята закрываў канцэрт мужчынскага хору «Унія».

Засталося назваць тых віленчукоў, хто прычыніўся да арганізацыі Свята. Гэта старшыня Таварыства беларускай культуры ў Летуве сп. Хв. Нюнька, старшыня віленскай «Сябрыны» сп. В. Стэх, загадчыца кафедры беларускай мовы, літаратуры і этнакультуры Віленскага педінстытута сп. Л. Плыгаўка ды іншыя.

**Ю. ЗАЛОСКА,**
**Ж. ЛАШКЕВІЧ.**
**П. ВАСІЛЕЎСКІ,**
**У. ПАНАДА (фота).**

З МІНУЛАГА

# ГАРТАЮЧЫ СТАРЫЯ ЧАСОПІСЫ



Эдвард Хлапіцкі належыць да тых, хто ў мінулым стагоддзі пракладваў першыя шляхі ў вывучэнні багатай традыцыйнай культуры нашага народа. І на гэтай ніве ім зроблена нямала. Аднак пераважная бальшыня яго прац знаходзілася да цяперашняга часу па-за ўвагай беларускай фалькларыстыкі і этнаграфіі.

Нарадзіўся Эдвард Хлапіцкі ў 1830 годзе на беларуска-літоўскім памежжы (в. Мазурышкі, паблізу Вільні). Ён супрацоўнічаў з польскамоўнымі выданнямі «Газэта польска», «Век», «Трыгоднік ілюстрованы», «Блюшч» і інш. Пісаў краязнаўчыя замалёўкі з падарожжаў, гістарычныя апавяданні, даследаванні і ўспаміны пра жыццё і творчасць вядомых пісьменнікаў. Таксама спрабаваў свае сілы ў літаратурнай галіне, займаўся перакладам і паэзіяй. Памёр у 1894 годзе.

Найбольшую каштоўнасць для беларускай навукі маюць гісторыка-этнаграфічныя нарысы, надрукаваныя ў адным з найбольш папулярных часопісаў Варшавы другой паловы XIX ст. штотыднёвіку «Клосы» («Калоссе»), што выходзіў у 1865—1890 гадах.

Штотыднёвік вылучаўся разнастайным і багатым зместам. У ім друкаваліся працы па філасофіі, літаратуры, мастацтве, гісторыі, археалогіі, этнаграфіі, фальклоры і інш.

Сярод важнейшых прац Э. Хлапіцкага гісторыка-этнаграфічны нарыс «Апавяданні з вандроўкі па краі» (1887, т. 44). Аўтар апавядае аб вандроўцы з Беластока ў Вільню, а адтуль у ваколіцы Маладзечна і Валожына. У нарысе ёсць апісанні гарадоў, мястэчак, вёсак, апавяды пра знакамітых людзей.

У час знаходжання падарожніка ў Маладзечне яму давялося бачыць вясельныя абрады ў час святкавання дажынак.

Э. Хлапіцкі апісаў усе этапы «русінскага» (беларускага. — А. Л.) вяселля, пачынаючы ад сватання і канчаючы ад'ездам маладой у хату маладога. Да тых ці іншых вясельных абрадаў падарожнік прыводзіць народныя песні з характэрным мясцовым каларытам.

Яшчэ адзін гісторыка-этнаграфічны нарыс Э. Хлапіцкага «Задняпроўе. Нататкі з падарожжа» (1867, т. 5). Гэта публікацыя з'явілася ў выніку шматмесячнай вандроўкі, якая пачалася на Верхнім Забужжы, а закончылася на паўднёвым усходзе Чарнігаўскай губерні. Падарожнік закранае гістарычнае мінулае паўднёва-ўсходняй часткі былой Магілёўскай губерні (у тым ліку г. Гомеля і яго ваколіц), яе гарадоў і вёсак, а таксама быт беларусаў Чарнігаўшчыны (якіх украінскае насельніцтва гэтай губерні называла літвінамі).

Мае цікавасць гісторыка-этнаграфічны нарыс «Піншчына, нататкі з падарожнага партфеля» (1886, т. 42), у якім аўтар дае апісанне вясельнага абрада ў ваколіцах Пінска.

Трэба адзначыць, што Э. Хлапіцкі даў усебаковую, глыбокую і даволі аб'ектыўную характарыстыку палешукоў. У адрозненне ад некаторых сваіх папярэднікаў (М. Камінскі, Э. Ажэшка), якія адзначалі, што быццам бы палешукам уласцівыя такія рысы, як лянота, інертнасць, малая рухавасць, слаба развітае пачуццё ўласнай годнасці, ён, наадварот, прыкмячае ў іх (дзякуючы асаблівым прыродным умовам іх існавання) зусім іншыя якасці: кемлівы розум ад прыроды, жвавасць і спрытнасць у рухах, здольнасць да хуткага асваення рознага роду прафесій і інш.

У 1869 годзе штотыднёвік «Клосы» надрукаваў яго «Запіскі з падарожнага партфеля» (т. 9), пра яго паездку па Навагрудскім павеце, у тым ліку па месцах А. Міцкевіча.

Можна меркаваць, што і ў далейшым пры ўважлівым разглядзе польскамоўных часопісаў і газет можна будзе натрапіць на каштоўныя для нас публікацыі гэтага аўтара.

**Анатоль ЛІТВІНОВІЧ.**

# «Справа нацыянальная і дзяржаўная Беларусі пастаўлена ва ўсёй шырыні...»

(Пачатак на стар. 5).

Добра гучала гэтая праграма, але ж рэальнае жыццё ўносіла ў яе свае карэктывы. Перш за ўсё трэба было падзяліць спадчыну, якую пакінулі былыя імперыі. Далей трэба было замацаваць новы парадак у Еўропе, дзе нарадзілася шмат маладых краін, гатовых перагрызці адна адной горла ў пагоні за лепшымі кавалкамі імперскай спадчыны. Была і яшчэ адна рэальнасць, якая надыходзіла з Усходу — пагроза бальшавізму. І таму трэба было як мага хутчэй стварыць заслону, якая б здолела стрымаць чырвоны націск. Калі ж тут было разбірацца са справамі былой імперыі Раманавых з яе вялікімі абшарамі і не менш вялікай колькасцю народаў і рознага роду ўрадаў! А з іх жа кожны прыслаў у Парыж сваіх прадстаўнікоў і ў кожнай дэлегацыі свае патрабаванні.

Прадстаўнікі Беларусі, Украіны, Эстоніі, Латвіі, Літвы, Азербайджана патрабавалі перш за ўсё прызнаць іх незалежнасць ды памагчы ў барацьбе супраць бальшавікоў. А побач з імі —прадстаўнікі «Рускай Палітычнай Нарады». У гэтых сваё патрабаванне: «Народности, входящие в состав государства, которые близки ему по крови, языку и культуре и которые занимают территории, заключающие в своих границах естественные богатства, а также по своему экономическому и стратегическому значению лишающие основное государство путем отделения возможности его дальнейшего развития и средств самозащиты — имеют право лишь на культурно-национальную автономию...»

Супярэчнасці былі такія вялікія, што кіраўнікі канферэнцыі нават і не ведалі, як да гэтай праблемы падступіцца. Вільсан заявіў, што расійская справа — гэта такая задача, вырашэнне якой і знайсці цяжка.

Ну а калі цяжка, дык не трэба ламаць галаву, трэба прызнаць таго, хто здаецца найбольш здольным да перамогі над Саветамі. «Вялікая пяцёрка» вырашыла — тыя дзяржавы, што ўзніклі на месцы былой Расійскай імперыі (у тым ліку і Беларусь), прызнаць фактычна, а ўрад Калчака — юрыдычна, г. зн. у якасці праваперaемніка былой імперыі. А для ўласнага заспакаення «пяцёрка» звярнулася 26 мая 1919 г. да Калчака з дыпламатычнай нотай, дзе патрабавала, каб той прызнаў аўтаномію ўсіх нацыянальных стварэнняў, прызнаных дэ-факта, а калі ёсць нейкія разыходжанні, то вырашаць іх на пасяджэннях Лігі Нацый, якая дзеля таго і створана. Атрымаўшы ад Калчака станоўчы адказ, кіраўнікі канферэнцыі прызналі яго ўрад дэ-юрэ. А што да закліку дзеячаў Азербайджана, Эстоніі, Грузіі, Латвіі, Паўночнага Каўказа, Беларусі і Украіны, які з'явіўся 18 чэрвеня (пісалі прадстаўнікі гэтых краін, што існуюць з вольнай волі сваіх народаў, а адносіны з усімі краінамі, у тым ліку і з Расіяй, будуць вызначаны канстытуцыйнымі сходамі на падставе міжнароднага права, як роўныя з роўным), дык яго можна і не заўважыць — што і было зроблена.

Гэтак жа паставіліся і да вырашэння іншых пытанняў. Па ўмовах Версальскага міру, які падпісала пераможаная Германія 28 чэрвеня 1919 года, скасаваўся Брэст-Літоўскі трактат 1918 г., паводле якога была падзелена Беларусь, і Германія абавязвалася прызнаць незалежнасць усіх тэрыторый, што ўваходзілі ў склад Расійскай імперыі да 1 жніўня 1914 г. (калі пачалася сусветная вайна). І ўсё, здавалася б, добра, ды толькі галоўнае — права на рэпарацыі з Германіі атрымлівала толькі Расія, а Беларусь, як і астатнія дзяржаўныя ўтварэнні ў межах былой Расіі, магла атрымаць толькі нейкую долю на адбудаванне сваёй разбуранай ушчэнт гаспадаркі, прытым толькі з расійскай ласкі.

Прыкладна тое ж здарылася і пры вырашэнні вельмі балючага для беларусаў «польскага пытання». Моцна пратэставалі беларускія прадстаўнікі на канферэнцыі супраць польскай агрэсіі, літаральна закідваючы яе кіраўнікоў адпаведнымі нотамі пратэсту. І кіраўнікі Антанты шчыра абураліся. Лойд-Джордж, напрыклад, казаў так: «Я сам належу да невялікага народа і таму заўсёды адчуваю вялікую сімпатыю да ўсіх прыгнечаных нацый. Але калі я бачу, што малыя народы, якія не паспелі яшчэ самі адчуць смак свабоды, ужо імкнуцца самі падпарадкаваць сабе іншых, маё сэрца напаўняецца смуткам. Гэтыя народы, паверце мне, больш вялікія імперыялісты, чым Англія ці Францыя, і ўжо, бясспрэчна, больш вялікія, чым Злучаныя Штаты». Гэтая прамова была накіравана супраць Польшчы. Добрымі былі гэтыя словы, ды толькі словамі яны і заставаліся. Фактычна краіны Антанты нічым не перашкаджалі польскай агрэсіі.

Больш за ўсіх патурала Польшчы Францыя. Бо для яе краіна гэтая была добрым саюзнікам, здольным супрацьстаяць і Германіі, і Савецкай Расіі. А Беларусь, што таксама ўваходзіла ў сферу французскага ўплыву (так вырашылі кіраўнікі Антанты), была стварэннем невядомым, ды яшчэ і на свет з'явілася, дзякуючы ці то Германіі, ці то Саветам — ворагам Францыі. Таму і атрымалася сітуацыя, якую Пётра Крачэўскі — адзін з найбольш выдатных асоб беларускай эміграцыі — характарызаваў так: «Еўропа зусім не разумела адбываўшыхся падзей, а Польшча стала на стары грунт — ганаровай шляхты, марачай аб вялікай дзяржаве «ад мора да мора» з далучэннем у свае абшары ўсіх беларускіх... тэрыторыяў, не лічучыся зусім з жаданнямі мясцовага жыхарства».

Падтрымалі беларусаў у выкрыванні польскай агрэсіі расійскія прадстаўнікі. Прадстаўнік урадаў адмірала Калчака і генерала Дзянікіна С. Д. Сазонаў (былы міністр замежных спраў Расіі, той самы, што прыняў у 1914 годзе з рук пасла Германіі ноту з абвяшчэннем вайны) пратэставаў супраць захопу палякамі зямель «Западной Руси» ад імя «несчастного населения, за которое некому заступить-

**НАШЫ ГОСЦІ**

# ДА НОВЫХ СУСТРЭЧ, МАЭСТРА!

## Мінскі дэбют дырыжора

Мінчане прымалі польскага госця — дырыжора з Катавіц Віктара Дмухоўскага. Яго выступленне адбылося ў канцэртнай зале філармоніі з Дзяржаўным сімфанічным аркестрам Беларусі. Праграма была прадстаўлена маладомымі ў нас творамі С. Манюшкі і М. Карловіча — імёны гэтых польскіх класікаў маюць непасрэднае дачыненне і да культуры Беларусі.

Вялікую цікавасць публікі выклікаў асноўны твор праграмы — сімфанічны трыпціх М. Карловіча «Адвечныя песні». Гэта манументальнае палатно (яно змяшчае як бы тры іпастасі глыбокага роздуму: Песня пра вечны смутак; Песня пра любоў і смерць; Песня пра ўсебыццё) не абмінула ўплыву сімфанічных канцэпцый Р. Вагнера і Р. Штрауса і адлюстроўвае вечную праблему жыцця і смерці, асэнсаваную ў духу філасофіі А. Шапенгауэра (жыццё — няўхільнасць пакут, журбота, любоў ды ілюзорнасць шчасця; смерць — растварэнне асобы ў незямным усебыцці).

Выкананне паказала, што дырыжору блізкія стылістыка і вобразны склад музыкі Карловіча. Колькі думкі, драматычнага пачуцця і псіхалагічнай тонкасці ўкладзена ў яе інтэрпрэтацыю! Складанае светаўспрыманне кампазітара, у нечым грунтаванае ідэалогіяй неарамантызму, абумовіла цэлы шэраг рысаў, якія вымагалі незвычайнай выканаўчай чуйнасці. Унутрана дынамічная, разам з тым фактурна, гарманічна і тэмбрава складаная музычная мова ўвасабляе цэлую гаму настрояў: журлівасць, чаканне, няўцешную сумоту, спагаду, надзею, веру ва ўсебыццё. І ўсё гэта — у цесным яднанні з прыродай. Карловіч фанатычна любіў горы. Цудоўная, урачыстая цішыня Татраў была адзінай, блаславёнай крыніцай натхнення. Яны навявалі неабдымнае, невытлумачальнае для жыхароў раўніны, адчуванне свабоды. Яны ж сталіся і апошнім прытулкам кампазітара. Характар Карловічавага духу вызначыў найважнейшыя стылістычныя асаблівасці творчасці. Перадусім у ягонай музыцы дамінуе выразная лірычная аснова. З усяго багацця сродкаў яе ўвасаблення вылучаюцца элегічнасць кантылены, поліфанічнасць, г. зн. жаданне даць руху кожнага голасу меладычную свабоду і цякучасць. Пры гэтым не губляецца шчырая прастата. У пераўтварэнні тэматызму кампазітар руплівa, з вялікім густам выкарыстоўвае тэмбравыя фарбы. Асабліва захапляе каларытнасць гучання струнных: яскравым узорам тут падаецца васьмігалосная «срабрыстая» тканіна зыходнай тэмы II часткі трыпціха.

Дырыжор і аркестр з зайздросным майстэрствам перадалі ўсе асаблівасці Карловічавай партытуры, складаная, амаль уся поліфанізаваная фактура ўспрымалася як простая ды гранічна ясная. Дынамічная шкала ва ўсіх градацыях тонка і скрупулёзна рэгулявалася дырыжорам. Ярка ўразілі сольныя эпізоды драўляных духавых. Узнёсла і сакавіта гучалі харалы медзі. Зместавай яснасцю і тэхнічнай чысцінёй вылучаліся струнныя. Прыемна было адзначыць, як лёгка дырыжор ажыццяўляе «лепку гукавой матэрыі» і як чула рэагуе аркестр на кожны ягоны жэст. Усё гэта — сведчанне высокіх прафесійных традыцый нашага аркестра.

З няменшым поспехам прагучала і сімфанічная уверцюра С. Манюшкі «Байка». У Мінску яна не выконвалася амаль 20 гадоў. Таму, як і трыпціх Карловіча, гэты твор успрымаўся прэм'ерай. Кампазіцыйна «Байка» прадстаўлена свабоднай рапсодыевай даволі працяглай формай і канцэнтруе ў сабе амаль усе стылістычныя якасці творчасці Манюшкі. Перш за ўсё тут заўважаецца народная інтанацыйнасць, дэмакратызм музычнай мовы: блізкая да фальклору лі-



Маэстра Дмухоўскі.

рычная насычанасць і грацыёзнасць мелодыкі, узнёсла-рашучая рытміка, адсутнасць гарманічнай тэмпарытмічнай вытанчанасці, эмацыянальнай перабольшанасці. І жывое гучанне, сама трактоўка поўнілася аптымізмам. А гэта пасля раздумліва - меланхалічнага зместу музыкі Карловіча ўспрымалася вельмі свежа і выяўляла ўласцівае гэтаму дырыжору майстэрства пераўвасаблення. Дый і многае іншае ў манеры В. Дмухоўскага прывабіла публіку: моцна сабраная дырыжорская воля і палёт фантазіі, пачуццё музычна- інтанацыйнага каларыту і сардэчнасць, тэмперамент і эмацыянальная чуласць. Як нешта асаблівае вылучаюцца славянскія рысы ў артыстычнай натуры дырыжора, галоўныя з якіх — адкрытасць і шчырасць.

Гэтыя нататкі проста немагчыма не дапоўніць пэўнымі звесткамі пра нашага госця. Яго творчы лёс даказвае (які ўжо раз!), што шляхі Гасподнія — не зведаныя.

Дык вось: В. Дмухоўскі — ураджэнец Беларусі (мястэчка Поразава на Гродзеншчыне). У 1986 г. ён скончыў Белдзяржкансерваторыю па класе баяна і дырыжыравання. Тады ж стаў лаўрэатам рэспубліканскага конкурсу студэнцкіх навуковых работ. Прайшоў армейскую загартоўку на далёкай Поўначы і вярнуўся ў Мінск, дзе працаваў з аркестрам народных інструментаў, займаўся педагогікай, паказваў сябе здольным арганістам-імправізатарам. У 1989 г. арганізаваў Таварыства польскай культуры ў Мінску і стаў ягоным старшынёй. Поспехі маладога музыканта і арганізатара атрымалі высокі грамадскі рэзананс не толькі на Беларусі, але і за мяжой. У 1990 г. В. Дмухоўскі разам з іншымі дзеячамі польскай культуры быў запрошаны ў Ватыкан, дзе Папа Рымскі Іаан Павел II даў яму аўдыенцыю і сваё блаславенне на працу і творчасць. Неўзабаве малады музыкант паступіў у аспірантуру Катавіцкай Музычнай Акадэміі ў Польшчы па класе сусветна вядомага дырыжора прафесара Караля Стрыі. Яркі музычны талент, спрыяльныя, цывілізаваныя абставіны ў вучобе й творчасці, энергічная і самаадданая праца хутка далі плён. Цяпер Віктар Дмухоўскі, працягваючы вучобу, працуе з сімфанічным аркестрам Чэнстахоўскай філармоніі і ўжо з поспехам выступіў з аркестрамі іншых гарадоў Польшчы.

Нядаўнія гастролі дырыжора ў беларускай сталіцы падарылі слухачам шмат яркіх уражанняў і пацвердзілі правільны выбар музыкантам свайго шляху. Пажадаем жа маладому маэстра шчаслівага лёсу, цікавых творчых кантактаў з беларускімі музыкантамі і новых сустрэч з мінчанамі.

**Валянцін ЧАБАН,**
**кандыдат мастацтвазнаўства.**

**АБ'ЯВЫ**

**БЕЛАРУСКАЯ ОРДЭНА ДРУЖБЫ НАРОДАЎ ДЗЯРЖАЎНАЯ КАНСЕРВАТОРЫЯ**

**АБ'ЯЎЛЯЕ КОНКУРС**

**на замяшчэнне пасад прафесарска-выкладчыцкага складу (для тых, хто мае мінскую прапіску):**

— кафедра беларускай музыкі

загадчык кафедры (узрост не старэй за 65 гадоў) —І.

Тэрмін падачы заяў — адзін месяц з дня апублікавання.

Заявы і дакументы, згодна Палажэнню аб конкурсах, накіроўваць на імя рэктара, на адрас: 220030, г. Мінск, вул. Інтэрнацыянальная, 30. Даведкі па тэл.: 27-49-42; 26-06-70.

**БЕЛАРУСКАЯ АКАДЭМІЯ МАСТАЦТВАЎ**

**АБ'ЯЎЛЯЕ КОНКУРС**

**на замяшчэнне пасад прафесарска-выкладчыцкага складу (для тых, то валодае беларускай мовай):**

— прафесара кафедры майстэрства акцёра (сцэнічная мова) — І

— дацэнта кафедры майстэрства акцёра — І

— выкладчыка кафедры майстэрства акцёра (вакальныя спевы) — І

Тэрмін падачы заяў — адзін месяц з дня апублікавання аб'явы.

Заявы і дакументы падаваць на імя рэктара акадэміі на адрас: 220012, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 81, аддзел кадраў; тэл. 32-77-34.

---

**У Мікалая СЕРДЗЮКОВА, загадчыка аддзела публіцыстыкі часопіса «Нёман», памерла маці. Калегі па рэдакцыі выказваюць яму шчырае спачуванне.**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Хведару ГУРЫНОВІЧУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці бацькі.**

---

ся». Ды толькі беларусы не паверылі ў шчырасць гэтай падтрымкі. Таму і адказалі: «Мы, беларусы, ідзем да поўнай незалежнасці і непадзельнасці, што ўжо было абвешчана ўсяму свету, адрачыся ад гэтага ніяк і ніколі не можам і нашым апякунам з Бела-Польшчы як і з Вяліка-Расеі адказаць адно можам: «Hands off!». Справу нашую на кангрэсе абараніць толькі наша Рада Рэспублікі, якая адна толькі мае права высказвацца ў пытаннях нашае палітыкі» («Беларуская Думка». 1919. 2 чэрв.).

Палякі тым часам высунулі свае патрабаванні па пытанні аб граніцах. Па іх думцы, гэтыя граніцы павінны былі праходзіць так, як праходзілі ў 1772 годзе: з Курляндыі па правым беразе Дзвіны на ўсход, уключаючы павет Полацкі, потым — на паўночны захад ад Гарадка, па левым беразе Дзвіны, за 30 кіламетраў ад Віцебска,— далей на поўдзень заварочваючы на захад ад Сянна, да пункта, дзе сустракаюцца Мінская і Магілёўская губерні, на поўдзень да Бярэзіны — да сустрэчы яе з паўночнай граніцай павета Рэчыцкага, і перасякаючы Бярэзіну, на паўднёвы захад да Прыпяці, на ўсход ад Мазыра, і, у рэшце рэшт, перасякаючы Прыпяць паміж граніцамі Мазырскага і Рэчыцкага паветаў — у паўднёва-заходнім кірунку, на Украіну.

Канферэнцыя не пайшла насустрач палякам. Было вырашана правесці ўсходнюю польскую граніцу па лініі Гродна — Ялаўка — Няміраў — Брэст-Літоўскі. 8 снежня 1919 г. Вярхоўны Савет Антанты зацвердзіў азначаную лінію сваёй спецыяльнай дэкларацыяй. Не задаволіла гэтая мяжа і беларусаў, бо адыходзілі такім чынам ад Бацькаўшчыны Аўгустоўскі, Сакольскі, Бельскі і Беластоцкі паветы, заселеныя да вайны пераважна беларусамі. Ды толькі пачулі яны ў адказ на свой запыт, што землі гэтыя абяцаў аддаць яшчэ царскі ўрад.

Зразумела, што абражалі беларускіх прадстаўнікоў такія адносіны. Не дапамагло ні стварэнне самастойнай беларускай дэлегацыі, ні прыезд на канферэнцыю ў маі 1919 г. самога Антона Луцкевіча. І рассеяліся паступова спадзяванні беларусаў на тое, што ўвойдуць яны нарэшце ў свет як роўныя паміж роўнымі народамі.

Але ж на каго было крыўдзіцца? На кіраўнікоў Антанты? На бальшавікоў з палякамі, што раздзіралі і рабавалі край беларускі? На летувісаў, якія, парушаючы ўсе папярэднія пагадненні, запатрабавалі раптам Віленшчыну і Гродзеншчыну? Альбо на сябе, што не звярнулі ў свой час увагі на неабходнасць згуртавання суайчыннікаў за мяжой—а іх падчас вайны там былі сотні тысяч,— як зрабілі тое палякі? А што такое замежныя згуртаванні? Гэта і грошы, і ідэйная падтрымка, і палітычны ўплыў праз хаўрусы выбаршчыкаў!

Ды і якая тут можа ісці размова, калі паміж сабою дамовіцца не здолелі ў такі цяжкі час! Вельмі значнай стратай сталася для Беларусі смерць у жніўні 1919 г. ад хваробы аднаго з найвыдатнейшых яе сыноў — Івана Луцкевіча, што прыцягнуў да працы дзеля Бацькаўшчыны шмат славутых асоб і з годнасцю прадстаўляў Беларусь на розных міжнародных пасяджэннях. Найбольш здатныя паслядоўнікі яго — Антон Луцкевіч і Вацлаў Ластоўскі — пачалі сварку паміж сабою на радасць палякам, бо разумелі тыя, што не змогуць адолець беларусаў і ажыццявіць свае планы, калі беларусы будуць адзіныя.

Каб узмацніць гэты раскол, польскія палітыкі паабяцалі даць беларусам шырокія правы, калі ўвойдуць тыя ў Польскую федэрацыю, і размаўляць будуць з імі «як роўны з роўным і вольны з вольным». Так казаў сам «начальнік» дзяржавы Польскай Ю. Пілсудскі. Польскі міністр замежных спраў А. Падзярэўскі запрасіў Антона Луцкевіча прыехаць параіцца аб будучых адносінах паміж Польшчай і Беларуссю. Луцкевіч, які ўжо страціў веру ў справядлівае вырашэнне «беларускага пытання» ў Парыжы, даверыўшыся польскім словам, вярнуўся ўвосень 1919 г. на радзіму. Аднак палякі абяцанняў не стрымалі — ды і ўвогуле не збіраліся стрымліваць іх, — а давер да Луцкевіча з боку многіх беларускіх патрыётаў знік. У снежні разбілася Рада Беларуская на дзве часткі — адна, на чале з Луцкевічам, спрабавала ўсё ж дамовіцца з палякамі, другая, на чале з Ластоўскім, арыентавалася на саюз з Літвой. Што ж да самога Луцкевіча, то ён пакінуў пасады кіраўніка Рады міністраў і міністра замежных спраў БНР.

Так скончылася фактычна дзейнасць беларускай дэлегацыі на мірнай канферэнцыі ў Парыжы. 21 студзеня 1920 г. яна завяршыла сваю працу. Што ж мелі беларусы ад яе? Няўжо дарма ездзілі яны ў французскую сталіцу? Не, так нельга казаць, бо ўпершыню ў сваёй гісторыі была Беларусь прызнана фактычна, а з боку такіх дзяржаў, як Германія, Чэхаславакія, Аўстрыя, Літва, Латвія, Эстонія, нават і дэ-юрэ. Пачалі падчас канферэнцыі наладжвацца кантакты паміж беларускімі дзеячамі і французскімі дэпутатамі ды амерыканскімі прадстаўнікамі. Следам за фактычным прызнаннем пачалі наладжвацца і эканамічныя сувязі, з'явілася дамоўленасць, што беларусы набудуць у французскага ўрада розных тавараў з ліку амерыканскіх вайсковых запасаў — а гэта і адзенне, і абутак, і аўтамабілі, і прадукты харчавання, і медыкаменты — на суму каля 10 мільёнаў франкаў у крэдыт, ды пусцяць усё гэта на паляпшэнне становішча свайго народа.

Быў і яшчэ адзін добры вынік — пачалося згуртаванне беларусаў па-за межамі Бацькаўшчыны, у Германіі, Чэхаславакіі, Латвіі, Літве, Злучаных Штатах Амерыкі. «Беларусы на чужыне злучаны цяпер у калоніі, нацыянальныя гурткі і г. д.,— пісаў у сакавіку 1920 г. карэспандэнт газеты «Беларускае жыццё».— У тых краёх, дзе прызнана незалежнасць Беларусі, усё беларускае грамадзянства зарэгістравана ў прадстаўніцкіх установах — місіях і консульствах — і карыстаецца ўсімі правамі грамадзян саюзных дзяржаваў» («Беларускае жыцьцё». 1920, 18 сак.).

Добра, нарэшце, было і тое, што беларуская дзейнасць атрымала сякі-такі водгук у сусветнай прэсе. А калі ўжо свет ведае аб такім народзе, дык казаць, што такога не існуе, вельмі цяжка. Таму, хаця і здолелі падзяліць Беларускую зямлю Савецкая Расія ды Польшча, усё ж павінны былі іхнія кіраўнікі прызнаць, што ёсць на свеце не нейкія «тутэйшыя» —ці то зрусіфікаваныя палякі, ці то апалячаныя рускія, а Народ Беларускі. І жыве ён, і далей жадае існаваць! Таму слушнымі былі словы Антона Луцкевіча: «Справа нацыянальная і дзяржаўная Беларусі пастаўлена ва ўсёй шырыні...» І хаця час не спрыяў таму, каб цалкам стаўся завершаным будынак беларускай дзяржаўнасці, матэрыял у яго падмурак папярэднікі нашы паклалі добра. Завяршыць жа іх працу павінны ўжо мы, ды так, каб перад нашымі нашчадкамі не было сорамна!

**А. ЦІХАМІРАЎ,**
**аспірант Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі.**

БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА

# «НЕ ЗАГІНУЛІ МЫ І НЕ ЗГІНЕМ...»

**Ачуньваючы ад летаргічнага нацыянальнага сну, мы не толькі пачынаем па-сапраўднаму ладзіць справы ва ўласным доме, але ўжо згадваем і тых, хто ў розныя часы воляю абставін апынуўся далёка ад роднай Бацькаўшчыны, ды па-ранейшаму лічыць сябе беларусам, жыве клопатам аб сваёй гістарычнай Радзіме. Безумоўна, спачатку адбылося па сутнасці адкрыццё—прынамсі, для маладога пакалення—такіх пісьменнікаў, як Масей Сяднёў, Наталля Арсеннева, Янка Золак, Міхась Кавыль і многія іншыя. Але ж беларускае замежжа не абмяжоўваецца імёнамі творцаў. Там нямала і іншых адраджэнцаў, якія ўсё сваё жыццё рупіліся аб тым, каб узнавіць малавядомыя факты нацыянальнай гісторыі, прапагандаваць удалечыні ад Радзімы роднае слова, літаратуру. Адзін з іх—Міхась Белямук, цяпер — сакратар часопіса «Полацак», які, як ужо ведаюць лімаўскія чытачы, друкуецца ў горадзе Кліўлендзе (ЗША) пры фінансавай дапамозе царквы Жыровіцкае Божае Маці і Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай царквы. Выдавецкай справай М. Белямук заняўся колькі гадоў назад, а дагэтуль, як і многія амерыканскія беларусы, вымушаны быў займацца далёка не справамі культуры.**

**Нядаўна спадар Міхась БЕЛЯМУК быў у Мінску—упершыню з таго часу, як пакінуў Беларусь. З ім гутарыць наш карэспандэнт.**

**— У нас на Беларусі пра вас ведаюць, бадай, толькі як пра аўтара гістарычных артыкулаў, якія публікаваліся ў «Чырвонай змене», бо «Полацак», на жаль, пакуль што могуць прачытаць нямногія. Таму раскажыце, калі ласка, трошкі пра сябе, пра свае карані.**

— Нарадзіўся я ў 1924 годзе. На самым сумежжы сучаснай Польшчы і Беларусі. Вёска наша Голя, якая недзе з дваццатых гадоў стала хутарам, належала то да Гродзеншчыны, то да Берасцейшчыны, а цяпер — гэта Беласточчына. Нядаўна давялося сустрэцца з мастаком Карпуком, ён, між іншым, адзін з аўтараў «Полацака». Разгаварыліся, дык, аказваецца, мы землякі. Яго вёска ад маёй Голі знаходзіцца ўсяго за некалькі кіламетраў. Бацькі мае былі сяляне. Маці памерла яшчэ ў 1954 годзе. Хварэла на сэрца, рабілі аперацыю, дык не вытрымала наркозу, а бацька пражыў яшчэ амаль дваццаць пяць гадоў. Але ж вас больш цікавіць маё жыццё. Яно, па праўдзе кажучы, падобнае на жыццё шмат каго з заходніх беларусаў. Апынуўся я, калі пачалася вайна з немцамі, у Нарвегіі. Пасля вырашыў дабірацца ў Нямеччыну, хацеў адшукаць сваіх бацькоў, якія, па маіх меркаваннях, павінны былі туды выехаць. Хаця канкрэтных звестак пра гэта не меў. На руках адпаведныя дакументы былі, таму і пераязджаў з горада ў горад. Калі апынуўся ў Кобургу, каля старога замка заўважыў гарматы. Мяне ўразіла, што на іх была выява «Пагоні». Мы, беларускія хлопцы, гэтым вельмі захапляліся, таму што больш-менш нацыянальную гісторыю ведалі. А лёс гэтых гармат — скажу забягаючы наперад — такі. Гады з тры назад у «Чырвонай змене» я прачытаў артыкул Г. Сагановіча, здаецца, «Нясвіжская збраёўня». У ім паведамлялася, што калісь у радзівілаўскім палацы ў Нясвіжы былі такія гарматы, якія затым прапалі. Я адгукнуўся на гэтую публікацыю, нават маю нататачку змясцілі. Аказваецца, недзе ў 1914 годзе гэтыя гарматы забралі з Нясвіжа і прывезлі ў Мінск. Яны стаялі ля колішняга дома губернатара да 1943 года ці крыху пазней. Пасля іх немцы вывезлі ў Германію. Памятаю, тады некаторыя немцы казалі, што ў Кобургскім замку знаходзіцца багатая бібліятэка. Магчыма, так і было. Прынамсі, амерыканцы не бамбілі Кобург.

**— Калі ласка, пра зараджэнне беларускага нацыянальнага руху ў Нямеччыне.**

— Першапачатковы беларускі цэнтр закладваўся ў Рэгенсбургу. Немцы дапамаглі ў пабудове царквы, далі неабходныя матэрыялы. Увогуле, гэта была першая беларуская праваслаўная царква на Захадзе. Драўляная... Тут жа, у Рэгенсбургу, была створана і беларуская нацыянальная гімназія, якой далі імя Янкі Купалы. Пасля ёй таксама давялося неаднаразова пераязджаць з месца на месца.

**— А што сабой уяўляла гэтая купалаўская гімназія?**

— Былі так званыя чатыры пачатковыя класы, а пасля яшчэ восем класаў у гімназіі. Вывучалі, вядома ж, беларускую мову, літаратуру, а таксама нямецкую, ангельскую, лацінскую мовы. Важнае месца ў праграме гімназіі займала гісторыя. Спецыяльна вылучалася гісторыя Беларусі, пачынаючы ад дзесятага стагоддзя. Спачатку дырэктарам гімназіі быў Аляксандр Орса, пазней Алесь Вінніцкі. Літаратуру выкладаў Аўген Каханоўскі (Калубовіч), гісторыю — Іпаліт Паланевіч. У малодшых класах дзетак вучыў Іван Муха. Цікавы чалавек, украінец па нацыянальнасці. З беларусамі ўвесь час размаўляў толькі па-беларуску, а калі выехалі ў Амерыку, там хадзіў толькі ў беларускую царкву.

**— Нацыянальнае выхаванне дзетак вялося толькі ў гімназіі?**

— У амерыканскай акупацыйнай зоне Нямеччыны беларуская моладзь арганізавала і скаўтынг. У гэтую арганізацыю прымаліся дзеці з сямі да адзінаццаці гадоў. У ёй было шэсць хлапечых сцягоў і адзін дзявочы. Сцягі аб'ядноўваліся ў штандары. Найбольшую колькасць чалавек меў штандар «Баварыя». Са сцягоў жа спачатку быў большым першы сцяг, а пасля шосты, які я арганізаваў і лічыўся ў ім сцяжным. У шосты сцяг уваходзіла каля 150 чалавек. Хлопцаў і дзяўчат. Калі ўжо гаварыць пра яго структуру, дык яна такая. Шосты сцяг складаўся са звязаў малодшых і старэйшых скаўтаў, звязу скаўтак, грамадаў пралесак і ваўчанят. Звяз у сваю чаргу дзяліўся на дружыны, у якіх было ад сямі да дзесяці чалавек. Чыталі лекцыі, праводзілі гутаркі. Святкавалі Купалле, іншыя святы. Часам проста збіраліся ля вогнішча. Гімнам стаў верш Н. Арсенневай «Беларусь наша маці-країна», музыку да якога напісаў кампазітар М. Куліковіч:

**Беларусь! Наша маці-країна!**
**Ты з нас моцных зрабіла**
**людзей.**
**Не загінулі мы і не згінем,—**
**Пакуль Ты нас наперад вядзеш!**
. . . . . . . . . . .
**Прысягаем Табе мы сягоння,**
**Што пакуль хоць адзін з нас**
**жыве,—**
**Нашай слаўнай крывіцкай**
**пагоні**
**Мы не зганьбім, мы ўславім яе!**

Калі мы пераехалі ў Амерыку, мне прапанавалі, каб я стаў шэфам усяго беларускага скаўтызму. Ды адразу пераканаўся, што гэта немагчыма. У Нямеччыне мы ўваходзілі ў Міжнародную арганізацыю скаўтызму. Тут жа павінны былі ўлівацца ў амерыканскі скаўтызм, а, значыць, не маглі праводзіць тыя мерапрыемствы, што праводзілі раней.

**— І на чым спыніліся?**

—Абмяркоўвалі гэтае пытанне ў Кліўлендзе. 80—90 працэнтаў моладзі, якая сабралася, выказаліся за тое, каб стварыць уласную арганізацыю. Увайшлі ў яе юнакі і дзяўчаты ад трынаццаці гадоў і вышэй. Так і ўзнікла Згуртаванне беларускай моладзі. А меншыя, палічылі мы, могуць уваходзіць у скаўцкую арганізацыю. У Нью-Йорку ўзнікла сваё аб'яднанне і да ўсяго арганізацыя «Маладняк». І ў іншых гарадах былі арганізацыі згуртавання. Усё ж удалося дабіцца, каб неўзабаве стала адна арганізацыя. Я прыняў умову, што кіраўніцтва будзе перанесена ў Нью-Йорк. Моладзь ладзіла літаратурныя вечарыны, нават выдавала свой бюлетэнь. Разам з Беларуска-Амерыканскім Задзіночаннем (БАЗА), аддзелам якога па сутнасці з'яўлялася згуртаванне, мы арганізавалі хор, танцавальны гурток. Але падрабязна пра гэтую і іншую работу БАЗА я расказаў ужо ў артыкуле «Пачатак», які змяшчаўся ў некалькіх нумарах часопіса «Полацак».

**— Дзякую за пазнавальную інфармацыю. Ды ўсё ж яшчэ колькі слоў пра сябе, спадар Белямук. Як вы захапіліся гістарычнай навукай? Маеце адукацыю адпаведную?**

— Не маю адукацыі... Працаваў на фабрыцы, якая выраблялa такарныя станкі, і кіраваў Згуртаваннем беларускай моладзі на грамадскіх пачатках. А тут надышоў 1954 год і мяне з работы звольнілі. К таму часу меў сякія-такія збераженні, таму і вырашыў падацца вучыцца. Паступіў ва універсітэт, на гістарычны факультэт. Правучыўся год, грошы скончыліся. Удалося ўладкавацца на працу. Яшчэ год папрацаваў, зарабіў грошы і зноў ва універсітэт. У нас гэта дазваляецца. Так бы і атрымаў вышэйшую адукацыю. Калі б... Лічу, што гэта стала маёй памылкай на ўсё жыццё. Вучоба ва універсітэце не па семестрах, як у вас, а па кварталах. Засталося ў мяне два кварталы, а тут з'явіўся новы знаёмы і прапанаваў купіць уласны дом. У яго грошай не хапала. То прапіваў, то з дзяўчатамі прагульваў. Мяне падахвоціў. Купілі старэнькую хату і адразу ў даўгі ўлезлі. Пра якую вучобу магла ісці гаворка? А да ўсяго праграма ва універсітэтах мяняецца, гляджу — ужо не два кварталы трэба вучыцца, а два гады. Без работы быў васемнаццаць месяцаў. І раптам прапанова — на тую ж самую фабрыку запрасілі, якая якраз пачала асвойваць выпуск камп'ютэраў. Але запрасілі пры ўмове — кантракт на пяць гадоў. Згадзіўся. Так і працаваў ажно да 1982 года, пакуль не пайшоў на пенсію.



Міхась БЕЛЯМУК (другі злева) на перамовах з беларускімі прадпрымальнікамі.

Фота Я. КАЗЮЛІ (БЕЛТА).

**— Але ж, спадар Белямук, цікавасць да гісторыі ў вас засталася?**

— Кожную вольную хвіліну выкарыстоўваў, каб наведацца ў бібліятэкі. І ў Гарвардскую, і ў Чыкагскую, і ва Нью-Йоркскую... То на каляды, то ў час водпуску. Круціўся, як толькі мог. Прачытваў дзесяткі часопісаў, кніг, рэдкіх матэрыялаў...

**— Відаць, некалькі моў ведаеце?**

— Зразумела, беларускую, рускую, а таксама польскую, ангельскую, старажытнарускую...

**— У «Полацаку» публікаваліся лісты Міколы Ермаловіча да вас...**

— Яго прозвішча мне было вядома даўно. Асабліва я зацікавіўся Ермаловічам пасля таго, як прачытаў у «Тезисах докладов и конференций по археологии Белоруссии» яго артыкул «Где была летописная Литва». Кніга гэтая выйшла ў Мінску яшчэ ў 1969 годзе. Так і пачалася наша перапіска. Але першым на Беларусі, з кім я пазнаёміўся, быў Георгій Штыхаў, на той час яшчэ аспірант— у 1964 ці ў 1965 годзе. Канечне, тады са мной было небяспечна падтрымліваць сувязі, як і з іншымі прадстаўнікамі замежжа. Таму часам Штыхаў даваў адрасы іншых людзей. Даўнія сувязі ў мяне і з Міхасём Чарняўскім, Яўгенам Рабцэвічам. Я ўжо казаў, што знаёмы і перапісваюся з Генадзем Сагановічам. Чалавек дванаццаць набралася на той час, калі пачалі мы выпускаць часопіс «Полацак». І ўсё гэта людзі, не пабаюся сказаць, нацыянальная эліта, хто вельмі і вельмі рупіцца пра беларускае нацыянальнае адраджэнне.

**— Кола вашых інтарэсаў?**

— У мяне ёсць поўны спіс персідскіх, арабскіх, рускіх, візантыйскіх манет, а таксама ўсходне-еўрапейскіх, якія траплялі на этнічную тэрыторыю Беларусі з глыбокай даўніны, недзе да 1200—1250 года. Наступнымі перыядамі займаецца Рабцэвіч. Выступіў з артыкулам «Эмблема на шчыце герба «Пагоня». Пытанні нацыянальнай сімволікі мяне даўно вабяць. Падштурхнуў да гэтага мой сябра Часлаў Будзька, сын вядомага нашаніўца, які быў знаёмы з Янкам Купалам, Якубам Коласам, Змітраком Бядулем і іншымі, — Эдварда Будзькі. Пра яго ёсць, дарэчы, згадкі ў энцыклапедыях. Мяркую выступіць у бліжэйшы час з такімі даследаваннямі, як крыж на мураваных сценах, крыж на купалах, на пячатках.

**— Спадар Белямук, а праца ў якасці сакратара часопіса «Полацак» турботная?**

— Уся работа па сутнасці трымаецца на нас двух — рэдактары Святлане Белай і на мне, як сакратару. Ёсць члены рэдкалегіі, але і яны ганаровыя. Аднак, думаю, турботы турботамі, а часопіс патрэбны. І нам, у Кліўлендзе, і...

**— І нам на Беларусі. Шкада толькі, што далёка не ўсе могуць пазнаёміцца з «Полацакам». Відаць, трэба было зрабіць усё, каб часопіс паступаў у нацыянальную бібліятэку. Там з ім і маглі б пазнаёміцца ўсе жадаючыя. А вам жадаю новых гістарычных пошукаў, новых артыкулаў.**

**Гутарыў**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

ЛіМ

Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.**
**Друкарня «Беларускі Дом друку».**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ—33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ—33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65, Юрась ЗАЛОСКА—33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт Уладзімір ПАНАДА — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.





Індэкс 63856

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12